КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 45 (366) ◂ 29 лістапада ◂ 2013 г.
www.novychas.info

# Новы Час

ISSN 2218-2144



НЯМІЛАЯ «МІЛАВІЦА»

Стар. 6

**КЛІМАТЫЧНЫЯ АБЯЦАНКІ-ЦАЦАНКІ**

Чарговы кліматычны саміт, што адбыўся з 11 па 22 лістапада ў Варшаве, толькі аддаліў урады ад вырашэння кліматычнага крызісу. Наш журналіст, які пабываў на гэтым саміце, дзеліцца сваімі ўражаннямі

Стар. 27

**ЯК САВЕЦКІ «КРАКАДЗІЛ» ПЕРАЙШОЎ МЯЖУ**

У сакавіку 1921 года ў Рызе была падпісана мірная дамова паміж савецкай Расіяй і Польшчай. Аднак фактычна гэтыя краіны знаходзіліся ў варожых адносінах. Адной з іх галоўных праяў стала прапагандысцкая антыпольская кампанія ў савецкіх сродках масавай інфармацыі

Стар. 31

**ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ**

Стар. 9–24



З НАГОДЫ

# ВЫБРАЛІСЯ З КРЫЗІСУ?

Сяргей ПУЛЬША

**З выдачай Расіі топ-менеджара «Уралкалія» Уладзіслава Баўмгертнера «калійная вайна» не скончылася. Але афіцыйная ўлада Беларусі робіць выгляд, што выдатна працуе і без «Уралкалія».**




У панядзелак кіраўнік Беларускай калійнай кампаніі (БКК) Канстанцін Дзедук заявіў: «Зараз мы набіраем абароты. У кастрычніку БКК выканала запланаваныя аб'ёмы пастаўкі і рэалізавала больш за 400 тысяч тон калійных угнаенняў, што перавышае аб'ёмы продажу прадукцыі ААТ «Беларуськалій» у 2012 годзе. Гэта значыць, па аб'ёмах кастрычніка 2013-ы год лепшы, чым кастрычнік 2012-га, калі праца вялася разам з расійскімі партнёрамі».

На наступны дзень Аляксандр Лукашэнка падчас сустрэчы з прэм'ер-міністрам Міхаілам Мясніковічам таксама «разганяў», што Беларусь акрыяла ад развалу калійнага картэлю, і БКК удалося стабілізаваць экспарт калію. «Я атрымліваю інфармацыю, што ў агульным мы выйшлі з таго стану, які нам дастаўся ад расійцаў. І ў гэтым годзе мы атрымаем дзесьці больш за 2 мільярды долараў даходаў толькі ад продажу калійных угнаенняў. Гэта ніядрэнны вынік, асабліва ўлічваючы тое, што на рынку калійных угнаенняў усё няпроста», — заявіў Лукашэнка.

Але ці так усё добра на самай справе? І калі так добра, то чаму Беларусь упарта працягвае настойваць на тым, каб «Уралкалій» ізноў уліўся ў БКК?

Ужо не першы раз Беларусь працягвае расійскім кідалам сваю шчырую мазолістую руку. У той жа панядзелак першы намеснік гендырэктара БКК Аляксандр Палякоў заявіў, што БКК гатовая да аднаўлення супрацоўніцтва пасля змены ўладальніка «Уралкалія». «Для рынку наяўнасць дамоўленасці паміж беларускім і расійскім бокам — гэта пазітыўна, гэтага нават чакаюць. Мы гатовыя да гэтага, не закрытыя», — заявіў Палякоў.

Пэўна, БКК не кідае спадзеваў ізноў «заручыцца» з «Уралкаліем», менавіта таму, што ў заявах беларускага боку больш аптымізму, чым праўды.

Напрыклад, Дзедук сцвярджае, што БКК удалося захаваць усю геаграфію паставак, хоць некаторыя рынкі для беларускай кампаніі «спрабавалі зачыніць калі не назаўсёды, то надоўга». Па словах Дзедука, на сёння БКК практычна аднавіла сваю долю на рынку, а ў 2014 годзе плануе пашырыць спіс краін, куды ажыццяўляюцца пастаўкі.

Аднак паводле дадзеных незалежных экспертаў, усе новыя тэндары ў ключавых рэгіёнах збыту (Індыя, Кітай і Бразілія) выйгравала менавіта расійская кампанія. Ва «Уралкалія» гэта атрымоўваецца лепш з-за больш гнуткай коштавай палітыкі, у той час як беларускае прадпрыемства вымушана трымаць больш высокія цэны, выконваючы ўказанне ўладаў Беларусі.

Але тэндэры — гэта будучыя пастаўкі. Канешне, важныя, але гэта не зараз. Зараз жа, па дадзеных кампаніі «Fertecon», беларускія пастаўкі калію на такі буйны рынак, як Бразілія, у кастрычніку 2013 склалі толькі 47,99 тысячы тон, у той час як у кастрычніку 2012 года аб'ёмы былі 270,14 тысячы тон. Пастаўкі ў Бразілію беларускага калію ў больш працяглы перыяд, са студзеня па кастрычнік, таксама значна адрозніваюцца па аб'ёмах: 1,05 мільёна тон у бягучым годзе супраць 1,368 мільёна тон у мінулым.

Абвяргаюць аптымістычныя настроі нават лічбы беларускага Нацыянальнага статыстычнага камітэта, хаця ад яго мы ўжо прызвычаіліся атрымліваць «вясёлкавыя» лічбы. Паводле Белстата, у студзені-верасні 2013 года Беларусь знізіла экспарт калійных угнаенняў у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года да 2,687 мільёна тон (у пераліку на актыўнае рэчыва) — на 10,6%. За студзень-верасень ад экспарту калію мы атрымалі валютную выручку ў 1,694 мільярда долараў. Між тым, валютная выручка ад экспарту калію за 9 месяцаў 2012 года склала 2,2 мільярда долараў, а ўсяго ў 2012 годзе сума ад экспарту калію склала 2,7 мільярда долараў.

Атрымаць за кастрычнік-снежань яшчэ 1 мільярд долараў — ці выканальная гэта задача?

Зрэшты, ёсць пытанне, наколькі сапраўды ўдалым аказаўся кастрычнік для беларускага экспарту калію. Здаецца, прэзідэнту хтосьці ў чарговы раз «уцірае акуляры». І ўцірае звыклым чынам: прыпісваючы адпраўлены, але не прададзены экспарт. Так, у кастрычніку БКК скіравала марское судна з 50 тысячамі тон калію на борце на свой склад у Кітай, унёсшы гэтыя 50 тысяч тон у агульны аб'ём экспарту. Гэтыя ўгнаенні да гэтага часу не прададзеныя і знаходзяцца там жа, на складзе. Пры гэтым трэба ўлічваць, што 50 тысяч тон — гэта аж восьмая (!) частка нібыта «экспарту» БКК за кастрычнік.

Дарэчы, аптымістычныя заявы Аляксандра Рыгоравіча і без таго разыходзяцца з ягонымі раней сказанымі словамі. Лукашэнка казаў, што Беларусь у сувязі з выхадам «Уралкалія» з БКК страціла ад 1,5 да 2 мільярдаў долараў. Пры гэтым Расія, паводле яго слоў, страціла больш за 3 мільярды долараў. Такім чынам, выхад на 2 мільярды долараў можна лічыць усяго толькі пакрыццём стратаў, і выхадам на нуль. А ніяк не прарывам у калійнай галіне.

Таму беларускі бок і праяўляе такую "звышзацікаўленасць" у далейшым супрацоўніцтве з расійскай кампаніяй. Здабыць калій — гэта яшчэ не ўсё. Трэба яго яшчэ і прадаць. А з гэтым у нас, як звычайна, праблемы.

Дарэчы, будучыня БКК і беларускага экспарту зараз вельмі цьмяная. І падаецца, што там зразумелі: Беларусі СП з «Уралкаліем» патрэбна больш, чым самому «Уралкалію». А значыць, нам можна дыктаваць умовы. «Наша кіраўніцтва раней з нагоды аднаўлення супрацоўніцтва неадназова заяўляла, што мы прымем любую здзелку, выгадную для кампаніі», — сказалі ва «Уралкаліі» на чарговыя прапановы беларусаў.

То бок, вырашаць, на якіх умовах нам супрацоўнічаць, у значнай ступені будзем не мы. Дык ці варта зноў улазіць у невядомую шэрую схему?

А пакуль толькі ў чарговы раз пацвердзілася беларуская народная прыкмета: чым грамчэй кіраўніцтва крычыць пра свае поспехі, тым горай стан рэчаў на самай справе.

СПРАВА

# ЦІМОШАК СКАРДЗІЦЦА НА МІЛІЦЫЮ

**Супраць арганізатаркі прагляду фільма пра Слуцкі збройны чын быў складзены адміністрацыйны пратакол за арганізацыю несанкцыянаванага мерапрыемства. Актывістка збіраецца падаваць у суд на дзеянні міліцыянтаў.**

Па словах Зінаіды Цімошак, у Казловіцкім Доме культуры планаваўся прагляд фільма «40 дзён сялянскай рэспублікі», знятага тэлеканалам АНТ пра падзеі Слуцкага збройнага чыну.

«Ніякай крамолы ў гэтым фільме няма. Яго транслявалі па многіх тэлеканалах, ён знаходзіцца ў свабодным доступе ў інтэрнэце. Мы загадзя дамовіліся з дырэктарам клуба, ён быў не супраць, каб у яго памяшканні правесці кінапрагляд».

Па словах суразмоўцы, на сустрэчу прыехалі сталыя людзі, многім ужо за 70 гадоў.

«Для іх гэта магчымасць даведацца больш пра гісторыю свайго краю. Яны ж нідзе не бываюць — ні ў тэатрах, ні ў музеях, ні ў кіно. Пра Слуцкае паўстанне ў нас мала гавораць, улады замоўчваюць гэту тэму — няма ні вуліцы, ні помнікаў героям, якія загінулі ў тым змаганні».

Калі арганізатары толькі наладжвалі апаратуру, у Дом культуры прыйшлі міліцыянты, якія заявілі, што мерапрыемства несанкцыянаванае, а таму не можа быць працягнутае. Яны ўзялі тлумачэнні з усіх удзельнікаў сустрэчы, а на Зінаіду Цімошак як арганізатарку склалі адміністратыўны пратакол.

«Я буду скардзіцца на дзеянні міліцыянтаў, бо наша сустрэча не падпадае пад паняцце «сход» ў законе. Больш за тое, у Канстытуцыі прапісана, што грамадзяне павінны берагчы здабыткі нацыянальнай культуры. Выходзіць, што нас пазбаўляюць гэтага права».

Скаргу склала не толькі спадарыня Цімошак, але і шэсць пенсіянераў, якія прыехалі на кінапрагляд. Яны будуць абскарджваць дзеянні міліцыянтаў як антыканстытуцыйныя. Юрыдычную дапамогу аказвае праваабарончы цэнтр «Вясна».

Нагадаем, дырэктар Казловіцкага Дома культуры пасля інцыдэнту напісаў скаргу аб звальненні па ўласным жаданні. Сваё рашэнне ён абгрунтаваў тым, што яму надакучыла ўзгадняць кожны крок з аддзелам культуры і ідэалогіі ў райвыканкаме, а дзеянні міліцыянтаў, па яго словах, зняважылі ягоны гонар і годнасць.

**spring96.org**

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# АЛЕСЬ БЯЛЯЦКІ: ДВА ГАДЫ ПАЛІТЫЧНАМУ ПРЫСУДУ

**24 лістапада 2011 года Першамайскі суд Мінска вынес прысуд кіраўніку Праваабарончага цэнтра «Вясна», віцэ-прэзідэнту Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека Алесю Бяляцкаму (пазбаўленне волі ва ўмовах строгага рэжыму тэрмінам на 4,5 гады з канфіскацыяй маёмасці).**

Праваабарончы цэнтр «Вясна», а таксама вядучыя міжнародныя праваабарончыя арганізацыі ацанілі прысуд як палітычна матываваны, скіраваны на спыненне шматгадовай дзейнасці Алеся Бяляцкага і Праваабарончага цэнтра «Вясна» ў цэлым.

Гэты прысуд супярэчыць не толькі міжнародным абавязацельствам Беларусі ў галіне абароны правоў чалавека, але і нацыянальнаму заканадаўству.

Згодна з арт. 22 Закона «Аб падаходным падатку з фізічных асоб» і аналагічным арт. 178 Падатковага Кодэкса РБ, абавязак падаваць падатковую дэкларацыю, паказваць у ёй пэўныя даходы, плаціць з іх падаходны падатак узнікае толькі ў тым выпадку, калі плацельшчык атрымаў даходы, што падлягаюць падаткаабкладанню. Гэта значыць, даходы, якія не падлягаюць падаткаабкладанню, не дэкларуюцца, і з іх не выплачваецца падаходны падатак.

Згодна з падпунктам 2.19 арт. 153 Кодэкса Рэспублікі Беларусь і падпункта 2.19 пункта 2 арт. 2 Закона, аб'ектам падаткаабкладання не прызнаюцца даходы, атрыманыя ў грашовай форме фізічнай асобай ад іншай асобы для выканання яго даручэння па ажыццяўленні якіх-небудзь разлікаў, аплаты на яго карысць або на карысць трэціх асоб за тавары (работы, паслугі) альбо па перадачы трэцім асобам атрыманых сродкаў і выканання абавязальніцтваў.

Гэта азначае, што калі грамадзянін атрымлівае ад замежнай арганізацыі сродкі для выканання даручэння гэтай арганізацыі па ажыццяўленні разлікаў, аплаты за штосьці, перадачы трэцім асобам ці выканання нейкіх абавязальніцтваў, то такія сродкі не прызнаюцца аб'ектам падаткаабкладання. А значыць, абавязак дэклараваць такія даходы і выплачваць падатак адсутнічае.

Адпаведная ацэнка крымінальнай справы Бяляцкага была дадзеная і на міжнародным узроўні. У Меркаваннях Працоўнай групы па адвольных затрыманнях ААН, дасланых ураду Беларусі, утрымлівалася рашэнне аб тым, што «пазбаўленне волі сп. Аляксандра Віктаравіча Бяляцкага з'яўляецца адвольным, паколькі яно супярэчыць артыкулу 20, пункту 1 Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і артыкулу 22 МПГПП. Затрыманне падпадае пад катэгорыю II сярод катэгорыяў, якія ўжываюцца пры разглядзе справаў, перададзеных на разгляд Працоўнай групы.

З улікам гэтага, Працоўная група просіць урад прыняць неабходныя захады для выпраўлення становішча Алеся Бяляцкага і прывесці яго ў адпаведнасць з нормамі і прынцыпамі, выкладзенымі ва Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і МПГПП.

Напачатку лістапада палітвязень Алесь Бяляцкі адбыў палову тэрміну пакарання ў папраўчай калоніі №2 Бабруйска, і лагічна, што ў дачыненні да яго маглі быць выкарыстаныя розныя метады датэрміновага вызвалення. Аднак гэтага не адбылося, паколькі рэгулярна, нават за самыя нязначныя парушэнні рэжыму адбыцця пакарання, на праваабаронцу накладаюцца новыя спагнанні.

Ад самага першага дня затрымання Бяляцкага ў многіх краінах свету і ў Беларусі праходзяць акцыі салідарнасці з палітзняволеным кіраўніком Праваабарончага цэнтра «Вясна», ён атрымлівае тысячы лістоў падтрымкі з самых розных куткоў планеты. Міжнародныя арганізацыі і сусветна вядомыя палітыкі заклікаюць беларускія ўлады спыніць крымінальны пераслед Алеся Бяляцкага. За час знаходжання за кратамі Алесь Бяляцкі быў узнагароджаны Прэміяй імя Вацлава Гавэла, нямецкай прэміяй імя Петры Келі, прэміяй свабоды дацкай газеты «Politiken», двойчы намінаваўся на Нобелеўскую прэмію міра.

Нават за кратамі ў Бабруйскай папраўчай калоніі №2 Алесь Бяляцкі не спыняе, наколькі гэта магчыма, сваёй дзейнасці. Ён выдаў кнігу літаратуразнаўчых артыкулаў «Асвечаныя Беларушчынай». Неўзабаве ўбачаць свет яшчэ дзве новыя кнігі праваабарончых эсэ зняволенага.

Калегі і сябры Алеся Бяляцкага годна выконваюць ягоны лаканічны запавет: «Трымайце «Вясну!»

**Паводле spring96.org**

КАМПАНІЯ

# ЗА ВУЛІЦУ КАЛІНОЎСКАГА

**Брэсцкі «Малады Фронт» пачаў збор подпісаў пад зваротам да гарвыканкама Брэста аб наданні новаўтворанай вуліцы ў раёне «Заходняга абыходу» назвы «Кастуся Каліноўскага».**

Таксама МФ пачаў маркетынгавую кампанію ў сацыяльных сетках, дзе заклікае грамадзян фатаграфавацца з таблічкамі «За вуліцу Каліноўскага для Брэста». На заклік МФ адгукнуліся шэраг СМІ, грамадзянскіх ініцыятываў і фізічных асобаў. Плакаты з інфармацыяй размешчаныя на офісе Агенцтва рэгіянальнага развіцця «Дзедзіч» у Брэсце, «Беларускім Доме» ў Варшаве, МГА «Нацыянальны альянс» у Луцку.

Да акцыі далучыліся вядомыя дзеячы культуры і палітыкі: музыкі Аляксандр Дзянісаў, Дзмітрый Афанасенка, Андрэй Такінданг, Яўген Змушка, паэт Уладзімір Някляеў і іншыя. Шэраг СМІ апублікавалі звароты МФ з нагоды 150 гадавіны паўстання 1863–1864 пад кіраўніцтвам Каліноўскага. Апроч Брэста, у акцыі прынялі ўдзел беларусы і грамадзяне іншых краінаў з такіх гарадоў, як Мінск, Гродна, Гомель, Віцебск, Варшава, Жэшув, Луцк, Кіеў, і нават Сейшэльскія выспы. Усе здымкі паступова публікуюцца ў сацыяльных сетках.

Брэсцкі МФ прапануе і заклікае грамадзян працягваць далучацца да акцыі, накіроўваць свае прапановы па назве вуліцы «імя Кастуся Каліноўскага» на адрас: Брэст, Міцкевіча, 25, альбо на пошту: brestvestnik@mail.by, далучацца да кампаніі ў сацыяльных сетках (http://vk.com/maladyfront).

Згодна з ініцыятывай гарвыканкаму Брэста, менавіта праз ліставанне (праз адрас газеты «Брестский вестник») і адбудзецца грамадскае абмеркаванне назвы, якое будзе доўжыцца да 20 снежня 2013 года.

МФ у сваю чаргу запэўнівае, што ўсімі законнымі і дасяжнымі сродкамі і формамі на перыяд збору прапановаў будзе весці агітацыйную і папулярызацыйную кампанію па назве вуліцы «Кастуся Каліноўскага». Кампанія ўжо пачалася і працягнецца ў сацыяльных сетках, СМІ, перфомансах, электронных петыцыях і інш. Гэтаксама можна далучыцца да акцыі, зрабіўшы фотаздымак з шыльдай, якую МФ перадасць у кожны куточак Беларусі таму, хто замовіць яе праз: press.mfront@gmail.com.

**Паводле інфармацыі прэсавай службы Брэсцкага МФ**

ПАМЯЦЬ

# «БУЛЬБАШ-ХОЛ» УЗАКОНЯЦЬ?

**Марат ГАРАВЫ**

**27 лістапада Беларуская рэспубліканская навукова-метадычная рада па пытаннях гісторыка-культурнай спадчыны Міністэрства культуры ўзгадніла праект ахоўных зон Курапатаў.**

Як адзначаў архітэктар Вадзім Глíннік, праект распрацаваны на больш дакладнай геадэзічна-картаграфічнай аснове, чым пакуль дзеючая схема ахоўных зонаў Курапатаў, зацверджаная пастановай Міністэрства культуры ад 12 траўня 2004 года. Паводле яго словаў, гаворка ідзе пра выкарыстанне раней не вядомых картаграфічных матэрыялаў даваеннага, ваеннага і пасляваеннага часу, у тым ліку трафейных. «Разам з тым, канцэпцыя межаў і рэгламенту ўтрымання зонаў аховы ў цэлым засталася без прынцыповых зменаў», — падкрэсліў Вадзім Глíннік.

Карэспандэнт НЧ нагадаў Вадзіму Глінніку ранейшую заяву начальніка ўпраўлення па ахове гісторыка-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі Мінкультуры Ігара Чарняўскага пра тое, што 4 дамкі рэстаранна-забаўляльнага комплексу «Бульбаш-хол» узведзены ў ахоўнай зоне Курапатаў і падлягаюць пераносу. Аднак Вадзім Глíннік не адказаў на пытанне пра тое, на якой тэрыторыя знаходзяцца гэтыя домікі па ўзгодненаму праекту ахоўных зонаў. Можна толькі меркаваць, што згодна гэтаму праекту дамкі рэстаранна-забаўляльнага комплексу ўжо не падлягаюць пераносу.

Звяртаем увагу, што рада ўзгадніла праект толькі ў частцы ягоных заходніх, паўночных і паўднёвых межаў. Усходнія межы ахоўнай зоны Курапатаў будуць узгоднены пасля распрацоўкі праекту дэталёвага планавання поля паміж Курапатамі і вуліцай імя Пятра Мірашнічэнкі. На гэтай тэрыторыі захавалася гістарычная дарога (так званая «Дарога смерці»), па якой вазілі людзей на расстрэл з Мінска ва ўрочышча. Аднак запланаванае на гэтым полі будаўніцтва шматфункцыянальнага выставачнага комплексу можа яе знішчыць.

Таксама трэба мець на ўвазе, што ўзгоднены праект ахоўных зонаў Курапатаў набудзе юрыдычную сілу толькі пасля зацвярджэння адпаведнай пастановай Міністэрства культуры.

Старшыня Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Антон Астаповіч звярнуў увагу сябраў рады на парушэнне заканадаўства пры падрыхтоўцы праекту. «Без візы навуковага кіраўніка Курапатаў (Маі Кляшторнай) Міністэрства культуры не мае права разглядаць праект ахоўнай зоны», — падкрэсліў Антон Астаповіч.

Але сябры рады праігнаравалі гэтую заяву Астаповіча, як і выступ каардынатара грамадзянскай ініцыятывы «За ўратаванне мемарыялу Курапаты» Ганны Шапуцькі, якая заклікала сябраў рады не ўзгадняць праект, а дапрацаваць яго з улікам таго, каб захаваць ранейшую мяжу ахоўнай зоны з заходняга боку Курапатаў і не дазваляць нікому парушаць гэтую мяжу.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ШТО Б ЯШЧЭ ТАКОГА АДАБРАЦЬ?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Усё забраць і падзяліць — шчырая бальшавіцкая звычка становіцца правілам гульні беларускай дзяржавы. Прычым, як звычайна, усё гэта робіцца «дзеля народа». У выніку народ застаецца голы, босы, але ўдзячны за дзяржаўны клопат пра яго.**



Аляксандр Лукашэнка на гэтым тыдні не пераставаў разбірацца з тым, што наварацілі нашы заканадаўцы. Найперш ён звярнуў увагу на акцыянерныя прадпрыемствы краіны. Яшчэ напачатку лета быў прыняты закон пра тое, што за дробных акцыянераў у гэтых таварыствах будзе галасаваць дзяржаўны прадстаўнік. Прычым, ён будзе мець вырашальны голас — аж да спынення дзейнасці прадпрыемства.

Зараз падчас гутаркі з прэм'ерам краіны Міхаілам Мясніковічам Лукашэнка задумаўся пра тое, як дзяржава павінна ўплываць на ўсялякія ААТ ад імя мінарытарных акцыянераў (памер пакета акцый якіх не дазваляе ім наўпрост удзельнічаць у кіраванні кампаніяй). Кіраўнік дзяржавы звярнуў увагу на пэўныя складанасці ў сувязі з тым, што недастаткова абароненыя інтарэсы дробных акцыянераў у акцыянерных таварыствах, створаных у працэсе прыватызацыі і без долі дзяржавы.

«Павінен адразу сказаць, што зыходзіць мы павінны, перш за ўсё, з інтарэсаў людзей. Нам не патрэбныя лішнія функцыі дзяржавы, калі ўжо прадалі якое прадпрыемства, але абараніць інтарэсы людзей мы проста абавязаны. Галоўнае — гэта чалавек, мы павінны абараніць яго інтарэсы. Калі прадпрыемства было дзяржаўным, а зараз прыватызаванае, і частка акцый у мінарытарных акцыянераў, хто за іх галасуе? Ніхто не галасуе. І тыя, хто мае меншую долю, кіруюць так, як хочуць. Прыкладаў дастаткова. Таму па гэтым пытанні трэба прымаць рашэнні, і я хацеў бы ведаць, да якога пункту гледжання ва ўрадзе вы прыйшлі», — задумаўся кіраўнік дзяржавы.

А да якога пункту гледжання можна прыйсці? Калі прадалі прадпрыемства, то яно больш дзяржаве не належыць, і кропка. Калі я ў краме набываю шакаладку, то магу зрабіць з ёй усё, што заўгодна — магу з'есці, магу падараваць, магу куды-небудзь засунуць. І мяне ж не хвалюе тое, што гэтая шакаладка выраблена на дзяржаўным прадпрыемстве. Ці, можа, я павінен прыйсці да нейкага чыноўніка і запытацца, а што мне з гэтай шакаладкай рабіць?

Зразумела, для чаго ўводзіцца на такіх прадпрыемствах «дзяржаўны прадстаўнік» з шырокімі паўнамоцтвамі. Каб у выпадку неабходнасці проста заблакаваць дзейнасць прадпрыемства, а потым перавесці яго зноў пад дзяржаўны кантроль. У гэтым выпадку тыя самыя «мінарытарныя акцыянеры» могуць павесіць свае акцыі ў прыбіральні.

Яшчэ адно нова ўвядзенне ад улады тычыцца жылля. З 1 ліпеня 2016 года ўсё непрыватызаванае жыллё ў Беларусі будзе аўтаматычна пераведзена ў дзяржаўны арэндны фонд. Такі тэрмін устанавіў Лукашэнка на нарадзе аб фармаванні фонду жылых памяшканняў камерцыйнага выкарыстання, падчас якога абмяркоўваўся праект адпаведнага ўказа.

Плануецца, што да 1 красавіка 2014 года ў арэндны фонд будуць пераведзеныя ўсе заселеныя службовыя і спецыяльныя жылыя памяшканні, а пасля 1 ліпеня 2016 года ў гэты фонд будуць уключаны непрыватызаваныя грамадзянамі дзяржаўныя кватэры, якіх на сённяшні дзень налічваецца каля 330 тысяч.

«Калі не прыватызуюць, значыць, мы ўсё туды ўключым, зробім гэта дзяржаўнае жыллё арэндным, і плата за гэтыя кватэры будзе як за арэнднае жыллё», — заявіў Лукашэнка.

**Да 1 красавіка 2014 года ў арэндны фонд будуць пераведзеныя ўсе заселеныя службовыя і спецыяльныя жылыя памяшканні, а пасля 1 ліпеня 2016 года — непрыватызаваныя грамадзянамі дзяржаўныя кватэры**

То бок, тыя, хто не прыватызаваў кватэру, гэтых кватэраў аднамомантна пазбавяцца. А калі хочуць застацца ў кватэры — калі ласка, акрамя «камуналкі» заплаціце яшчэ і арэнду.

Элегантны сродак пазбавіць насельніцтва ўласнасці! А нічога, што шмат якія кватэры такога кшталту будаваліся яшчэ за СССР, і Рэспубліка Беларусь, таксама, як і яе сённяшняя ўлада, не маюць да гэтых кватэраў аніякага дачынення?

Больш за тое, будзе створаны пералік грамадзян, якія маюць права на прадастаўленне арэнднага жылля. А атрыманне гэтага арэнднага жылля будзе лічыцца паляпшэннем жыллёвых умоў з наступным здыманнем з чаргі маючых у гэтым патрэбу!

То бок, калі ты здымаеш у некага, хай і ў дзяржавы, кватэру — то аўтаматычна ты не маеш патрэбы ва ўласным жыллі!

«Гэта само сабой зразумела. Атрымаў кватэру, тым больш што мы дамовіліся аб тым, што кошт арэнднага жылля будзе ніжэй, чым сёння рынкавы, прыкладна напалову. Натуральна, што гэта будзе паляпшэнне. Якія яшчэ чаргу і льготы?» — аднавіў беларускі кіраўнік сацыяльную справядлівасць.

Не ведаю, можа, для Аляксандра Рыгоравіча гэта і «само сабой зразумела», але логікі ў гэтым я не бачу. Тыя, хто жывуць у інтэрнатах, таксама не маюць права на чаргу і льготы? Бо інтэрнат — гэта ж таксама арэнднае жыллё? Альбо права на чаргу і льготы маюць увогуле толькі тыя, хто жыве на вуліцы?

Такімі двума рэвалюцыйнымі рашэннямі можна ўвогуле пакінуць народ без уласнасці.

Дарэчы, пра памылковасць некаторых папярэдніх рашэнняў нам на тыдні даклаў Нацыянальны банк. Памятаеце размовы пра «выязныя пошліны» ў 100 долараў і заявы прэзідэнта пра тое, што грамадзяне аж 3 мільярды долараў штогод за мяжу вывозяць? Аказалася, што лічба прэзідэнта завышаная разы гэтак у тры.

Раней дзяржаўнымі органамі Беларусі з удзелам Нацыянальнага банка 20 і 21 верасня было праведзена разавае анкетаванне грамадзян у сямі аўтадарожных пунктах пропуску на мяжы нашай краіны. Дык вось, з улікам атрыманых у выніку абследавання дадзеных, прагназуемы на 2013 год сумарны кошт увезеных фізічнымі асобамі тавараў у Беларусь з гэтых краін складзе 1 мільярд 73,4 мільёна долараў. А сумарны кошт вывезеных тавараў з Беларусі ў Латвію, Літву, Польшчу і Украіну за 2013 год ацэньваецца ў памеры 620,3 мільёна долараў.

Так што, наадварот, трэба стымуляваць выезд грамадзян. Бо менавіта яны «разгрузілі склады» больш чым на паўмільярда долараў. Немаленькая сума па беларускіх мерках.

Можа, для гэтага ствараюцца невыносныя ўмовы для пражывання ў Беларусі? Каб нашы грамадзяне больш маталіся туды-сюды і павышалі кошт вывозімых тавараў? Каб хоць якімсьці чынам тут пражыць?

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### ВІКТАР АСЛЮК



У Польшчы дакументальны фільм «Алмаз» беларускага рэжысёра Віктара Аслюка атрымаў узнагароду «Залаты Замак», а таксама 12 тысяч злотых (каля 36 мільёнаў беларускіх рублёў) на фестывалі дакументальнага кіно «Off Cinema» ў Познані.

Пераможная праца — гэта фільм пра беларуса, якога дзіцём разам з сям'ёй адправілі на выспу, што ляжыць пасярод возера Ладага ў Карэліі. Будучы старым, герой гісторыі застаецца адзіным жыхаром выспы. Тут ён стварыў сабе «Рэспубліку Беларусь у мініяцюры», паведамляе Poznan.gazeta.pl. Стары часта размаўляе сам з сабой, а яго адзіны сябар — конь Алмаз, які адвязе на могілкі труну свайго гаспадара, калі той памрэ першым.

Як адзначае Gazeta.pl, на 17-м па ліку фестывалі свае працы прадставілі 200 рэжысёраў з усяго свету. Журы выбірала пераможцаў з 40 работ, адабраных для ўдзелу ў конкурсе. Срэбную ўзнагароду атрымаў амерыканскі рэжысёр, бронзу — творчая праца польскай рэжысёркі.

### АЛЯКСАНДР МАЛІНІН

Расійскі поп-спявак, народны артыст Расіі і Украіны Аляксандр Малінін у Беларусі атрымаў грамадскі ордэн.

Ён узнагароджаны ордэнам «Вернасць і вера» першай ступені за асаблівыя заслугі ў галіне культуры, захаванне, памнажэнне і абарону традыцыйных духоўных, маральных і сямейных каштоўнасцяў. Узнагарода знайшла героя 26 лістапада ў час сольнага канцэрта Малініна на сцэне Палаца Рэспублікі ў Мінску.



Рашэнне аб узнагароджанні было прынята прэзідыумам агульнага назіральнага савета руху «Сям'я — Яднанне — Айчына» і Грамадскага савета па маральнасці.

Ордэн артысту ўручылі старшыня Грамадскага савета па маральнасці, старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец, старшыня аргкамітэта Рэспубліканскай праграмы і праўлення міжнароднага дабрачыннага фонду «Сям'я — Яднанне — Айчына», лаўрэат прэміі прэзідэнта Беларусі «За духоўнае адраджэнне» Уладзімір Грозаў, і сустаршыня руху «Сям'я — Яднанне — Айчына» па Расіі Міхаіл Хасьмінскі.

Раней ордэн «Вернасць і вера» першай ступені атрымлівалі дзяржаўныя дзеячы, архірэі, акадэмікі, кіраўнікі грамадскіх арганізацый Беларусі і Расіі. Аляксандр Малінін — першы расійскі эстрадны выканаўца, якому ўручана такая ўзнагарода, якая, па задумцы яе заснавальнікаў, увасабляе «грамадскае прызнанне беларускага народа».

### ЖАНЫБЕК БАКІЕЎ



Брат былога прэзідэнта Кіргізіі Курманбека Бакіева Жаныбек, які хаваецца ў Беларусі, у чарговы раз асуджаны да пажыццёвага зняволення завочна.

Жаныбек прызнаны вінаватым у рабаванні Джалал-Абадскага абласнога ўпраўлення Нацбанка Кіргізіі падчас рэвалюцыі ў сакавіку 2005 года. Пакуль у краіне зкідвалі прэзідэнта Аскара Акаева, Жаныбек Бакіеў выкраў 22 мільёнаў сомаў (больш за 450 тысяч долараў па курсе 2005 года). Акрамя таго, суд разглядаў абвінавачванні Бакіева ў «незаконным стварэнні ўзброеных фарміраванняў, арганізацыі масавых беспарадкаў і самавольным прысваенні ўлады службовай асобай у красавіку 2010 года», перадае «Інтэрфакс».

«Па выніках судовага разгляду Жаныбек Бакіеў прызнаны вінаватым па ўсіх прад'яўленых яму абвінавачваннях, і прысудам Сузакскага раённага суда яму прызначана пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі тэрмінам на 18 гадоў, але з улікам раней вынесенага прысуду Ваеннага суда Жаныбек Бакіеў канчаткова асуджаны да пажыццёвага пазбаўлення волі», — паведамілі ў Генеральнай пракуратуры Кыргызстана.

Жаныбек Бакіеў збег з краіны пасля скідвання свайго брата 7 красавіка 2010 года і быў абвешчаны ў міжнародны вышук. Па некаторых дадзеных, Жаныбек жыве ў Беларусі. Мінск адмаўляе Бішкеку ў выдачы прадстаўнікоў сям'і былога кіраўніка Кыргызстана.

▸ АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# МОЦНАЯ ДЗЯРЖАВА — СЛАБАЯ НАЦЫЯ

Сяргей НІКАЛЮК



**Ніякай ідэальнай мадэлі справядлівасці ў прыродзе не існуе. І не таму, што людзі дрэнныя, а таму, што людзі розныя.**

Паводле філосафа Міхаіла Бахціна, герой цікавіць Дастаеўскага не як з'ява рэчаіснасці, а як асаблівы, адметны светапогляд. Такім чынам, для пісьменніка было важна не тое, чым яго герой з'яўляецца ў свеце, а тое, чым свет ёсць для героя.

Аднак я не прэтэндую на лаўры Дастаеўскага, як, зрэшты, і на Бахціна. Мой жанр — палітычная публіцыстыка. Мой герой — адзіны палітык (АП). Адзіны на краіну з насельніцтвам у 9,5 мільёна чалавек! Радавацца з гэтай нагоды ці засмучацца — справа густу. Я ж абапруся на падказку Бахціна і паспрабую паглядзець на свет вачамі свайго героя.

Чалавек ён публічны, і таму ахвотна дзеліцца сваімі ўяўленнямі пра свет. Напрыклад, такімі: *«Не обижайтесь на жесткость, сейчас время такое. Сейчас все вокруг Беларуси ходят и, как волки голодные, зубами щелкают: где бы схватить «Керамин», «Белоруснефть», один нефтеперерабатывающий завод, второй — много таких у нас предприятий... У всех руки чешутся. И сегодня давят не потому, что я такой плохой, диктатор, а потому, что не отдаю. Тем не отдал на Востоке, на Западе не отдал. А хочется, и взять хотят за бесценок».*

## Прыгажосць у чыстым выглядзе

Такі вось «малюнак». Ён чорна-белы. Ёсць «мы» і ёсць «яны». «Мы» толькі паводле выключна нам зразумелых прычынаў знаходзімся на баку Святла, Дабра і Праўды. «Яны» — на баку Цемры, Зла і Хлусні.

Важная дэталь — «яны» паўсюдна навакол нас. Памыляецца той, хто спадзяецца, што арэал пасялення «галодных ваўкоў» размешчаны на захад ад геаграфічнага цэнтра Еўропы. Не, іх хапае і на ўсходзе, на тэрыторыі *«нашей России»*.

Сапраўдныя ворагі — заўсёды ворагі знешнія. Гэта класіка жанру. Яны не спараджаюцца сістэмай. Такім чынам, унутраныя ворагі не могуць быць шматлікімі. Вось адкуль узнікае маніякальнае імкненне любым коштам зменшыць колькасць незадаволеных. Масавыя пратэсты страшныя не самі па сабе, а тым, што пачынаюць руйнавацца сістэмаўтваральныя дзяржаўныя міфы.

Для замацавання сказанага, прапаную наведаць сайт Інфармацыйна-аналітычнага цэнтра пры Адміністрацыі прэзідэнта (ІАЦ). У раздзеле «Сацыялогія» апошняя інфармацыя датаваная студзенем 2012 года. Такая вось аператыўнасць за нашы з вамі грошы. Цытую: «Атрыманыя вынікі сведчаць пра дадатную дынаміку па ўсіх асноўных даследаваных паказчыках». Натуральна, ніводнай лічбы, якая пацвярджае дадатную дынаміку, не прыводзіцца.

Супрацоўнікі цэнтра дасканала валодаюць эзопавай мовай: «За мінулы месяц ацэнка насельніцтвам актуальнасці праблем, якія выклікаюць найбольшае хваляванне, некалькі зменшылася. Менш вострымі сталі праблемы нестабільнасці беларускага рубля, зніжэння рэальнай заработнай платы і недаступнасці тавараў першай неабходнасці. <…> Фіксуецца стабільнае зніжэнне колькасці апытаных, якія кажуць пра пагаршэнне сацыяльна-эканамічнай сітуацыі ў рэспубліцы. Паралельна працягваецца зніжэнне колькасці рэспандэнтаў, якія адзначаюць пагаршэнне свайго матэрыяльнага становішча».

З якога канкрэтна ўзроўню і да якога фіксуецца зменшэнне і зніжэнне? Прыгажосць сацыялогіі ў чыстым выглядзе. Плюнуць няма куды, і таму любыя спробы адшукаць ідэалагічна чужую інфармацыю вырачаныя на правал.

Нагадаю, апытанне праводзілася ў студзені 2012 года. Зніжэнне рэальнай зарплаты, пра якое мімаходзь згадана ў прэс-рэлізе ІАЦ, — гэта рэха эканамічнага крызісу 2011 года. Але вынікі сацыялагічных апытанняў, якія адлюстроўваюць грамадскую думку пра сацыяльна-палітычную сітуацыю ў Беларусі ў 2011 годзе, адсутнічаюць.

У год трохразовай дэвальвацыі нацыянальнай валюты і трохзнакавай інфляцыі супрацоўнікі цэнтра збіралі і аналізавалі інфармацыю пра выкарыстанне сеткі інтэрнэт у Беларусі, пра стан працы са зваротамі грамадзян і пра грамадскую думку наконт сітуацыі ў нацыянальнай сферы. Адпаведныя прэс-рэлізы змешчаныя на сайце ІАЦ.

## Беларусь — не Паўночная Карэя

Але вернемся да карціны з ваўкамі, якія шчоўкаюць зубамі па перыметры Беларусі. У якой ступені такая карціна свету карыстаецца папулярнасцю ў насельніцтва? Адказ на гэта пытанне мы можам знайсці на сайце НІСЭПД. У верасні 2011 года адказнасць за эканамічны крызіс на ЗША ўсклалі 16% беларусаў, на Еўропу — 12%, на Расію — 7%. Што да «пятай калоны» (апазіцыі), то яна з 5% замкнула спіс вінаватых.

А хто ж яго ўзначаліў? Кіраўнік дзяржавы і ўрад! На дваіх яны атрымалі 102% галасоў: 61% і 41% адпаведна (рэспандэнты маглі даваць больш за адзін адказ).

«Калі існуе ваенная пагроза, — сцвярджаў гісторык Аляксандр Ахіезер, — рэальная ці імітаваная, якая, аднак, адчуваецца як рэальная, калі людзі ўспрымаюць краіну як «крэпасць у аблозе», а грамадства атамізаванае і пазбаўленае самаарганізацыі, тады першая асоба легітымізуецца як ваенны правадыр, што здольны забяспечыць перамогу, і як выратавальнік, ад якога залежыць выжыванне ўсіх і кожнага».

Калі ў народа няма канкрэтнага ворага, ён жа можа задумацца пра штосьці іншае! Напрыклад, пра эфектыўнасць дзяржаўнага апарату. Калі вораг ёсць — тут усё зразумела. Неабходна згуртавацца і даць адпор.

Нічога прынцыпова новага ў гэтым няма. Адзіныя палітыкі (правадыры) паспяхова эксплуатавалі выяву ворага на працягу тысячагоддзяў. Вось толькі ў сучасным глабалізаваным свеце звыклы алгарытм запалохвання страціў былую эфектыўнасць. Беларусь — не Паўночная Карэя, і таму чорна-белая карціна свету, якую малююць дзяржаўныя СМІ, ужо не карыстаецца масавым попытам.

Звернемся да табліцы. Крайнія меркаванні наконт «заходняга» ўзору грамадскага ўладкавання ў беларусаў сёння непапулярныя: «гэта ўніверсальны ўзор» — так лічаць 10% апытаных, «гэты ўзор зусім не падыходзіць» — 16%.

За гады незалежнасці беларусы так і не вызначыліся са сваімі цывілізацыйнымі прыхільнасцямі. Адсюль — папулярнасць уласнага адметнага шляху, попыт на адмысловую дэмакратыю, якая адпавядае выключна нацыянальным традыцыям і спецыфіцы Беларусі. У сакавіку 2009 года гэты шлях падтрымалі 43% беларусаў (НІСЭПД). Колькасць прыхільнікаў дэмакратыі еўрапейска-амерыканскага і савецкага ўзораў апынулася прыкметна ніжэйшай: 28% і 12% адпаведна. Пры гэтым толькі 6% пагадзіліся з тым, што Беларусі не патрэбна дэмакратыя.

Пярэсты атрымаўся «малюнак». Але гэту стракатасць з вяршыні ўладнай «вертыкалі» не заўважаюць. Адна справа — незразумела з якіх крыніц фінансаваць будаўніцтва Палаца незалежнасці, і зусім іншае — фінансаваць замену чорна-белых манітораў на каляровыя ў кабінетах на Карла Маркса, 38.

## Аверс і рэверс медалю «За справядлівасць»

Прывяду яшчэ адно выказванне АП: «*Надо ввести диктатуру закона. <…> Хотя, я считаю, выше закона или рядом с законом должно быть такое чувство, как мораль и справедливость. Все в законе не пропишешь, а вот что справедливо, не справедливо — наше общество, наши люди знают точно. Поэтому там, где это не прописано в законе и где, знаете, иногда бывает и так, и сяк, — сделай справедливо»*.

Справядлівасць, паводле АП, прыходзіць у беларусаў па разрадзе «ўтоеных ведаў». Тэрмін уведзены ў навуковы ўжытак англійскім фізікам і філосафам венгерскага паходжання Майклам Палані. Вядомы афарызм Палані: «Мы ведаем больш, чым можам распавесці».

Праблема, аднак, палягае ў тым, што ніякай ідэальнай мадэлі справядлівасці ў прыродзе не існуе. Не таму, што людзі дрэнныя, а таму, што людзі розныя. Справядлівасць — прадукт узгаднення канфліктаў паміж арганізаванымі групамі інтарэсаў. Працэс узгаднення прынята называць «палітыкай». Пры яго адсутнасці справядлівасць, што б пры гэтым ні дэкларавалася, — інструмент маніпулявання ў руках улады.

Зваротны бок медалю «За справядлівасць», такім чынам, — беззаконне. Зноў звярнуся па дапамогу да НІСЭПД. «Ці адчуваеце Вы сябе асабіста пад абаронай закона?» «Так» — 47%, «не» — 42% (верасень 2013 г.).

Існуе два асноўных тыпы справядлівасці: ураўняльная (працуем кагалам, нічые выпрацоўку не ўлічваем, а сена дзелім пароўну) і спаборная (толькі не замінайце, і я накашу столькі, колькі мне трэба).

У грамадствах, абцяжараных расколам (беларускі выпадак), два тыпы справядлівасці ўвесь час канфліктуюць паміж сабой. Прыхільнікі працы кагалам, у прыватнасці, мяркуюць, што плаціць варта за тое, што чалавек «ўкалвае». Гэта значыць, паводле выдаткаў часу і энергіі. Іх апаненты перакананыя, што справядлівая аплата — гэта аплата за вынікі, прызнаныя рынкам.

Для беднага і залежнага чалавека справядлівы дзяржаўны парадак — гэта парадак, пры якім дзяржава забяспечвае грамадзян усім неабходным. *«Но сильное государство,* — тут я чарговы раз даю слова АП, — *имеет и свою оборотную сторону. Оно убаюкивает, оно расслабляет нацию. Надо смотреть правде в глаза. Все шире распространяются у нас лень и иждивенчество, все чаще можно услышать слова: «А зачем мне самому что-то делать? Вот есть государство — пусть оно обо мне и позаботится».*

Моцная дзяржава рассабляе нацыю. Да такой высновы прыйшоў АП. Сацыёлагі НІСЭПД з ім салідарныя. «Што, на Вашу думку, важней для Беларусі?». Для Беларусі найважней добрыя законы — 33%. Для Беларусі важныя добрыя кіраўнікі — 60% (верасень 2013 г.).

Прымаць ці не прымаць слабіцельнае — кожная нацыя вырашае самастойна. Але якім бы ні быў выбар, ад узаемнай канкурэнцыі ніводную нацыю ён не вызваліць. А там, дзе канкурэнцыя, там акрамя пераможцаў ёсць і пераможаныя.

**ЯК ВЫ ЛІЧЫЦЕ, У ЯКОЙ МЕРЫ ДЛЯ БЕЛАРУСІ ПАДЫХОДЗІЦЬ «ЗАХОДНІ» (ГЭТА ЗНАЧЫЦЬ ЗАХОДНЕЕЎРАПЕЙСКІ, АМЕРЫКАНСКІ) УЗОР ГРАМАДСКАГА ЎЛАДКАВАННЯ?**

| Варыянт адказу | % |
|---|---|
| Гэта ўніверсальны ўзор грамадскага ўладкавання, які цалкам падыходзіць да беларускіх умоў | 10 |
| Падыходзіць толькі той узор грамадскага ўладкавання, які можна прыстасаваць да беларускіх умоў | 38 |
| Гэты ўзор не цалкам падыходзіць да беларускіх умоў і наўрад ці можа прыжыцца ў Беларусі | 21 |
| Гэты ўзор зусім не падыходзіць да беларускіх умоў, супярэчыць укладу жыцця беларускага народа | 16 |
| Цяжка адказаць / Няма адказу | 14 |
| НІСЭПД, верасень 2013 г. | |

ДАСЛЕДАВАННЕ

# БОМБА ПАД МАЛАДОЕ ПАКАЛЕННЕ

Алег НОВІКАЎ




**Магчымы ўвод падатку на беспрацоўных перш за ўсё закране моладзь (працаздольных грамадзян маладзей за 30 гадоў), а не «шэрых» прадпрымальнікаў, праграмістаў і гастарбайтараў.**

Менавіта да такой высновы можна прыйсці, аналізуючы даследаванне «Моладзь Беларусі на рынку працы і ў сістэме працоўных адносін» Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў. Дзяржава рыхтуе сапраўдную бомбу пад маладое пакаленне, шматлікія прадстаўнікі якога жывуць па законах нефармальнай эканомікі.

Удзельнікі фокус-групавых дыскусій, на якіх пабудавана даследаванне, у працэсе абмеркавання распавялі пра шматлікія выпадкі махлярства, парушэнняў у сферы працоўных адносін, якія здарыліся з імі і з іх знаёмымі як на дзяржаўных, так і на недзяржаўных прадпрыемствах. Гэтыя выпадкі тычацца не толькі аплаты працы, карупцыі пры паступленні на працу, але і невыканання або ўвогуле адсутнасці дагаворных адносін паміж працадаўцам і маладым працаўніком.

Гэтаму, безумоўна, садзейнічае характар працоўнай занятасці асноўнай часткі маладых людзей. Гаворка пра падзённую працу, якую замежныя сацыёлагі называюць «precarite». З матэрыялаў даследавання бачна, што маладыя людзі запатрабаваныя галоўным чынам як часовыя работнікі з нізкім сацыяльным статусам, часцей без усялякай адукацыі, якія павінны выконваюць некваліфікаваную працу.

Тут з-за моцнай цякучкі працоўныя адносіны з працадаўцам часта ўвогуле не афармляюцца. Сапраўды, хто будзе пляміць працоўную кніжку запісам пра тое, што чалавек прыняты на працу грузчыкам на пару дзён?

**Менавіта моладзь стане галоўнай ахвярай палявання на «дармаедаў» (дарослыя «дармаеды» знойдуць магчымасць зрабіць сабе ліпавыя даведкі пра працаўладкаванне)**

Не дзіўна, што такая сітуацыя адчыняе вялізарнае поле для махінацый. Удзельніца даследавання Ганна згадала такі фрагмент сваёй працоўнай біяграфіі: «У мяне была праца — клеіць аб'явы. Я ўсё падпісала, сказалі, што аплата 100 долараў і што за мной будзе хадзіць спецыяльны чалавек, каб правяраць, клеіла я ці не. Я хадзіла і ў дождж, і ў снег, клеіла добрасумленна, а мне заявілі, што той, хто правярае, нібыта сказаў, што я нічога не клеіла. І мне нічога не заплацілі. Мяне гэты мужчына, які браў на працу, ледзь не паслаў, сказаў, што ніякага дагавору са мной не заключаў».

Зрэшты, і самі маладыя людзі баяцца ўстанаўлення фармальных адносін. Іншы рэспандэнт даследавання Яўген так матываваў нежаданне падпісваць дамову: «У працоўную кніжку могуць напісаць прычыны звальнення: напрыклад, што тыдзень не быў на працы. Вядома, можна падаць у суд — калі дакажаш, то табе будуць павінны выплаціць грошы. Але калі дакажаш…»

Слабае веданне маладымі людзьмі працоўнага заканадаўства дазваляе працадаўцам лёгка маніпуляваць персаналам. Рэспандэнтка Таццяна распавядае: «У буціку мне сказалі, што буду працаваць без афіцыйнага афармлення: першыя тры месяцы — 300 долараў, а потым могуць перавесці на 500 долараў. Я адпрацавала першы месяц — атрымала 300, ужо адпрацавала другі. А потым я даведалася, што дырэктар такім чынам заманьвае прадаўцоў: абяцае больш — плаціць менш. Ён так выкарыстоўвае людзей. І я сышла пасля гэтага».

З той жа серыі гісторыя Вікторыі: «Наконт дакументаў: у нас ёсць міжнародныя арганізацыі, якія кампутарамі займаюцца, і ўсё такое. Калі мы ішлі ўладкоўвацца, нам у адной фірме далі дамовы на англійскай мове. Казалі, што потым дамову на пошту вышлюць. Не выслалі… Зарплату таксама не выдалі».

Цікава, што ахвяры нават не намагаюцца абараняць свае інтарэсы праз суд або прафсаюзы (дарэчы, у прыватных структурах іх увогуле не існуе). Такі падыход звязаны з асаблівасцямі псіхалогіі падзённых працаўнікоў. Вялікая цякучка стварае ў моладзі адпаведны зняважлівы падыход да свайго месца працы. У выпадку праявы несправядлівасці на іх адрас, людзям прасцей пайсці з працы, чым сістэмна абараняць свае правы. Праўда, сыход — гэта яшчэ радыкальны крок. Аўтары даследавання прызнаюць, што, як правіла, маладыя людзі згодныя цярпець статус-кво.

Феномен пасіўнасці аўтары дакладу тлумачаць так: «Каб набраць балы для будучыні, трэба атрымаць вопыт практычнай працы (без якога цяжка разлічваць на добрае працаўладкаванне), трэба перачакаць, пакуль дзеці маленькія (работнікі, якія маюць дзяцей, непазбежна сутыкаюцца з праблемамі практычна ў любой арганізацыі). Акрамя таго, моладзь адчувае своеасаблівы «комплекс непаўнавартаснасці» на месцы працы: яны працуюць нядаўна, у іх няма вопыту ў шырокім сэнсе слова (працоўнага, сацыяльнага, псіхалагічнага), яны самі пагаджаюцца на працу без афармлення, без працоўнага дагавора, і ўжо таму загадзя пагаджаюцца з тым, што павінны маўчаць».

Сваю ролю адыгрывае і стаўленне моладзі да існуючай судовай сістэмы. Як адзначаецца ў даследаванні, у многіх маладых людзей сфармавалася перакананне ў карумпаванасці судоў, якая не дазволіць абараніць сваю пазіцыю. Пра кругавую паруку дзеючых на гэтым сегменце рынку камерцыйных арганізацый (калі ў адной арганізацыі пачнеш качаць правы, дык усе будуць ведаць, што ты чалавек няўжыўчывы, і цябе не варта браць на працу). Гэта таксама схіляе да лаяльнага тыпу паводзінаў у дачыненні да працадаўцы.

Цяпер застаецца пафантазаваць, што чакае моладзь у выпадку прыняцця так званага «закону пра дармаедаў». Для тых, хто толькі-толькі пачаў працаваць, не мае запісаў у працоўных кніжках, і часам нават не можа іх мець з-за правілаў, якія склаліся на рынку. Пратэставаць супраць такой тэндэнцыі маладыя людзі не здольныя, і звычайна не жадаюць самі. Відавочна, што менавіта гэта катэгорыя стане галоўнай ахвярай палявання на «дармаедаў» (дарослыя «дармаеды» знойдуць магчымасць за грошы зрабіць сабе ліпавыя даведкі пра працаўладкаванне).

Натуральна, 260 долараў (прыкладна столькі, быццам, будзе складаць падатак на дармаедаў) — не катастрафічныя грошы, і з дапамогай тых жа бацькоў можна будзе «адкупіцца» ад дзяржавы. Праўда, кошт гэтага пабору можа аказацца вельмі высокі — яшчэ большае адчужэнне моладзі ад дзяржавы, якая сама маргіналізуе людзей. Праўда, ад нашых чыноўнікаў і не варта было чакаць іншага. Аўтары дакладу адзначаюць: «Афіцыйная кропка гледжання ставіць пад сумнеў увогуле існаванне праблемы працоўнай занятасці моладзі».

КАЛОНКА КАНСТАНЦІНА СКУРАТОВІЧА

# ГІСТОРЫЯ ХВАРОБЫ ГУБЕРНАТАРАЎ

**Паводле афіцыйных дадзеных, за дзесяць месяцаў гэтага года валавы рэгіянальны прадукт у Мінску склаў 100,2% супраць студзеня-кастрыніка 2012 года. Па абласцях такія лічбы: Мінская — 102,5%, Брэсцкая — 102,4%, Віцебская — 97,5%, Гомельская вобласць — 103,3%, Гродзенская — 103,4%, Магілёўская — 97,3%.**



У нас да гэтага часу статыстычныя паказчыкі выкарыстоўваюцца начальствам для вызначэнне перадавікоў і адстаючых. Іронія лёсу у тым, што былых старшыняў аблвыканкамаў усе завуць губернатарамі. З улікам дзейнай іх службы ў тэрытарыяльных войсках — генерал-губернатарамі. Падаецца, велізарную ўладу маюць гэтыя людзі і шчыруюць, не пакладаючы рук. Але справы ідуць не вельмі. А яны ўсё спрабуюць стварыць ураженне пільнай кіраўнічай працы.

Як, прыкладам, ацэньваць працу Мікалая Ладуцькі, калі вытворчасць у сталіцы завісла на нулявой адзнацы? А калі параўноўваць з пазамінулым годам, дык наогул дасягнула толькі 98,7% ад аб'ёмаў 2011 года. Але ніякі губернатар сам па сабе не мае магчымасці палепшыць стан эканомікі. Бо паўсюды прамысловасць працуе на склад, што вельмі падобна да класічнага крызісу збыту. Таму «беларускае губернатарства» як пануючая эканамічная ўлада, імкнецца распрадаць-парассоўваць запасы гатовай прадукцыі прадпрыемстваў на самых ліберальных умовах, а нават са зніжкам. А тут яшчэ Лукашэнка пагражае пасадзіць тых, хто, як яму падаецца, гатовыя збыць народнае дабро за капейчыну.

Пайдзі туды, не ведаю куды, знайдзі тое, не ведаю што. Мусіць, так павінен пачынаць кожную працоўную раніцу не толькі беларускі «губернатар». Ну што яшчэ можа прыдумаць Мікалай Ладуцька, каб падвысіць вытворчасць і не працаваць на склад? У яго ж няма сельгасвытворчасці, на прыпісках да якой можна паправіць паказчыкі. Праўда, ёсць буйныя прадпрыемства, але яны, як на зло, працуюць на склад, а жыхары краіны чамусьці іх прадукцыю купляць не хочуць.

Хаця ёсць саломінка, за якую можна ўхапіцца і не патануць. Пакуль што. Былі прыклады, калі краіна ці галіна спецыяльна рыхтуюцца «выстраліць» падчас крызісу прынцыпова новай прадукцыяй, каб здзівіць спажыўцоў ды зрабіць сабе добрую перавагу над канкурэнтамі. У Беларусі, здаецца, прадпрыемствы перманентна працуюць над абнаўленнем сваёй прадукцыі. Прынцыповыя навінкі ўлічваюцца Белстатам, які вызначае колькасць інавацыйнай прадукцыі ў агульным аб'ёме адгружанай прадукцыі. І гэты працэнт пастаянна павялічваецца. Прыкладам, у Мінску за 10 месяцаў мінулага года гэта квота дасягнула 19,3%, а сёлета за студзень-кастрычнік ужо 24,6%.



Калі так і далей справа пойдзе, то ў нас у продажы не застанецца нічога са старых рэчаў і прадуктаў. Што ні дзень, то новая кілбаса ў краме ці інавацыйныя шкарпэткі. Але чамусьці большая частка інавацыйнай прадукцыі завісае на складах. Можа, таму, што Беларусь прапаноўвае такія навінкі, якія шмат каму са спажыўцоў падаюцца «другасным прадуктам». Тое, што на нашы інавацыі не квапіцца замежны пакупнік, даўно не дзіва. Але і расійскі спажывец ужо пачынае адмаўляцца да нашай «сапсаванай сучаснымі тэхналогіямі прадукцыі». Вартасць неліквіду на мінскіх прадпрыемствах дасягнула 116,7% ад сярэднямесячнага аб'ему вытворчасці. Год таму на гэты час таксама было шмат, але ж «толькі» 64,3% сярэднямесячнай вытворчасці. А тым часам пастаянна павялічваецца нафтавая рэнта гэтай краіны.

Вось і мяркуй — хто і што павінен рабіць? Чалавек іграе на трубе, а лёс гуляе з чалавекам.

Калі падвесці рысу пад гэтыя разважанні, трэба ўзгадаць класіка Фрыдрыха Энгельса, які адзначаў, што людзі свядома робяць сваю гісторыю, а тая над імі абавязкова смяецца.

Што праўда, кожны мае толькі тую гісторыю, якую ён напісаў. Якая так і называецца — гісторыя хваробы.



ПРАЦОЎНЫЯ

# НЯМІЛАЯ «МІЛАВІЦА»

Алена БАРЭЛЬ

**Як Стас Міхайлаў дапамагае шыць майткі? І чаму яны падыходзяць даме з памерам 96, хаця на маркіроўцы стаіць 102? Якое золата схавана ў сціплых стрынгах за 160 тысяч? Швачка ніжняй бялізны прыадкрыла НЧ сакрэты «Мілавіцы».**

## У жорнах бялізнавага бізнэсу

На фотаздымках з сацыяльных сетак вясёлая дзяўчына курчыць рожы і матляе папяровымі сцяжкамі БРСМ. Фоткі — яшчэ з апошніх класаў школы і каледжа, дзе вучылася задаволеная жыццём разумніца. Але кар'ера ўра-патрыятычнага кшталту Марыну абмінула. Пасля вучэльні дзяўчына трапіла ў самыя жорны бялізнавага бізнэсу — два гады па размеркаванні шыла майткі на «Мілавіцы».

«Працуйце рупліва і не крадзьце!» — з гэтымі словамі кіраўніцтва адправіла швачку ў цэх, каб тая ўпрыгожвала беларусак ды іншаземак, пачынаючы ад 6.45 раніцы.

— Я працавала ў брыгадзе вырабу майткоў і камбінацый. Шыла элемент, які мы называлі паміж сабой жаночым палавым органам у памяншальна-ласкальнай форме, — распавядае швачка. — Потым мяне пасадзілі на канчатковую аперацыю: «прыстрэл» цэтлікаў і банцікаў на майткі. Гэта найгоршая, амаль што ювелірная аперацыя, якую трэба рабіць з хуткасцю кулямёта, нібыта ты на якіх псіхатропах сядзіш. За 3 хвіліны мусіш «прыстрэліць» 20 адзінак — па тры цэтлікі на кожную адзінку. Ці за той жа час — па малюсенькаму банціку на майткі, а ў банціка — асноўны і сподні бакі, важна не пераблытаць. Зрок на гэтых дробязях пасадзіла, бо ўвесь час глядзіш у адну кропку.

Не паспела за 3 хвіліны — ніякай прэміі. Бо заробак швачкі складваецца з угоды і прэміі, а прэмія залежыць ад выканання плану. На кожную аперацыю — свой час.

— Першыя восем месяцаў я не паспявала за планам, бо цяжка было прызвычаіцца да абставання, дагэтуль мела досвед працы з верхняй вопраткай, а тут — бялізна. Каб дацягнуць да плану, нам дазвалялі заставацца пасля працоўнага дня. Але здаралася і так, што працы няма, і ты сядзіш на сваёй аперацыі і чакаеш. І за гэта табе ніхто не заплаціць. Ты можаш зрабіць своечасова сваю аперацыю, а нехта зробіць брак на гэтай адзінцы майткоў, і тады яе вяртае кантралёр. Адзінку перарабляюць, але ў заробку губляе ўся брыгада — працуе сістэма штрафных балаў, — тлумачыць Марына. — Калі я адпрацавала на «Мілавіцы» год, неяк выпадкова ў сеціве ўбачыла ілжывую абвестку пра «крутыя» вакансіі на фабрыцы: памагатай швачкі прапанавалі больш, чым насамрэч атрымліваюць нават вопытныя швачкі — больш чым 500 баксаў! Я доўга рагатала, бо сама, плённа працуючы, атрымлівала плюс-мінус 2 мільёны 800 тысяч рублёў. Кіраўніцтва жаба душыць добра плаціць сваім працаўнікам.

На заробак у 3,5 мільёна гаротніца выйшла толькі напярэдадні звальнення, менш чым год таму.

Гендырэктар СП ЗАТ «Мілавіца» Дзмітрый Дзічкоўскі так і не знайшоў часу ў сваім шчыльным графіку паміж камандзіроўкамі ды нарадамі для размовы з «НЧ» нават па тэлефоне. Між тым, у студзеньскім інтэрв'ю газеце «Рэспубліка» ён пацвердзіў уцёкі швачак з фабрыкі: «Швачак катастрафічна не хапае». Пры гэтым мяжой заробку Дзічкоўскі называе «каля 400 еўра», якую нельга перавышаць, бо вырабы стануць занадта дарагімі для рынку, ці вытворцу будзе выгадна перамясціцца ў дзяржаву «з больш прымальным коштам працоўных рэсурсаў». Кіраўнік фабрыкі падкрэсліў, што ў некаторых краінах аналагічная працоўная сіла каштуе ўсяго 100 долараў. Вынікае, нам ёсць куды імкнуцца, таму спадзявацца на падвышэнне заробкаў швачкам «Мілавіцы» не даводзіцца.

## Пад Сярдзючку і Міхайлава пашыеш больш майткоў?

Грукат машынак — не адзінае, што б'е па вушах швачы.

— Нас катавалі гучнай музыкай з дынамікаў, пераважна Стасам Міхайлавым і Веркай Сярдзючкай — нібыта, з гледзішча псіхалогіі, для больш хуткай працы і лепшай вытворчасці, — распавядае Марына.

Швачка згадвае, што яе сяброўка працавала ў канкурэнта — на прадпрыемстве «Серж». У параўнанні з 8-гадзінным днём і пяцідзёнкай на «Мілавіцы», змены па 12 гадзін на «Сержы» (хаця б і з графікам два праз два) — сапраўдны жах:

— Нават 8 гадзін цяжка вытрымаць — спіна жудасна баліць, а тут — 12. Сяброўка сышла адтуль. На жаль, на абодвух прадпрыемствах няма кампенсацыі за шкодныя ўмовы працы.

## Набыць ката ў мяшку

У дакументальным бестсэлеры «Гамора» журналіст і вораг мафіі Раберта Саўяна адчыняе вочы пакупніка на вопратку знакамітых італьянскіх брэндаў: тое, што трапляе ў беларускія буцікі, шыецца на Сіцыліі з танных тканін, завезеных кантрабандай з Кітая. А тканіны якой якасці выкарыстоўваюцца для нятаннай бялізны «Мілавіцы»?

— Фабрыка губляе свой твар і страчвае імя, скажу шчыра! Сустракаюцца бракаваныя тканіны, якія купляюцца дзеля эканоміі. Не ўсе мадэлі майткоў, якія распрацоўваюць нашы мадэльеры, прыгожа сядзяць на целе, — папярэджвае Марына. — І мадэльеры не вінаватыя: ім прывозяць пэўную сінтэтычную тканіну і фурнітуру і загадваюць: «Прыдумайце нешта». І тыя круцяцца, як могуць. Памятаю адну мадэль са штучнага шоўку, якая падкрэслівала, а не хавала недахопы жаночага цела. Пры тым, што ў краме прымяраць бялізну не дазваляецца. Жанчыны бяруць ката ў мяшку, апранаюць ужо дома ў і… плачуць. Сустракаюцца і мадэлі-маламеркі: з маім памерам 96 мне падыходзілі і 98, і 100 і нават 102! Справа ў тканіне.

## Ці хвалююць гаспадара праблемы?

Швачку абурае палітыка кіраўніцтва фабрыкі:

— Яно хоча і звышхуткасці вытворчасці, і якасці прадукцыі. А гэта немагчыма! Вельмі малая норма часу на аперацыі не дазваляе гэтага атрымаць. Натуральна, швачкі хочуць больш-менш зарабіць, і хоць радкі будуць роўнымі, але ў выніку пасадка недзе кульгае, нейкі брак вылазіць, на які кантралёр заплюшчвае вочы.

Дарэчы, кошт майткоў — у залежнасці ад таго, «Мода», «Класіка» ці «Alisee» — ад 80 тысяч і вышэй. Напрыклад, стрынгі «Alisee» каштуюць 160 тысяч. Чаму столькі грошай за трохкутнік і пару матузкоў?

— Мадэлі больш прыгожыя, і сыравіна там больш якасная, чым у «Модзе» і «Класіцы», — тлумачыць швачка. — Дарэчы, ёсць адмысловая брыгада, якая шые вельмі прыгожую бялізну на экспарт. Беларускі яе не бачаць.

А ці носяць свае вырабы швачка «Мілавіцы»?

— Так. Усё ж яна больш якасная і, галоўнае, я ведаю, якія мадэлі варта набываць, — кажа Марына.

Ніякіх бонусаў ці падарункаў ад фабрыкі швачкі не маюць. У гонар свята 8 сакавіка «Мілавіца» ашчаслівіла швачак зніжкай 30% на старыя мадэлі…

Апошняй кропляй для Марыны стаў падман з боку кіраўніцтва.

— Паабяцалі, што будуць плаціць па чацвёртаму разраду, калі я стану тэрма-аздабляльнікам, навучуся працаваць са спецыяльным прасам, а таксама з прэсам. Атрымала пасведчанне, але ў мэтах эканоміі мяне пакінулі на старым месцы і плацілі па трэцім разрадзе, — скардзіцца дзяўчына. — Я адпрацавала два гады на гэтай фабрыцы, і нікому не пажадаю трапіць туды. Адчуваеш сябе рабыняй. Зараз, калі заходжу ў краму бялізны і бачу мадэлі, за якія мяне пакаралі, робіцца агідна.

Марына крыўдуе і на несправядлівую дзяльбу прыбытку прадпрыемства:

— Акцыянеры, якія былі нават у нашым цэху, вырашылі, што прыбытак будуць дзяліць паміж сабой, а ўсім швачкам — нічога. У свой час, калі кіраўніцтва скупляла ў простых працоўных акцыі — за тысячу долараў штука, — разумныя на гэта не павяліся. І зараз памер іхняй квартальная прэміі — вялізны, можна нават не працаваць, таму асобныя акцыянеры пазвальняліся.

## Наша раскоша супраць іх неабходнасці

Пакуль вырабы «Мілавіцы» для многіх беларусак — раскоша, але і ў ёй трапляецца брак. Эканаміст Маргарыта набыла сабе з зарплаты прыгожы камплект бялізны больш чым за паўмільёна рублёў.

— Я не ўтрымалася, наведала фірмовую краму фабрыкі, — распавядае яна. — Мне дастаткова складана знайсці патрэбны памер станіка, я маю пяты. Яны ўсе безгустоўныя, нібыта зробленыя для старых цётак, а тут, бачу, па-французску вытанчаны — цялеснага колеру і з ажурным гафтам. Майткі да яго знайсці было прасцей. Не пашкадавала 560 тысяч за ўсё і набыла. На наступны дзень з аднаго «кубачка» станіка напалову вылезла костачка… Знервавалася, але што рабіць? Занесла бракаваны станік, каб замяніць на якасны аналаг. Высветлілася, што ўся партыя бракаваная, таму проста вярнулі грошы. Вось табе і каштоўная бялізна!

А пакуль айчынныя вытворцы эканомяць, сусветная вытворчасць прапануе новыя мадэлі і формы «разумнай» бялізны. З'явіўся станік, які змяняе колер у момант авуляцыі, супер-аб'ёмны станік, які магчыма надзьмуць з дапамогай адмысловай кнопкі. Ёсць бюстгальтары з мікрачыпам для вымярэння ціску і пульсу. Ёсць з сістэмай радыёабвесткі пра напад. У Індыі распрацавалі майткі з электрашокерам для аховы жанчыны ад гвалтаўнікоў: бялізна можа стукнуць нападніка токам у 3800 кілавольт, даслаць SMS у паліцыю і паведаміць пра месцазнаходжанне гаспадыні праз GPS. Стварылі нават бюстгальтар з тытану, які запамінае форму грудзей пры першым апрананні. Хто марыць кінуць паліць, можа насіць станік, які робіць пах цыгарэты невыносным! Згодна з прагнозам сіноптыкаў, гэта зіма будзе лютай, таму цудоўнай рэччу для беларускіх жанчын стаў бы станік з экалагічнага футра з гелевым падагрэвам. Ну, і апошняя, вартая ўвагі цікавостка ад фірма «Triumph» — музычны станік, які выконвае адну з мелодый Моцарта, да 200-годдзя кампазітара.

## Даведка

СП ЗАТ «Мілавіца» ўваходзіць у склад эстонскага холдынгу «Silvano Fashion Group» (81 працэнт акцый). Холдынг мае долю ў маладзечанскай фабрыцы «Юнона», жодзінскім «Світанку», гандлёвым і лагістычным бізнэсах Беларусі. У склад «Silvano Fashion Group» уваходзіць латвійская «Lauma», вырабы якой вядомыя беларускім жанчынам. У мінулым годзе холдынг займаў шостае месца ў топ–100 паспяховых бізнэсаў Эстоніі. 22 лістапада на «Мілавіцы» адбылася змена кіраўніцтва: замест Дзмітрыя Дзічкоўскага новым генеральным дырэктарам прызначаны Нармундс Озалінш.



7

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

TV

## 2 СНЕЖНЯ, ПАНЯДЗЕЛАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.30** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** У цэнтры ўвагі.
**10.05** Прыгодніцкая камедыя «Астэрыкс і Абелікс супраць Цэзара» (Францыя - Германія - Італія).
**12.10, 14.55, 18.35** Evrovision. Без каментароў.
**12.15** Дзень у вялікім горадзе.
**13.25** Клуб рэдактараў.
**14.10** Вакол планеты.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Журналісцкае расследаванне.
**15.55** Заўтра - гэта мы!
**16.25** Усё як мае быць!
**16.50** Вестэрн «Бандыткі» (Францыя - Мексіка - ЗША).
**19.20** Арэна.
**19.40, 23.10** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Форум.
**21.00** Панарама.
**21.45** Авантурны дэтэктыў «Шулер» (Расія - Украіна).
**22.55** Актуальнае інтэрв'ю.
**23.45** Дзень спорту.
**00.00** Прыгодніцкі баявік «Ідэальныя ўцёкі» (ЗША).

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жыць здарова!».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**12.10** Прэм'ера. «Яны і мы».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Звароты адлік».
**19.00** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Ток-шоў «Пазіцыя».
**22.05** Фільм «Арол Дзявятага легіёна».
**00.10** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Тыдзень».
**09.45** «Вялікі сняданак».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Такі лёс».
**12.30** «Джэймі: ў пошуках смаку».
**13.00** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**13.50** «Вялікі горад».
**14.30** СТБ прадстаўляе: «Зорны рынг. Новы сезон.
**15.45** «Іншая краіна».
**16.20** «Наша справа».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Вялікія таямніцы. Энергія старажытных багоў».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Паляўнічы» (Аўстралія, 2011 г.).
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** СТБ прадстаўляе: музычнае шоў краіны «Гарады, што співаюць». Фінал.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Двое з куфра» (Расія).
**10.15** Навіны надвор'я.
**10.45** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).
**11.55** Вышэй за дах.
**12.30** Дакументальны серыял «Азбука добрага самаадчування» (Аўстралія).
**13.05** Лірычная камедыя «Тры плюс два» (СССР).
**14.50** Авантурная камедыя «Шпіёнскі запал» (Францыя).
**16.40** Беларуская часіна.
**17.55** Вострасюжэтны серыял «Двое з куфра» (Расія).
**18.55** Баявік «Херувім» (Расія). 1-2 серыі.
**20.40** Пад грыфам «Вядомыя».
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**22.40** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**23.40** Хакей. КХЛ.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.30** «Дабраранак».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Год у гісторыі».
**08.20** «Карані».
**08.50** «Пейзажы скрозь час». Тэрнер у гавані Онфлэр.
**09.20** «Свет прыроды». Лясны прыгажун.
**09.35** «Раскол». 15-я серыя.
**10.25** «Дыя@блог». «Пра мову».
**10.55** «Гарачыя дзянёчкі». Мастацкі фільм.
**12.20** «Калейдаскоп».
**12.30** «Год у гісторыі».
**12.45** «Святло далёкай зоркі». Памяці мастака-пастаноўшчыка, сцэнографа, касцюмера Юрыя Тура.
**13.10** «Аўтограф».
**13.40** «Зімні дуб». Кароткаметражны фільм.
**14.00** «Скарбніца Віцебшчыны». Богаяўленскі манастыр ў горадзе Полацку.
**14.25** «Музеум». Калекцыя керамікі з вёскі Гародная Столінскага раёна.
**14.45** «Разам з ім». Дакументальны фільм пра жыццё і творчасць рэжысёра Уладзіміра Корш-Сабліна.
**15.15** «Мудрамер». 1-я і 2-я серыі.
**17.25** «Наперад у мінулае».
**17.55** «Лабірынты». Архітэктар Лявон Вітан-Дубейкаўскі.
**18.25** «Найменні і вобразы». Разьба па дрэве.
**18.35** «Калейдаскоп».
**18.45** «Маскарад». Мастацкі фільм.
**20.30** Калыханка.
**20.50** «Зімародак». Мастацкі фільм.
**22.05** «Дыя@блог». «Пра мову».
**22.30** «Раскол». 16-я серыя.
**23.20** «Аўтограф».
**23.50** «Святло далёкай зоркі». Памяці мастака-пастаноўшчыка, сцэнографа, касцюмера Юрыя Тура.
**00.15** «Калейдаскоп».
**00.20** «Год у гісторыі».

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Карціна свету».
**10.55** Надвор'е на тыдзень.
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** Весткі.
**11.30** «Ранішняя@пошта».
**12.00** «Прамы эфір».
**13.00** «Шукальнікі».
**13.50, 16.50, 19.50, 00.35** Навіны - Беларусь.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** «Адмысловы выпадак».
**17.10** Серыял «Гаспадыня майго лёсу».
**18.05** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.55** Серыял «Выспа непатрэбных людзей».
**20.40** Серыял «Выспа непатрэбных людзей». Працяг.
**21.45** Серыял «Руская спадчынніца».
**22.45** Серыял «Шэрлак Холмс».
**00.45** «Дзяжурны па краіне».

### НТВ

**06.00** «НТБ раніцай».
**08.40** «Новыя рускія сенсацыі».
**09.35, 10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**11.00** «Да суда».
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Справа лекараў».
**15.10** «Гатуем».
**15.40, 18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.40** «Гаворым і паказваем».
**19.35** Серыял «Вышук».
**23.05** Сёння. Вынікі.
**23.30** Серыял «Нядзеля ў жаночай лазні».

### БЕЛСАТ

**07.00** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**07.30** «Вацлаў Іваноўскі: «Загляне сонца...», рэпартаж, 2009 г., Беларусь.
**07.50** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**08.15** «Дом», серыял: 12 серыя.
**18.00** «Кароль-вінароб», серыял: 6 серыя.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Пінгвінік Пік-Пок», мульсерыял.
**19.00** Навіны.
**19.15** Агляд медыяў.
**19.20** Агляд падзеяў культуры.
**19.25** Дэвайс.
**19.30** Навіны.
**19.40** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**19.55** рэпартаж «Euronews».
**20.00** Навіны.
**20.25** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Фільматэка майстроў: «Варажба жарлянкі», маст. фільм, 2005 г., Польшча–Германія.
**23.05** Невядомая Беларусь: «НКВД – гестапа. Браты па крыві», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**23.35** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**00.05** Аб'ектыў.

## 3 СНЕЖНЯ, АЎТОРАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.40** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Сэрца Марыі» (Расія).
**10.05** Серыял «Такое звычайнае жыццё».
**11.00** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».
**12.10, 14.55** Evrovision. Без каментароў.
**12.15** Дзень у вялікім горадзе.
**13.25** Нашы.
**13.40** Авантурны дэтэктыў «Шулер» (Расія - Украіна).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Арэна.
**15.45** Серыял «Джамайка».
**16.45** «Здароўе». Ток-шоў.
**17.35** Серыял «Сэрца Марыі» (Расія).
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 23.20** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Серыял «Такое звычайнае жыццё».
**21.00** Панарама.
**21.45** Авантурны дэтэктыў «Шулер» (Расія - Украіна). Заключная серыя.
**23.00** Сфера інтарэсаў.
**23.55** Дзень спорту.
**00.05** Серыял «Джамайка».

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**12.10** Прэм'ера. «Яны і мы».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Наша Белараша».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. «Забіць Сталіна». Шматсерыйны фільм.
**23.25** «Вячэрні Ургант».
**00.05** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Вялікія таямніцы. Энергія старажытных багоў».
**10.00** «Глядзець усім!».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Ніна». Серыял.
**12.30** «Джэймі: ў пошуках смаку».
**13.00** «Цэнтральны рэгіён».
**13.50** Фільм «Далёка па суседстве» (Бельгія - Люксембург - Францыя - Германія, 2010 г.).
**15.40** «Дзіўная справа».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Нам і не сніласся».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Укол парасонікам» (Францыя, 1980 г.).
**22.00** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Жывая тэма».
**00.00** «Аўтапанарама».
**00.25** «Знахар». Серыял.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Двое з куфра» (Расія).
**10.15** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**11.15** Серыял «Следства вядзе Да Вінчы».
**12.25** Баявік «Херувім» (Расія). 1-2 серыі.
**14.20** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**15.30** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**16.40** Беларуская часіна.
**17.55** Серыял «Двое з куфра» (Расія).
**18.55** Баявік «Херувім» (Расія). 3-4 серыі.
**20.40** Пад грыфам «Вядомыя».
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**22.40** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**23.40** Серыял «Следства вядзе Да Вінчы».

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.30** «Дабраранак».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Год у гісторыі».
**08.20** «Цуды прыроды».
**08.55** «Хлапок адной далоні». Мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага ансамбля танца Рэспублікі Беларусь Валянцін Дудкевіч.
**09.20** «Палескі пачастунак».
**09.35** «Раскол». 16-я серыя.
**10.25** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**10.50** «Маскарад». Мастацкі фільм.
**12.35** «Калейдаскоп».
**12.40** «Год у гісторыі».
**12.55** «Святло далёкай зоркі». Памяці тэатральнага рэжысёра Мікалая Трухана.
**13.20** «Аўтограф».
**13.55** «На беразе ракі Фантанкі». Дакументальны фільм пра жыццё і творчасць рускага паэта Міхаіла Дзяржавіна.
**14.25** «Давеку». Дакументальны фільм пра самадзейнага мастака Івана Супрунчука.
**14.45** «Масква-Мінск. Кінатранзіт». «Ларыса Шапіцька. Узыходжанне».
**15.15** «Зімародак». Мастацкі фільм.
**16.30** «Маем рэчы». Куфар.
**16.45** «Карані».
**17.15** «Росчырк часу». Бернардзінскія кляштары.
**17.25** «Свет прыроды». Лесабалотны комплекс Чырвоны бор.
**17.55** «Рэчавы доказ». Глобус Пятра Вялікага.
**18.25** «Адлюстраванні». Францішка Урсула Радзівіл.
**18.50** «Калейдаскоп».
**19.00** «Дэпутат Балтыкі». Мастацкі фільм.
**20.30** Калыханка.
**20.50** «Абочына». Мастацкі фільм.
**22.20** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**22.45** «Раскол». 17-я серыя.
**23.40** «Аўтограф».
**00.05** «Святло далёкай зоркі». Памяці тэатральнага рэжысёра Мікалая Трухана.
**00.30** «Калейдаскоп».
**00.40** «Год у гісторыі».

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** Весткі.
**11.30** «Прамы эфір».
**12.40** Тэлесерыял «Дэтэктыўнае агенцтва «Іван ды Мар'я».
**13.50, 16.50, 19.50, 00.35** Навіны - Беларусь.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** «Адмысловы выпадак».
**17.10** Серыял «Гаспадыня майго лёсу».
**18.05** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.55, 20.40** Серыял «Выспа непатрэбных людзей».
**21.45** Серыял «Руская спадчынніца».
**22.45** Серыял «Шэрлак Холмс».
**00.45** «Адмысловы карэспандэнт».

### НТВ

**06.00** «НТБ раніцай».
**08.40, 10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.55** «Да суда».
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Справа лекараў».
**15.10** «Справа густу».
**15.40, 18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.40** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**19.35** Вострасюжэтны серыял «Вышук».
**23.05** Сёння. Вынікі.
**23.30** Серыял «Нядзеля ў жаночай лазні».

### МИР

**05.00** М/ф «Пяць хвілін да метро».
**06.35** Мультфільмы.
**07.05** «Цік-так».
**07.20** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**09.15** М/ф «Паездкі на старым аўтамабілі».
**11.15** «Навіны Садружнасці. Культура».
**12.25, 02.40** Т/с «Клон».
**14.10** Д/ф «У свеце цудаў».
**15.25, 22.05** Ток-Шоў «Слова за слова».
**16.20** Т/с «Закон».
**18.25** «Саюзнікі».
**19.00** Т/с «Жыць спачатку».
**21.25** «Акцэнты».
**21.40, 05.25** Д/ф «Рэальны свет».
**23.00** Т/с «Чыста ангельскія забойствы».
**00.40** М/ф «Доўгае развітанне».

### БЕЛСАТ

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.25** ПраСвет.
**09.00** Аб'ектыў.
**18.00** «Распавяду вам пра вайну», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**19.15** Агляд медыяў.
**19.20** Агляд падзеяў культуры.
**19.25** рэпартаж «Euronews».
**19.30** Навіны.
**19.40** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**19.50** рэпартаж «Euronews».
**20.00** Навіны.
**20.30** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**20.45** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Тэра постсаветыка. Красная плошча. Ленін», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**21.55** «Белая візітоўка», серыял: 5 серыя.
**22.50** Аб'ектыў.

## 4 СНЕЖНЯ, СЕРАДА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.25** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**08.45** Слова мітрапаліта Філарэта.
**09.10** Серыял «Сэрца Марыі» (Расія).
**10.05** Мерыял «Такое звычайнае жыццё».
**11.00** Дакументальны серыял «Містычныя гісторыі»(Украіна).
**12.10, 14.55, 18.35** Evrovision. Без каментароў.
**12.15** Дзень у вялікім горадзе.
**13.25** Нашы.
**13.40** Авантурны дэтэктыў «Шулер» (Расія - Украіна). Заключная серыя.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Серыял «Джамайка».
**16.30** Зямельнае пытанне.
**17.00** БеларусьLIFE.
**17.30** Серыял «Сэрца Марыі» (Расія).
**19.20** Адмысловы рэпартаж.
**19.40, 23.05** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Серыял «Такое звычайнае жыццё».
**21.00** Панарама.
**21.45** Камедыйная меладрама «Страшная прыгажуня» (Украіна). 1-я серыя.
**22.50** Актуальнае інтэрв'ю.
**23.40** Дзень спорту.
**23.55** Серыял «Джамайка».

### Н

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**12.10** Прэм'ера. «Яны і мы».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Наша Белараша».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. Шматсер. фільм «Адліга».
**23.25** «Вячэрні Ургант».
**00.05** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Нам і не сніласся».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Ніна». Серыял.
**12.30** «Джэймі ў сябе дома».
**13.00** «Мінск і мінчане».
**13.50** Фільм «Укол парасонікам» (Францыя, 1980 г.).
**15.35** «Жывая тэма».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Нам і не сніласся».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Навальнічны перавал» (Вялікабрытанія - ЗША, 2002 г.).
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**00.00** «Дабро пажаліцца».
**00.25** «Знахар». Серыял.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Вострасюжэтны серыял «Двое з куфра» (Расія).
**10.15** Цудоўная сямёрка. Другі эпізод. Фігурнае катанне.
**10.50** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).
**11.55** Цела чалавека.
**12.30** Баявік «Херувім» (Расія). 3-я і 4-я серыі.
**14.20** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**15.30** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**16.40** Беларуская часіна.
**17.55** Вострасюжэтны серыял «Двое з куфра» (Расія).
**18.55** Баявік «Херувім» (Расія). 5-6-я серыі.
**20.40** Пад грыфам «Вядомыя».
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**22.45** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**23.55** Хакей. КХЛ.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.30** «Дабраранак».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Год у гісторыі».
**08.20** «Размовы пра духоўнае».
**08.25** «Кола». Кароткаметражны фільм.
**08.50** «Карані».
**09.20** «Найменні і вобразы». Народны майстар - каваль Зігмунд Сабко.
**09.35** «Раскол». 17-я серыя.
**10.25** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**10.50** «Дэпутат Балтыкі». Мастацкі фільм.
**12.20** «Калейдаскоп».
**12.30** «Год у гісторыі».
**12.45** «Святло далёкай зоркі». Памяці скульптара Леаніда Давідзенкі.
**13.10** «Аўтограф».
**13.40** «Размовы пра духоўнае».
**13.45** «Росчырк часу». Творчасць мастака-графіка Рыгора Клікушына.
**14.00** «Цуды прыроды». Вялікабрытанія. Казахстан. Кітай. Чэхія.
**14.30** «Скарбніца Гарадзеншчыны». Сведка Сярэднявечча. Гісторыя і архітэктура Мірскага замка.
**15.00** «Росчырк часу». Віцебскі музей.
**15.15** «Абочына». Мастацкі фільм.
**16.45** «Палескі пачастунак». Парсючок.
**17.00** «Канструктывізм». Дак. фільм.
**17.25** «Маляваны рай». Дак. фільм пра лёс і творчасць мастачкі Алёны Кіш.
**17.45** «Свет прыроды». Блакітная жамчужына Палесся. Гісторыя і сучаснасць Выганашчанскага возера.
**18.15** «Лабірынты». Ключ Літвы. Пра горад Белгарад-Днястроўскі, у якім раней жылі беларусы.
**18.45** «Камертон». Паэт, празаік, кінасцэнарыст, рэжысёр, акцёр, грамадскі дзеяч Яўген Еўтушэнка.
**19.10** «Размовы пра духоўнае».
**19.15** «Калейдаскоп».
**19.25** «Пышка». Мастацкі фільм.
**20.30** Калыханка.
**20.50** «Фруза». Мастацкі фільм.
**22.10** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**22.35** «Раскол». 18-я серыя.
**23.30** «Аўтограф».
**00.00** «Святло далёкай зоркі». Памяці скульптара Леаніда Давідзенкі.
**00.25** «Калейдаскоп».
**00.30** «Год у гісторыі».

### РОССИЯ ТЕЛЕКАНАЛ

**07.00** «Раніца Расіі».
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** Весткі.
**11.30** «Прамы эфір».
**12.40** Тэлесерыял «Дэтэктыўнае агенцтва «Іван ды Мар'я».
**13.50, 16.50, 19.50, 00.35** Навіны - Беларусь.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** «Адмысловы выпадак».
**17.10** Серыял «Гаспадыня майго лёсу».
**18.05** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.55, 20.40** Серыял «Выспа непатрэбных людзей».
**21.45** Серыял «Руская спадчынніца».
**22.45** Серыял «Шэрлак Холмс».
**00.45** «Узыход Перамогі. Днепр: Крах Усходняга валу».

### НТВ

**06.00** «НТБ раніцай».
**08.40, 10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.55** «Да суда».
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Справа лекараў».
**15.15** «Справа густу».
**15.40, 18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.40** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**19.35** Вострасюжэтны серыял «Вышук».
**23.05** Сёння. Вынікі.
**23.30** Серыял «Нядзеля ў жаночай лазні».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**08.45** Гісторыя пад знакам Пагоні: Полацкі езуіцкі універсітэт.
**08.55** Аб'ектыў.
**18.00** «Каралева Бона», тэлесерыял: 2 серыя.
**18.50** Калыханка для самых маленькіх: «Занатоўкі натураліста».
**19.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**19.15** Агляд медыяў.
**19.20** Агляд падзеяў культуры.
**19.25** рэпартаж «Euronews».
**19.30** Навіны.
**19.40** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**19.50** рэпартаж «Euronews».
**20.00** Навіны.
**20.30** Маю права (юрыдычная праграма).
**20.50** Моўнік (лінгвістычная праграма): Мова колераў.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Дэкалог, адзін», маст. фільм, 1989 г., Польшча.
**22.25** Zeroes Heroes.
**23.00** ПраСвет.
**23.30** «Распавяду вам пра вайну», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**00.15** Аб'ектыў.

## 5 СНЕЖНЯ, ЧАЦВЕР

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.35** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Меладраматычны серыял «Сэрца Марыі» (Расія).
**10.05** Меладраматычны серыял «Такое звычайнае жыццё» (Расія).
**11.00** Дакументальны серыял «Містычныя гісторыі» (Украіна).
**12.10, 14.55, 18.35** Evrovision. Без каментароў.
**12.15** Дзень у вялікім горадзе.
**13.25** Нашы.
**13.45** Камедыйная меладрама «Страшная прыгажуня» (Украіна). 1-я серыя.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Меладраматычны серыял «Джамайка» (Украіна - Расія).
**16.25** Каробка перадач.
**17.00** Таямніцы следства.
**17.30** Меладраматычны серыял «Сэрца Марыі» (Расія).
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 23.15** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Меладраматычны серыял «Такое звычайнае жыццё» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Камедыйная меладрама «Страшная прыгажуня» (Украіна). Заключная серыя.
**22.55** Сфера інтарэсаў.
**23.50** Дзень спорту.
**00.00** Меладраматычны серыял «Джамайка» (Украіна - Расія).

### Н

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Закрытая школа». Шматсерыйны фільм.
**12.10** Прэм'ера. «Яны і мы».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Наша Белараша».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. Шматсерыйны фільм «Адліга».
**23.25** «Вячэрні Ургант».
**00.05** «Праці ночы».
**01.05** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Нам і не сніласся».
**10.05** «Дабро пажаліцца».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Ніна». Серыял.
**12.30** «Джэймі ў сябе дома».
**13.00** «Прыгоды дылетанта».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Фільм «Навальнічны перавал» (Вялікабрытанія - ЗША, 2002 г.).
**15.50** «Увяўце сабе».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Нам і не сніласся».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Кармэн» (Расія, 2003 г.).
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**00.00** «Аўтапанарама».
**00.25** «Знахар». Серыял.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Вострасюжэтны серыял «Двое з куфра» (Расія).
**10.15** Вышэй за дах.
**10.50** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).
**11.55** Беларуская кухня.
**12.30** Баявік «Херувім» (Расія). 5-6-я серыі.
**14.25** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**15.35** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**16.40** Беларуская часіна.
**17.55** Вострасюжэтны серыял «Двое з куфра» (Расія).
**18.55** Баявік «Херувім» (Расія). Заключныя серыі.
**20.40** Пад грыфам «Вядомыя».
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**22.40** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**23.40** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.30** «Дабраранак».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Год у гісторыі».
**08.20** «Свет прыроды». На берагах Вялікага канала.
**08.55** «Пейзажы скрозь час». Цудоўныя пейзажы Джорджа Інеса.
**09.20** «Наша спадчына». Кармянская святыня.
**09.35** «Раскол». 18-я серыя.
**10.25** «Дыя@блог». «Пра вечнае».
**10.55** «Пышка». Мастацкі фільм.
**12.00** «Калейдаскоп».
**12.05** «Год у гісторыі».
**12.20** «Святло далёкай зоркі». Памяці актрысы, народнай артысткі Беларусі Ганны Абуховіч.
**12.45** «Аўтограф».
**13.20** «Незнаёмая песня». Кароткаметражны фільм.
**13.45** «Сафія Слуцкая. Апошняя з роду Алелькавічаў». Дакументальны фільм пра адну з чатырнаццаці беларускіх святых.
**14.15** «Майстры і чаляднікі». Кераміка.
**14.40** «Вочы вады. Ігар Шклярэўскі». Дакументальны фільм.
**15.15** «Фруза». Мастацкі фільм.
**16.40** «Камертон». Піяніст, кампазітар, джазмен Сяргей Жылін.
**17.05** «Сямейны альбом». Сям'я Карачун.
**17.20** «Цуды прыроды». Лапландыя. Альпы. Францыя. Гібралтар.
**17.45** «Масква-Мінск. Кінатранзіт». «Барыс Плотнікаў. Узыходжанне».
**18.15** «Палескі пачастунак». Бульба з курыцай.
**18.30** «Карані».
**19.00** «Калейдаскоп».
**19.10** «Навальніца». Мастацкі фільм.
**20.30** Калыханка.
**20.45** «Высакародны разбойнік Уладзімір Дуброўскі». Мастацкі фільм.
**22.25** «Дыя@блог». «Пра вечнае».
**22.50** «Раскол». 19-я серыя.
**23.40** «Аўтограф».
**00.10** «Святло далёкай зоркі». Памяці актрысы, народнай артысткі Беларусі Ганны Абуховіч.
**00.35** «Калейдаскоп».
**00.40** «Год у гісторыі».

### РОССИЯ ТЕЛЕКАНАЛ

**07.00** «Раніца Расіі».
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** Весткі.
**11.30** «Прамы эфір».
**12.40** Тэлесерыял «Дэтэктыўнае агенцтва «Іван ды Мар'я».
**13.50, 16.50, 19.50, 00.35** Навіны - Беларусь.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** «Адмысловы выпадак».
**17.10** Серыял «Гаспадыня майго лёсу».
**18.05** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.55, 20.40** Серыял «Выспа непатрэбных людзей».
**21.45** Серыял «Руская спадчынніца».
**22.45** Серыял «Шэрлак Холмс».
**00.45** «Паядынак».

### НТВ

**06.00** «НТБ раніцай».
**08.35, 10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**11.00** «Да суда».
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Справа лекараў».
**15.15** «Справа густу».
**15.40, 18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**19.35** Вострасюжэтны серыял «Вышук».
**23.05** Сёння. Вынікі.
**23.30** Серыял «Нядзеля ў жаночай лазні».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** Маю права (юрыдычная праграма).
**08.50** Моўнік (лінгвістычная праграма): Мова колераў.
**08.55** Аб'ектыў.
**17.55** «Дэкалог, адзін», маст. фільм, 1989 г., Польшча.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**19.15** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Агляд медыяў.
**19.20** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Агляд падзеяў культуры.
**19.25** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: рэпартаж «Euronews».
**19.30** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Навіны.
**19.40** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**19.50** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: рэпартаж «Euronews».
**20.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Навіны.
**20.30** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Час гонару», серыял: 62 серыя.
**22.15** Маю права (юрыдычная праграма).
**22.35** «Чэрап», дак. фільм, 2008 г., Польшча.
**23.05** Аб'ектыў.

# ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ

Выпуск №11 (87)
(лістапад)

www.lit-bel.org www. novychas. info

Культурна-асветніцкі праект Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага часу»


**Анонс**



СЯБРЫНА

# «САЛІДАРНАСЦЬ — АДНА З НАШЫХ ГАЛОЎНЫХ МЭТАЎ»

**Шэраг літаратурных беларуска-шведскіх стасункаў папоўніўся і ўзбагаціўся яшчэ адной падзеяй: прыездам у Мінск старшыні Саюза пісьменнікаў Швецыі Гунара Ардэліуса і дзіцячай пісьменніцы Эвы Суса, кніга «Снежны чалавек» якой сёлета пабачыла свет па-беларуску.**



Гунар Ардэліус




Фота А. Казловай

Эва Суса

Для спадара Гунара візіт у Беларусь — першы. А вось спадарыня Эва была ў Мінску ў 2009 годзе — як і гэтым разам, на падвядзенні вынікаў літаратурнага конкурса на лепшы твор для дзяцей, праведзенага Саюзам беларускіх пісьменнікаў.

Госці прысутнічалі на цырымоніі ўзнагароджання пераможцаў Конкурса «Exlibris» імя Янкі Маўра, правялі майстар-клас, узялі ўдзел у шэрагу прэзентацыяў і сустрэч.

Пісьменніца **Алена Масла** сустрэлася са шведскімі калегамі незадоўга да ад'езду гасцей.

***— Хацелася б напачатку азначыць тэмы, актуальныя і для беларускай, і для шведскай літаратурнай прасторы; пагаварыць пра тое, што нас збліжае і што розніць…***

***Звернемся да прыкладу зоркі і шведскай, і сусветнай дзіцячай літаратуры — Астрыд Ліндгрэн. Вядомы выпадак, калі сваёй сатырычнай казкай «Памперыпоса з Манісманіі» пісьменніца змяніла сістэму падаткаабкладання ў Швецыі. Скажыце, да гэтай пары голас пісьменніка такі важкі ў Швецыі, што можа ўплываць на ход дзяржаўных спраў, ці ад часоў Астрыд Ліндгрэн нешта змянілася?***

**Эва Суса:** — О, прыклад Астрыд Ліндгрэн асаблівы, унікальны ў сваім родзе. Рэдка сустрэнеш творчую асобу, якая мае адначасова стаўленне да сябе з боку грамадскасці. Адны любяць і ўспрымаюць чалавека, іншыя — недалюбліваюць і крытыкуюць. Астрыд жа любілі ўсе! Хаця — не, улады ўсё ж недалюблівалі, бо яна сапраўды стварала ім нязручнасці. Учынкі, прамовы, заўвагі пісьменніцы шырока абмяркоўваліся ў грамадстве, яна была надзвычай папулярнай. Згаданы вамі выпадак сапраўды меў велізарнае значэнне для ўладкавання грамадскага жыцця ў Швецыі, але, бадай, такі магутны пісьменніцкі голас, які быў у Астрыд Ліндгрэн — гэта ўсё ж такі выключэнне.

**Гунар Ардэлиус:** — Калі некаторы час таму да пісьменнікаў грамадства прыслухоўвалася больш уважліва, то сёння літаратура ўжо не мае таго высокага статусу, як раней. Літаратура канкуруе з многімі іншымі формамі забаўляльных відаў мастацтва. Хаця ў апошнія гады ёсць, можна сказаць, прагрэс у літаратуры, калі месц на ўвазе як камерцыйную вартасць. Паэзія, якасная перакладная літаратура апошнім часам трошкі прыцясняліся, а цяпер назіраецца адраджэнне цікавасці да гэтых жанраў. У той жа час роля пісьменніка ў медыясферы ўзрасла. Быць аўтарам — значыць быць вядомай асобай і пастаянна з'яўляцца ў СМІ. Пісьменніка мы часцей бачым і чуем, але ў цэлым яго вага ў грамадстве, безумоўна, зменшылася.

**Э.С.:** — У той жа час у грамадстве ёсць важкія галасы, якія належаць менавіта пісьменнікам. Творца стаў больш універсальным і змог перайначыць сваю дзейнасць на больш камерцыйную, бо — куды падзенешся — трэба выжываць. І часта літаратар займаецца не толькі сваёй пісьменніцкай дзейнасцю, але і, напрыклад, журналісцкай. Пісьменнікі вельмі змяніліся ў апошні час. Значна ўзрасла канкурэнцыя, бо шмат аўтараў выдае кнігі. На дадзены момант кнігу ў нас выдаць прасцей, лягчэй і танней, таму нас стала больш.

***— У Саюзе пісьменнікаў Швецыі тры тысячы літаратараў. Якія яго функцыі? Творцы «вольныя» і тыя, што належаць да Саюза пісьменнікаў — ёсць паміж імі розніца?***

**Г.А.:** — Добрае пытанне. Мы ўвесь час працуем над тым, каб заахвоціць як мага большую колькасць пісьменнікаў быць сябрамі Саюза. Мы лічым, што мы мацнейшыя, калі нас больш. І таксама стараемся, каб маладыя пісьменнікі як мага раней сталі нашымі сябрамі. Безумоўна, пісьменнікі розныя, як маладыя, так і сталыя. Напрыклад, ёсць аўтары дэтэктываў, якія сваёй творчасцю зарабілі мільёны. Але мы ў сваёй дзейнасці шмат увагі надаем салідарнасці. Аўтары, якія з'яўляюцца сябрамі Саюза пісьменнікаў, атрымліваюць бясплатна юрыдычныя кансультацыі, маюць магчымасць удзельнічаць у стыпендыях СП, наведваць Дамы творчасці, жыць у іх і тварыць — ну і таксама ёсць шмат іншых выгодаў…

Чым мацнейшая наша салідарнасць, тым лепш будзе наладжанае супрацоўніцтва з нашымі контрагентамі — напрыклад, з выдавецтвамі. Калі малады пісьменнік, які мае не шмат выдадзеных кніг, уступае ў сувязь з выдавецтвам, то з дапамогай Саюза пісьменнікаў ён атрымлівае роўныя з іншымі магчымасці і ўмовы. Насамрэч, чым лепш мы ведаем адно аднаго, чым больш дапамагаем адно аднаму, тым мы мацнейшыя. З намі лічацца ў грамадстве, а таксама і дзяржава.

Насамрэч, Саюз пісьменнікаў Швецыі мае на мэце павышэнне салідарнасці, бо пісьменнік — асоба індывідуалістычная, моцная. Дзякуючы гэтым рысам чалавек і можа стварыць нешта вартае. Але ж такія людзі звычайна з падазрэннем ставяцца да калегаў, канкурэнцыя таксама моцная. А наша задача — аб'ядноўваць і ствараць нармальныя ўмовы для працы. Салідарнасць — адна з нашых галоўных мэтаў.

**Э.С.:** — Я б яшчэ хацела адзначыць, што Саюз пісьменнікаў мае дэмакратычную структуру. У нас адбываецца агульны сход, на якім можа прысутнічаць кожны з сяброў і паўплываць на будучыню арганізацыі. Шляхам галасавання выбіраецца старшыня, праўленне Саюза пісьменнікаў. Гэта бывае раз на год. Ну і далей ужо яны павінны давяраць сваім лідарам…

**Г.А.:** — Як старшыня Саюза пісьменнікаў я вельмі шмат працаваў над тым, каб структура арганізацыі стала менш іерархічнай, каб кожны мог на аднолькавым узроўні паўплываць на рашэнні.

***— Спадарыня Эва, як сябар секцыі дзіцячай літаратуры — ці задаволены вы працай Саюза ў галіне дзіцячай літаратуры?***

**Э.С.:** — Безумоўна, гэта пастаянная спрэчка паміж рознымі групоўкамі: каму ў нашым Саюзе надаецца больш увагі. І таму важна, каб перакладчыкі, аўтары фактычнай літаратуры не адчувалі сябе ўбаку ад таго, што адбываецца. Пагэтаму ад кожнай групы павінен быць прадстаўнік у праўленні. Напрыклад, калі я была намеснікам старшыні Саюза, я ўвесь час скіроўвала сваю ўвагу на дзіцячую літаратуру, каб на яе не забываліся. Гэтаксама дзейнічаюць і прадстаўнікі іншых секцыяў.

**Г.А.:** — Да 70-х гадоў у нас было чатыры розныя пісьменніцкія арганізацыі: дзіцячых пісьменнікаў, перакладной літаратуры, фактычнай літаратуры, а таксама ўласна паэтаў і празаікаў. Але ў сямідзясятых гадах мы аб'ядналіся, і гэта робіць нашую арганізацыю шматколькаснай і моцнай. Ёсць, безумоўна, праз гэта свае цяжкасці ў кіраванні, але разам з тым мы — грамадская сіла. Моцная ў перамовах з выдавецтвамі і прадстаўнікамі ўладаў.

***— Ці не падаецца вам, што вага дзіцячага пісьменніка, тым не менш, застаецца значнай у грамадстве заўжды, бо ён працуе з дзіцячай свядомасцю.***

**Э.С.:** — Сапраўды, у гэтым выпадку я б не сказала, што роля шведскага дзіцячага пісьменніка змянілася, яна ўвесь час была вельмі значнай, і мы працягваем адчуваць, што дзіцячы пісьменнік — гэта важна. Дзіцячыя пісьменнікі атрымліваюць шмат увагі, у нас ёсць Акадэмія дзіцячых пісьменнікаў — я таксама была яе сябрам. Ёсць прэмія Астрыд Ліндгрэн — можна сказаць, аналаг Нобелеўскай прэміі ў дзіцячай літаратуры (і ў грашовым эквіваленце), якая даецца за лепшыя творы аўтараў з усяго свету. Таму, безумоўна, нашыя пазіцыі і цяпер моцныя — як гэта і было ўвесь час.

***— Спадар Гунар упершыню ў Беларусі. Якія адкрыцці-неспадзяванкі, што вы бачылі па-іншаму?***

**Г.А.:** — Па-першае, шчыра дзякую за магчымасць сустрэцца з беларускімі калегамі і пагаварыць пра іх творчасць, праблемы. З іншага боку, я разумею, што мы ў Швецыі жывем у зусім іншых умовах, якія тычацца пісьменніцтва і пісьменніка. У шведскім грамадстве шмат што наладжана з таго, што не наладжана тут і што аўтаматычна становіцца задачай пісьменнікаў. Гэта вельмі складана. Я разумею, што мы жывем у двух розных светах.

Працяг на стар. 19 (11) ▸

## ПАЛІЦА

### ВУШАЦКІ СЛОВАЗБОР РЫГОРА БАРАДУЛІНА




Пабачыў свет «Вушацкі словазбор» Рыгора Барадуліна. Гэтае выданне стала 47 выпускам серыі «Кнігарня пісьменніка» Бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Прадмову да кнігі напісаў Уладзімір Някляеў, фрагменты з яе публікаваліся ў часопісе «Дзеяслоў» і ў «Новым часе». Укладальнікам выдання стала Наталля Давыдзенка, рэцэнзентам — Кастусь Цвірка.

««Вушацкі словазбор» — спроба сабраць за адным бяседным сталом хоць крышачку неперазызданага шматгалосся роднае мне зямлі, шматгалосся, якое, на жаль, пачынае глухнуць», — піша Рыгор Іванавіч ва ўступным слове да кнігі, прысвечанай «Светлае памяці мамы Куліны».

Нездарма на вокладцы змешчанае фота беларускай вёскі. Народны паэт склаў не проста слоўнік адметнай лексікі Вушаччыны — ён імкнуўся перадаць «паганскія карані і біблейскае неба», «чысціню бачання свету», галасы «мамы Куліны, крэўных і блізкіх».

### БРАМА: ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ АЛЬМАНАХ




Пабачыў свет першы нумар літаратурна-мастацкага альманаха «Брама». Гэта выданне Магілёўскага абласнога аддзялення ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» (свае альманахі маюць таксама Гродзенскае («Новы Замак») і Брэсцкае («Жырандоля») абласныя аддзяленні СБП, гомельскія літаратары таксама рыхтуюць першы выпуск свайго выдання).

У першым выпуску альманаха «Брама» змешчаныя паэзія, проза, драматургія, а таксама пераклады і літаратуразнаўчыя артыкулы, успаміны і эсэ, прысвечаныя жыццю і творчасці Сяргея Грахоўскага, Аляксея Пысіна, Міхася Ларчанкі, Рыгора Бярозкіна, Яўгеніі Янішчыц, Янкі Сіпакова. Усяго на старонках «Брамы» апублікаваныя матэрыялы 27 аўтараў.

**Прэс-служба ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў»**

### ДЗВЕРЫ Ў «ВУСЦІШНЫ ПАКОЙ»




Адчуванне хісткасці рэчаіснасці, трывожная і завабліваая прысутнасць чагосьці тагасветнага напаткае кожнага, хто зазірне ў «Вусцішны пакой». Так называецца новы зборнік містычнага і гатычнага апавядання ад часопіса «ПрайдзіСвет».

Кніга, у якую ўвайшлі 29 вусцішных апавяданняў у перакладзе на беларускую з англійскай, французскай, нямецкай, партугальскай, украінскай, польскай і шведскай моваў, выйшла ў серыях Бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» і Бібліятэкі часопіса «ПрайдзіСвет» «PostScriptum». Для перакладу былі абраныя як класікі гатычнага жанру, такія, як Эдгар Алан По і Жэрар дэ Нэрваль, так і, напрыклад, як наш сучаснік Юрый Вінічук.

Кацярына Мацієўская, рэдактар зборніка, расказала, якія з апавяданняў уразілі яе найболып:

«Мой фаварыт — апавяданне «Энох Сомс» англійскага пісьменніка і мастака-карыкатурыста Макса Бірбама (пераклад Юлі Цімафеевай), якое Борхес уключыў у сваю Анталогію фантастычнай літаратуры. А ў плане мовы ўражвае «Ян Таемнік» Баляслава Лесьмяна (пераклад Ганны Янкута), які найперш славіцца як паэт. Пры слабаватых сюжэтах Лесьмян робіць з мовай нешта неверагоднае, можна цытаваць з любога абзаца і проста атрымліваць асалоду. Яшчэ адзін мой улюбёны аўтар у зборніку — Мантэгю Родс Джэймс, якога хутчэй за ўсё добра ведаюць аматары гатычнага апавядання і які выдатна ўмее ствараць атмасферу жаху. У зборнік увайшлі два апавяданні гэтага аўтара: «Студня Стогнаў» у перакладзе Веры Бурлак і «Нататкі каноніка Альберыка» ў перакладзе Лаўрэна Юрагі».

Апавяданні з «Вусцішнага пакоя» маюць розную напругу — некаторыя нагнятаюць жах і здольныя змусіць кроў стынуць у жылах, а ў некаторых аўтары іранізуюць і кпяць з самой готыкі. Але адчуванне лёгкай іррэальнасці, хуткага прывіднага ценю, скразняку з тагасветнасці не пакіне да апошняй старонкі.

**Аляксандра Дорская, budzma.org**

## СНЕЖАНЬСКІЯ ЮБІЛЯРЫ

**У наступным месяцы адзначаюць юбілеі сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў:**



07.12.1928 — Радзім Гаўрылавіч Гарэцкі
12.12.1968 — Усевалад Міхайлавіч Гарачка
19.12.1938 — Валерый Васільевіч Стралко
21.12.1938 — Арнольд Львовіч Каштанаў (Энштэйн)
26.12.1938 — Барыс Міхайлавіч Казанаў (Лапіцкі)

Жадаем усім радасці, натхнення і дабрабыту!

ЛІТСАЮЗ

# МАГІЛЁЎ — СМАЛЕНСК

**На чарговым паседжанні Магілёўскага абласнога аддзялення СБП сябры пісьменніцкай суполкі хвілінай маўчання ўшанавалі памяць выдатнага навукоўца, найстарэйшага географа Беларусі і СНД, ганаровага старшыні Магілёўскага абласнога аддзела геаграфічнага таварыства, дацэнта Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. Куляшова, аўтара падручнікаў і дапаможнікаў па геаграфіі Пятра Аляксеевіча Лярскага.**


Фота Марыны Чапурных

Мікола Яцкоў уручае альманах «Брама» Віктару Смірнову

Старшыня аддзялення Мікола Яцкоў зрабіў справаздачу за мінулы перыяд і адзначыў, што галоўнай падзеяй жыцця пісьменніцкай суполкі з'явіўся выхад у свет літаратурнага альманаха «Брама». Гэта і пэўны вынік працы сябраў аддзялення, і магчымасць для магілёўскіх літаратараў, якія не ўваходзяць у склад ГА «СБП», паказаць свае творчыя набыткі. (Прэзентацыя альманаха адбылася ў Магілёве 13 лістапада.)

Старшыня рэдакцыйнай рады «Брамы» Яраслаў Клімуць адзначыў, што праца рады працягваецца — і пачалася падрыхтоўка другога выпуска альманаха. Пісьменнік Фелікс Шкірманкоў праінфармаваў аб сваім удзеле ў мерапрыемствах, якія ладзіліся ў Слаўгарадскім раёне. Кіраўнік Магілёўскага літаратурнага клуба «Святліца» пісьменніца Тамара Аўсяннікава расказала, што да выдання рыхтуецца другі паэтычны зборнік удзельнікаў клуба.

У Смаленску адбылася сустрэча прадстаўнікоў Саюза пісьменнікаў Расіі з прадстаўнікамі беларускіх грамадскіх арганізацый. У сустрэчы ўзялі ўдзел сакратар Саюза пісьменнікаў Расіі (СПР) Алег Дарагань, старшыня праўлення Смаленскай абласной арганізацыі СПР Віктар Смірноў, сакратар праўлення Смаленскай абласной арганізацыі СПР Галіна Нікалаенкава, смаленскія пісьменнікі Мікалай Чапурных, Вольга Сяргеева, Вера Суханава, старшыня Магілёўскага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў Мікола Яцкоў, старшыня Рускага культурна-асветніцкага таварыства (Магілёў) Людміла Валодзька, пісьменнік з Магілёўшчыны Алесь Казека.

Былі абмеркаваны пытанні сумеснай падрыхтоўкі да «Сіманаўскіх чытанняў», якія традыцыйна адбудуцца ў Магілёве ў лістападзе.

Госці былі праінфармаваны аб адносінах паміж двума смаленскімі творчымі арганізацыямі: Саюзам пісьменнікаў Расіі і Саюзам расійскіх пісьменнікаў. Было адзначана, што стасункі паміж імі знаходзяцца ў рэчышчы добрасуседства, узаемнага паразумення і вызначаюцца супольнай працай. Да таго ж расійская дзяржава выдаткоўвае значныя фінансавыя сродкі на ўтрыманне офісаў абодвух творчых саюзаў і на выданне іх друкаванай прадукцыі. У сваю чаргу, смаленскія пісьменнікі даведаліся аб тым, якія працэсы адбываюцца ў Беларусі ў дачыненнях дзяржавы да двух існуючых пісьменніцкіх саюзаў і аб тым, як гэтыя грамадскія аб'яднанні будуюць адносіны паміж сабой.

У ходзе сустрэчы былі разгледжаны накірункі сумеснай творчай дзейнасці пісьменніцкіх арганізацый Магілёўшчыны і Смаленшчыны, умацавання сяброўскіх адносінаў паміж імі.

Алег Дарагань паведаміў, што ў чарговым выпуску смаленскага літаратурнага альманаха «Пад гадзіннікам» надрукаваны рускамоўныя творы магілёўскіх паэтаў і пераклады іх вершаў з беларускай мовы, зробленыя смаленскімі перакладчыкамі. Госці з магілёўшчыны атрымалі ў падарунак выданні мясцовых аўтараў. У сваю чаргу, Мікола Яцкоў прэзентаваў смалянам літаратурны альманах «Брама».

**Ул. інф. Магілёўскага аддзялення СБП**

# ВІЦЕБСК

**Адбыўся сход Віцебскага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў.**

Сябры арганізацыі сабраліся ў пашыраным складзе — пры ўдзеле старшыні Рады Барыса Пятровіча і першага намесніка старшыні Алеся Пашкевіча. Нагодай для такой сустрэчы сталася важнае арганізацыйнае пытанне — перааабранне старшыні Віцебскага абласнога аддзялення.

Людміла Сіманёнак, якая ачольвала суполку апошнія гады, зрабіла выніковую справаздачу.


Фота У.С.

Пасля абмеркавання кандыдатураў адбылося галасаванне, у выніку якога новым старшынём арганізацыі пісьменнікаў Віцебшчыны была адзінагалосна абрана Анастасія Лазебная (Стася Наркевіч).

Віншуем і зычым ёй плёну і посьпехаў!

**У.С.**


Фота А. Казловай

# МІНСК

**Штогадовы шахматны мінітурнір прайшоў на офісе Саюза беларускіх пісьменнікаў.**

Гулялі сябры аб'яднання мінчане Андрэй Федарэнка, Васіль Жуковіч, Іван Клімянкоў, а таксама Вадзім Жылко (Лунінец) і Пятро Макарэвіч (Ліда).

Першае месца заняў Васіль Жуковіч, другое — Іван Клімянкоў, трэцяе — Пятро Макарэвіч.

ІМПРЭЗЫ

# «МАМА МУ» Ў ГІМНАЗІІ

**Спектакль паводле кнігі шведскай пісьменніцы Юі Вісландэр «Мама Му чытае і прыбірае» адбыўся ў Бараўлянскай гімназіі і сабраў аншлаг.**


Фота З. Кандрацьевай

У пачатку сустрэчы бард Таццяна Беланогая ад імя кампаніі «Будзьма беларусамі!» зладзіла конкурс на веданне роднай мовы з прызамі – маляванкамі «Будзьма беларусікамі!».

Падчас спектакля дзеці вельмі ўважліва сачылі за жыццём Мамы Му і яе сябра Крумкача. Больш за тое, яны актыўна ўдзельнічалі ў пастаноўцы: лічылі разам з Крумкачом, адказвалі на пытанні актораў, суперажывалі і, безумоўна, апладзіравалі…

Спектакль «Мама Му» ўжо з поспехам прайшоў у многіх гарадах і рэгіёнах Беларусі (Мінск, Брэст, Дзяржынск, Слуцк, Заслаўе, Ждановічы, Мар'іна Горка).

**budzma.org**

ПОСТАЦЬ

# ЯЎГЕНІЯ ЯНІШЧЫЦ: ЗАГАДКАВЫ ПАЛЁТ

Тамара АЎСЯННІКАВА

*Жыццё маё, і там, на схіле,*
*Ты ўсё — загадкавы палёт.*
*Я. Янішчыц*

**У лістападзе спаўняецца 65 гадоў з дня нараджэння і 25 гадоў з дня трагічнай смерці знакамітай беларускай паэтэсы Яўгеніі Янішчыц, загадка якой і да нашых дзён цалкам не раскрыта.**

Абранасць лёсу творцы пры яго жыцці мы не заўсёды заўважаем. Аднак пра Яўгенію Янішчыц гэтага сказаць нельга. Яна была і заўважанай і ацэненай. Але ж дачасна пакінуўшы жыццё, прыцягнула да сябе яшчэ больш пільную ўвагу. Паўстаюць пытанні: чаму? Што стала прычынай? Ёсць некалькі версій…

Я не згодна з тымі, хто лічыць прычынай самагубства нешчаслівае каханне. Не трэба глядзець так аднабока. Сама паэтка пісала:

*Гатовая да ўсмешкі-запытання,*
*Да стоенай насмешкі з-за вугла,*
*Спазнала толькі я азы кахання?*
*Ды і ў такім — няшчаснай не была.*

**«Спроба сентыментальнага рамансa»**

Каханне можа быць узаемным або не. Ды калі яно было, то гэта ўжо шчасце. І не цяжка здагадацца, якое каханне прыносіць мастаку больш плён. Да таго ж слова «каханне» ў паэзіі Я. Янішчыц сустракаецца не так і часта. Яна карыстаецца словам «люблю», якое мае больш шырокае значэнне, чым «кахаю»:

*І тут, дзе радасць дыхае вяснова,*
*Дзе Млечны Шлях спадае*
*на зямлю,*
*Я светла прыпаду да дзеяслова*
*Твайго,*
*з маёй слязінаю «люблю».*

Гэта радкі з верша «Паўночная зара». Майстэрства паэткі тут раскрываецца праз мнагазначнасць выказанай думкі. Слова «люблю» з верша можна аднесці і да кахання і да паэзіі. Любоў і паэзія для Янішчыц непадзельныя.

Першую кнігу яна хацела назваць «Непрыручаная птушка», але была напісана пародыя на аднайменны верш — і назву кнігі яна змяніла на «Снежныя грамніцы».

Я. Янішчыц хацела мець для першай кнігі чырвоную вокладку, але ў чырвонай выйшла першая кніга Ніны Мацяш. Жэня лічыла, што «чырвоны колер Ніначцы дасць сілу». Для сваёй кнігі яна выбрала колер неба — блакітны. На вокладцы — фотаздымак. Ён характарызуе яго аўтара як таленавітага майстра, які зазірнуў не толькі ў душу паэта, але і ў яго будучыню. Гэта мае асабістае бачанне. Я адчувала трагізм пры



**Да слова трэба адносіцца з вялікай павагай і асцярожнасцю, каб нашыя думкі, выказаныя ўслых ці на паперы, не аказаліся намерам Бога. За прыкладамі хадзіць далёка не трэба**

першым жа поглядзе на фотаздымак. Тады, у 1970 годзе, я адагнала ад сябе страшную думку. Але яна ўзнікала кожны раз, калі мне трапляўся на вочы той здымак. Маё ўспрыманне не змянілася і сёння. Мушу заўважыць, што менавіта тым фотаздымкам Я. Янішчыц закальцавала свой творчы шлях, змясціўшы яго ў апошняй кнізе выбранага — «У шуме жытняга святла». Ужо з самага пачатку ўсё складвалася не так, як планавала паэтка.

Верш «Непрыручаная птушка» заканчваецца радкамі:

*Мяне ў палёце не скарылі.*
*А будзе што не так — малю:*
*Скруціце стомленае крылле*
*І кіньце ў родную раллю.*

Што ж стала не так? Чаму Янішчыц пайшла з жыцця? Талент — гэта не толькі дар, але і крыж, які павінен несці абраны Богам. Палеская дзяўчынка, птушкай узляцеўшы на літаратурны Парнас, сама абарвала палёт. Мабыць, прыцягненне Зямлі аказалася настолькі моцным…

Не так даўно мне трапіў у рукі матэрыял ненадрукаванай кнігі Мікалая Еляневўскага, вельмі цікавы і патрэбны для разумення асобы Я. Янішчыц. Еляневўскі паспеў запісаць успаміны Марыі Андрэеўны, маці паэткі. Там я прачытала, як Жэня, яшчэ малой дзяўчынкай, ледзьве не ўтапілася ў Ясельдзе. Марыя Андрэеўна расказвала: «Ёсць там вір. Места глыбокае. Вось хлопцы, хто старэйшы, у гэты вір нырца давалі, а потым выплывалі. Малых туды не пускалі. Магло закруціць. Што Жэню да гэтага віра штурханула, ніхто не ведае. Яна сказала хлопцам: «Думаеце, што толькі вы адны такія смелыя. Я тожа магу». Хлопцы пачалі смяяцца, а яна разагналася па беразе — і боўць у вір. Ну, і выплыць сама не змагла». Падлеткі яе выцягнулі, адкачалі. І калі Марыя Андрэеўна прыбегла, нехта з іх заўважыў: «Цётка Марыя, яна маўчыць, як на тым свеце пабывала». Хто ведае, можа, і пабывала. Містыкі сцвярджаюць, што тым, хто аказаўся перад тварам смерці ці перажыў клінічную смерць, часта адкрываецца нейкі дар. Яны паіншаму пачынаюць успрымаць свет. І мы не можам ігнараваць факт з біяграфіі Янішчыц, які мог паспрыяць раскрыццю паэтычнага таленту. Маці ўспамінала, што Жэня часта сядзела каля таго віру, глядзела на ваду і аб нечым сваім думала. А на страхі маці гаварыла: «Ведаеш, матуля, так цягне, там такая бездань, аблокі ў ім (у віры — Т. А.) плывуць, як недзе ў другім жыцці. Там, нават, і не вада зусім, а нешта такое, магнітнае». Я прапаную чытачу паглядзець на фотаздымак са зборніка «Снежныя грамніцы», аб якім вялася гаворка раней. У мяне такое ўражанне, што Жэня глядзіць у той ясяльдзянскі вір…

І колькі разоў Я. Янішчыц за свае 40 гадоў сутыкнулася са смерцю! Другі выпадак таксама быў звязаны з водою. У 1964-м Жэня стала пераможцай літаратурнага радыёконкурсу часопіса «Бярозка» і была ўзнагароджана пуцёўкаю на возера Нарач. У час купання ў возеры яна раптоўна пачала тануць. На дапамогу падаспеў Анатоль Грачанікаў. У Магілёве Жэня трапіла пад колы хуткай дапамогі. Так, нечая рука адводзіла смерць ад паэткі тройчы. Сакральнасць лічбы відавочная…

У аснове творчасці паэта ляжыць слова. І значэнне слова ў паэзіі не такое, як у зносінах. Яно мае магічную сілу ўздзеяння, можа матэрыялізавацца. Сапраўдны творца піша не як пісьменнік, а як маг. Таму да слова трэба адносіцца з вялікай павагай і асцярожнасцю, каб нашыя думкі, выказаныя ўслых ці на паперы, не аказаліся намерам Бога. За прыкладамі хадзіць далёка не трэба — гэта творчыя лёсы М. Рубцова, У. Маякоўскага, М. Цвятаевай, С. Ясеніна і іншых. У Я. Янішчыц таксама ёсць вершы, якія маглі паўплываць на яе лёс. Напрыклад: «Не дакарала, не журыла», «Вунь першая хмара павісла бянтэжна над краем» («Ясельда»); «Жывіце і любіце» («На беразе пляча»); «Яшчэ не збыты ўспамін», «На ўсякі выпадак…», «На голас ліры» («Каліна зімы») і іншыя. Тамара Каленікава, нашая сакурсніца, была сведкаю ў студэнцкія гады аднаго Жэнінага выказвання, якое ўспрыняла як браваду маладой паэткі: «Я пражыву 40 гадоў». Гэтыя словы Тамара ўспомніла, калі Жэні не стала. А Алег Лойка ў артыкуле «Кладачка тоненька» ўзгадваў, як на адным семінары па паэзіі Жэня Янішчыц сказала, што сорак гадоў жанчыне — гэта ўсё, гэта крэс.

Можна акрэсліць яшчэ адну версію: Яўгенія Янішчыц стамілася жыць, стамілася нечага баяцца. Прынамсі, на дачасную смерць паэткі, безумоўна, паўплывалі трагічныя жыццёвыя сітуацыі, абставіны адносінаў з творчымі асобамі, што прывяло да парушэння стану здароўя: да дэпрэсіі. І звычайны чалавек, перажыўшы трагічную смерць бацькі, развод з мужам, дарожную аварыю менш чым за год (канец мая 1975 — пачатак лютага 1976-га), можа аказацца ў складанай псіхічнай сітуацыі. Але быў і 1973 год, аб якім мы мала што ведаем. Толькі досведы і ўспаміны сведкаў. У інтэрв'ю, якое надрукавана ў газеце «Чырвоная змена» за 19 лістапада 1998 года, Сяргей Панізнік сказаў: «Недзе ў канцы 1973 года, у час Жэнінага лячэння ў Прыкарпацці, з ёю была ўчыненa правакацыя. Душэўны надлом не загоіш. А бязгрэшным можа быць хіба што арэшак: сам па сабе не трэскаецца». Вось з чым яшчэ прыходзілася спраўляцца Я. Янішчыц.

Падарвала яе здароўе і паездка ў Амерыку (1981). А паездка ў Фінляндыю ў 1983 годзе яе падкасіла канчаткова. Па дарозе назад паэтэса была шпіталізавана ў ленінградскую клініку. Па словах сына Андрэя, вярнуўшыся дадому, сказала: «Я ездзіла з мяснікамі». Барыс Сачанка пра Яўгенію Янішчыц пісаў: «Неяк яна паехала ў Фінляндыю. Вярнулася адтуль сумная. <…> — У Амерыцы мяне сёй-той выпрабоўваў… А цяпер у Фінляндыі… Няўжо мяне не ведаюць? — пытала яна».

У свае апошнія гады Я. Янішчыц двойчы лячылася ад дэпрэсіі ў Навінках. Каму з творчых людзей не знаёмы стан прыгнечанасці? Хто не сумняваўся ў неабходнасці сваіх высілкаў? Сёння звярнуцца да псіхатэрапеўта — звычайная справа. У савецкі ж час гэта было практычна прыгаворам. Я думаю, Жэню турбаваў не столькі сам факт лячэння, хаця і такую акалічнасць нельга ігнараваць, колькі тое, што будуць пра яе гаварыць у сувязі з лячэннем. У свядомасці Я. Янішчыц магла замацавацца думка аб змене свайго сацыяльнага статусу. У вершы «Дап'ём зялёнае віно» («Пара любові і жалю», 1983) яна пісала:

*«Не дай мне бог сойти с ума», —*
*На Пушкіна малюся».*

Творчасць Я. Янішчыц высока цанілася кіраўнікамі Саюза пісьменнікаў і Беларусі, і СССР, многімі мастакамі слова. Дарэчы, Максім Танк, сакратар Саюза пісьменнікаў СССР (1966–1986) і старшыня праўлення СП БССР (1967–1990) у дакладах часта называў імя Я. Янішчыц у пераліку з пісьменнікамі-мужчынамі, майстрамі слова. У сувязі з гэтым узнікала крыўда і зайздрасць з боку некаторых калег-жанчын, што азмрочвала жыццё і стан паэткі. З-за Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы, лаўрэатам якой Янішчыц стала ў 1986 годзе, разладзілася сяброўства з Таісай Бондар. «Жэня ўсё балюча перажывала», — сведчыла маці паэткі.

Знешне творчая кар'ера Я. Янішчыц складвалася сапраўды зайздросна. Але не ўсім вядома ўнутраная супярэчлівасць асобы паэткі. Так, пасля прапановы ўступіць у партыю яна доўга вагалася, раілася са школьнай сяброўкай Раісай Ганчарык: што рабіць?

Трагедыю Я. Янішчыц я бачу яшчэ і ў тым, што першай кнігай яна паставіла сабе вельмі высокую планку. І ёй больш не ўдалося ніводнай кнігай выклікаць такіх эмоцый у крытыкаў і пісьменнікаў, атрымаць столькі водгукаў, як пры выхадзе «Снежных грамніц». Рыхтуючы кожную новую кнігу, яна імкнулася зрабіць яе лепшай, чым папярэднія. Радасць ёй прынесла, бадай што, толькі «Каліна зімы».

Ці была магчымасць у родных і блізкіх прадухіліць трагічны палёт? Адназначна — не. Я. Янішчыц сама адлічыла сабе колькасць зямных гадоў — 40, якраз палову. «У боскай камедыі» Дантэ ў перакладзе М. Лазінскага ёсць радкі:

*Земную жизнь пройдя до половины,*
*Я очутился в сумрачном лесу,*
*Утратив правый путь во тьме*
*долины.*

«Утратив правый путь» — ёсць эмпірычная страта сэнсу жыцця. Хутчэй за ўсё Я. Янішчыц не бачыла ўжо сэнсу свайго жыцця: у яе не засталося ні фізічных, ні духоўных сіл, «клубочак ніткай суравой» падступаў да горла ўсё бліжэй, а сама яна паступова знікала «з люстэркаў усіх і з усіх фотаздымкаў».

Звернемся і да імя ды прозвішча паэткі, унікнем у яго сэнс: «Яўгенія Янішчыц — я геній, я нішчыць». Аб гэтым пісала Т. Шамякіна ў артыкуле «Мы былі аднакурсніцамі»: «Часам мне здаецца, што само яе прозвішча — праграма на самазнішчэнне: «Янішчыц — я нішчыць».

Я. Янішчыц свядома ішла «да палёту». У. Някляеў у сваіх «крынічанскіх» згадках засведчыў: «…яна знікла аднойчы з кампаніі ў нумары маскоўскага гатэля, дзе не стала некалі Купалы. Адзін з блізкіх ёй людзей занепакоіўся — і адшукаў яе на высозным балконе, амаль сілком пацягнуў назад, на што яна сказала: «Пакінь. Тут я гэтага не зраблю. Я зраблю гэта ў іншы час і ў іншым месцы». Іван Рыбіцкі, супрацоўнік радыё, распавёў аб апошняй сустрэчы з Жэняю Раісе Ганчарык, школьнай сяброўцы: яны сустрэліся на адной вечарыне, і Жэня запрасіла ўсіх да сябе на новую кватэру; на адгаворку прысутных: «Яшчэ паспеем», Жэня сказала: «Можа, і не паспеем».

Перад сваім «апошнім палётам» Яўгенія Янішчыц наведала ўсе выдавецтвы, была ў добрым настрої. Толькі ў роднай хаце яна дала волю сваім спрэсаваным эмоцыям і галасіла, як на пахаванні, — менавіта такой застала Жэню суседка Марыя Пятроўна. Ад'язджаючы з Велясніцы, Яўгенія Янішчыц не запрасіла маці перaязджаць да яе ў горад, як рабіла звычайна. Развіталася. І папярэдзіла: «У пятніцу чакай званка». Той пятніцай быў яе апошні дзень: 25 лістапада 1988 года…

ЭСЭ

# ШТО ЗЖЫЛОСЯ З ЛІСТАПАДАМ

## ДА ТВОРЧАГА ПАРТРЭТА МІКОЛЫ ПРАКАПОВІЧА

Алесь КАСКО

**Наша сяброўства пачалося ў студэнцкія гады, а назаўсёды зніталася ў лістападзе 1974-га, на семінары маладых літаратараў у Каралішчавічах.**

Яно мацавалася натхняльным подыхам коласаўскіх ялінаў з іскрынкамі першага снегу, зычлівымі, хоць не кожны раз ухвальнымі, словамі пра нашы вершапрактыкаванні такіх мэтраў, як А.Вярцінскі, Р.Барадулін, В.Вітка, Е.Лось, шматлікімі знаёмствамі з аднагодкамі, з якімі вялі спрэчкі не адно на паэтычных практыкумах. У кулуарах, вечарамі, распальваліся эмоцыі вакол яшчэ «падпольнага» тады «Сказа пра Лысую гару» і асабліва вакол «старой, якая не хоча паміраць», — роднай мовы. Даходзіла ледзь не да фізічных сутычак з тымі, хто ўжо меў партбілеты і адстойваў «мудрую» нацыянальную палітыку дзяржавы. Спадзяванні ж нашы былі іншыя — на народ ды найлепшых сыноў ягоных. Была вера і ў сябе, у сваю будучыню: «Абавязкова збудзецца ўсё, што сёння з лістападам не зжылося».

Ісці поплеч з такім аптымістам і жыццялюбам было лёгка і проста, хай ты і больш павольны за яго, і ўсумнёны. Разам дэбютавалі ў «ЛіМе» — адразу ж пасля творчага семінара, у калектыўным зборніку «Нашчадкі» — у 1979 годзе, асобнымі кніжкамі — у 1982-м… Мне, як і ягоным чытачам, ад самага пачатку ў вершах М.Пракаповіча імпанавала яшчэ адна, апрача патрыятычна-багдановічаўскай, пуцяводная зорка — мройная зорка свабоды чалавека ад гвалту, прыніжэння, неабходнасці быць «вінцікам» бяздушнага грамадскага механізму. Паэт нярэдка — у вершах «Кола», «Крылы», «Маналог прыпражнога каня», іншых — выходзіць на маштабныя філасофскія абагульненні, і ўсё ж агульналюдскія каштоўнасці і каштоўнасці нацыянальныя ў яго неад'емныя, дзве іпастасі свабоды злітныя, як святло падвойнай зоркі ў Сусвеце.

Невыпадкова ў канцы 80-х — пачатку 90-х гадоў ён бярэ самы чынны ўдзел у адраджэнскім руху, як вядома, не толькі культурніцкім: «Быць па-за палітыкай сёння — гэта таксама палітыка, выгодная тым, хто хацеў бы мець народ за маўклівы статак». Гэтак сказаў паэт Пракаповіч у тадышнім інтэрв'ю газеце «Вечерний Брест». І прызнаваўся, што невыносна цяжка пры гэтым адчуваць, калі «твая праца, твае намаганні разбіваюцца аб глухую сцяну людской абыякавасці, неразумення, прагматызму». Больш за тое, спробы «адушавіць» тую частку грамадства, што ўсмактала ў кроў дыктат важакоў мінулых дзесяцігоддзяў, небяспечныя, пагрозлівыя для цябе:

*Спакушаная абяцаным раем,*
*раз'ятраная пахамі крыві,*
*няслася за сваёй здабычай зграя,*
*звужаліся, звужаліся кругі…*

Запабягаючы, нагадаю, што апошняя ў пройдзеным часе кніжка М. Пракаповіча — «Трохперсце»; яна выйшла пяць гадоў назад да «круглага» юбілею паэта. Зборнік калектыўны, аднак перш за ўсё ягоны: менавіта яму належыць рыцарска-сяброўская ідэя паяднацца адной вокладкай з незабыўным рамантыкам Міхасём Рудкоўскім і сціплым аўтарам гэтага эсэ. У сваім паэтычным раздзеле «Літары на літоўцы» М.Пракаповіч па думцы, па нерву душы акумулюе і ўласцівае вершам «сааўтараў». Кранае гама пачуццяў, з якімі ён асэнсоўвае сённяшні ўласны маральна-псіхалагічны стан і стан краіны, народа. Пераважаюць характэрныя для цяперашняй беларускай паэзіі расчараванні, сумненні, трывогі. Паэтам-берасцейцам яны выказваюцца надзвычай абвострана, як, напрыклад, у радках пра адноўленую святыню Еўфрасінні Полацкай: «Крыж заклятЫ — ён вяртаецца ў свой храм. Ці вернуцца душы, каб адрадзіць Радзіму?..» У іншых радках, аднак жа, скрозь боль і роспач прабіваюцца праблііскі спадзеву і трывання: «Не зламацца… Хапіла б сілы дачакацца зоркі сваёй, — і з крыжа вырастаюць крылы, каб узняць цябе над зямлёй».

Самы пранізлівы, як на маё ўспрыманне, у Пракаповічавых «Літарах на літоўцы» верш пра радзінны кут, першакрыніцу жыцця. Такой шчымлівай танальнасці, здаецца, не сустракаў у сябра ніколі раней:

*Знікае адзінае, што яшчэ маю, —*
*сядзіба радзінная над небакраем…*
*Куды я ступлю са світальнага*
*ганку,*
*калі ты забрала з сабой*
*калыханку,*
*дзяцінства грыбное, пякучыя росы,*
*слядок мой, безабаронны і босы?*

Ды ўжо сам зварот да непазбыўнага, самага святога хіба не здольны мацаваць дух, асушваць чуллівую слязу? Яно ж было. Яно і ёсць — у сэрцы і памяці.



Фота з архіва аўтара

Міколаў бацька быў працаўніком завода, балазе вёска Пугачова лічылася прыгарадам Брэста, а неўзабаве ягонай «задымленай вуліцай з імем Суворава стала». Зацяты руплівец і маўчун, бацька мала ўмешваўся ў сынаву школьную вучобу ды ў ягоныя захапленні. «Папраўлялі» іншыя, не менш зычлівыя людзі. «Пішы пабеларуску», — параіў пачаткоўцу добры знаёмы, пасля і сябар, рускі паэт Дзмітрый Васільеў. Намацваў Мікола свае нацыянальныя карані і самастойна — праз «ліцвінства» (што азначала — непадобнасць, адметнасць) тутэйшых жыхароў, праз непаўторную прыроду, урокі, няхай і рэдкія, беларускасці ў школе, нарэшце праз сваю генетычную повязь. Ягоны дзед Ілья (Гальяш) са Слонімшчыны слыў майстрам не толькі пілы і сякеры, з якімі хадзіў у заробкі, але і скрыпкі. Не адзін верш прысвяціў яму ўнук-паэт. Менавіта такім вершам адкрываецца першы самастойны зборнік М. Пракаповіча «Неад'емнае» (1982):

*Здаваўся бязважкім кляновы*
*смычок*
*Натруджаным пальцам ягоным,*
*А скрыпку лагодна прымала*
*плячо,*
*І хата сціхала ўтрапёна.*

Рыхтык малюнак з майго маленства! Скрыпка была адна на ўсю маю вялікую вёску і рэдка з'яўлялася на вяселлях… Ці не перш за ўсё яна, скрыпка, увасабленне-сімвал і музыкі, і паэзіі, і мастацтва наогул?..

Гэтае, суб'ектыўнае, успрыманне пераношу на блізкую мне паэзію майго сябра. Так, у вершах М. Пракаповіча гучаць «эпічныя» дуда і ліра, зазыўная труба і вячысты звон, аднак яны чаргуюцца, а мінорны голас скрыпкі чуецца найчасцей, водгук яго ўлоўліваеш і ў інтымнай лірыцы, і ў творах грамадзянскіх, публіцыстычных. Яскравы кантрапункт, напрыклад, у такіх радках: «Ты апошні ў мяне — не знікай, астравок неспаганенай веры!» — і тут жа: «Быццам выйшаў адзін з цягніка часам золкім і шэрым».

Зрэшты, прыведзеныя радкі — з верша ўжо сталага паэта, аўтара зборніка з характэрнаю назваю «Мяжа надзеі» (1993), услед за якім паплылі матывы і зусім элегічныя, са скрыпкаю, што не спявае, а толькі «роспачная ўздыхае і слухае». У гады ж, калі ствараліся «Неад'емнае» і «На кругі свае» (1986), ні час, ні свет, ні будучыня не здаваліся шэрымі, святло пераважала над ценямі, смутак быў тым, што мы называем вядомым аксюмаранам «светлы сум» або, як М. Пракаповіч, «белай журбою». Гэта былі гады маладосці, кахання, рамантыкі, якая ў студэнцтве паклікала паэта на сопкі ў Сібір, а пасля філфака Брэсцкага педінстытута — углыб Палесся.

Настаўнічанне ў палескай глыбінцы, потым працаглая, аж дагэтуль, журналісцкая праца, пазнанне самабытнасці краю ў прыродзе, у людзях, у іх гісторыі і культуры моцна паўплывалі на творчасць паэта, узбуйнілі і паглыбілі яе. Найперш — духоўна ўзбагацілі самога аўтара. Таленавітасць народа не цуд, а неад'емная рыса, што складвалася і развівалася цягам многіх стагоддзяў, народнае мастацтва — яе праяўленне ў людзях найбольш здольных.Тое самае і з азначэннем паэзіі, калі без ідэалізацыі: гэта адна з формаў выказвання творчай асобы. Які ты ёсць у сваёй чалавечай сутнасці, такая твая паэзія. Ні больш, ні менш:

*Язычнік я. Другой не маю веры.*
*І, заваражаны, гляджу,*
*Як тонкае лязо аеру*
*Блішчыць у кропельках дажджу…*
*…Тут шчырым быць я не баюся.*
*І як далёкі прашчур мой,*
*Я зноў надоўга застаюся*
*Сам-насам з небам і вадой.*

Сёння язычніцтва, або паганства, з ягоным культам прыроды, роду і продкаў — не рэлігійная вера, не светапогляд, аднак жа вялізны культурны пласт мінуўшчыны, у якім нарадзілася столькі цудоўных вобразаў міфалогіі і фальклору, адкуль яны перайшлі ў прафесійную літаратуру і дасюль сілкуюць яе сюжэтамі, метафарамі і г.д. І калі сучасныя паэты, у тым ліку М. Пракаповіч, не цураюцца біблейскіх матываў, дык «індустрыяльнай» паэзіі ў нас так і няма, як бы ў нядаўнім мінулым ідэолагі ні заклікалі творцаў ісці ў нагу з «жалезным поступам сацыялізму». Куды прывёў гэты поступ, мы добра ведаем… На бяздумную ды бяздушную меліярацыю, як і на чарнобыльскую бяду, берасцейскі паэт адгукнуўся адным з першых, і адразу ж трывога за будучыню роднай, такой любай яму зямлі стала скразною ў ягоных вершах і паэмах. Яна яшчэ больш абвастрыла погляд паэта-патрыёта на гістарычны лёс народа, на незлічоныя і шматгранныя праблемы сучаснасці. Добра, заўважу пры гэтым, што не ўмясцілася яна ў пракруставым горне публіцыстыкі, не шуганула толькі адкрытым, хай і палымяным, словам. Як лірык, М. Пракаповіч заўсёды дбаў пра глыбіню, вобразнасць і душэўнасць сваіх твораў, таму кранаюць сэрца чытача, напрыклад, паэма «Неад'емнае» са славутымі маналогамі, «Казкай пра чорта» ды іншымі раздзеламі, паэма «На кругі свае» з трапяткім вобразам белай птушкі — пракаветнага духу Айчыны, змястоўныя баладныя цыклы гістарычнай тэматыкі, многія самабытныя вершы пра мову, тую самую «старую, якая не хоча паміраць» (Н. Гілевіч).

Вельмі шкада, вядома, што апошнім, і немалым ужо, часам ліра (скрыпка) М. Пракаповіча маўчыць ці зрэдзь «правярае» струны. Скончылася «мяжа надзеі» на адраджэнне Айчыны і духу народа? Або на шчодрасць сваіх лістападаў? І ўсё ж гэта не азначае, што схаладнела душа. Яна, цёплая і жывая, шчымліва адзінотаю і, як раней, цягнецца да палескай прыроды, некранутыя астраўкі якой дзе-нідзе захаваліся, да мудрых і творчых людзей Палесся, хоць іх, на жаль, таксама ўсё менш, да нездрадлівых сяброў і сваіх вучняў-паслядоўнікаў, нарэшце да Слова — уласнага тэлеэфірнага і пісанага іншымі ў кніжках. Да кніжак многіх землякоў ён мае наўпроставае дачыненне, як да ўжо згаданага «Трохперсця», як да анталагічнага зборніка берасцейскай паэзіі «Дзядзінец» або калектыўных зборнікаў твораў пачаткоўцаў, укладзеных ім. З ліку літгуртkоўцаў, што займаліся пры абласным Доме моладзевай творчасці пад апекаю М.Пракаповіча, даўно сцвердзілі сябе яркімі паэтамі Максім Шчур, Ярына Дашына, Сяргей Прылуцкі. Літаральна ў мінулым годзе, дзякуючы яму, укладальніку і «прадзюсэру», пабачыў свет зборнік «…І наджалася Слова» з твораў былых і цяперашніх супрацоўнікаў тэлерадыёкампаніі «Брэст». Сярод аўтараў — М.Рудкоўскі, В.Жуковіч, Н.Загорская, У.Ягоўдзік, Т.Сапач…

Ну, а ўнёсак у айчынную паэзію ўласнымі творамі — хіба ён малы? Ці не цягне на шматтомнік? І найперш — патрыятычнай лірыкай, а таксама лірыкай кахання; у датклівага чытача на слыху, думаю, шмат якія інтымна-спавядальныя радкі М. Пракаповіча — ад «я спяшаўся лугамі роснымі да дарослаці напрасткі» і да «з раніцы дворнікі спаляць на лісці абцасікаў след».

Перабіраю адносна новыя паэтавы вершы і шукаю пільна патрэбны для канцоўкі майго эсэ. Вось ён, «Дыялектыка». Адценняў сумна-іранічных знарок не заўважаю — мяне радуе вось гэта:

*…хапаю на поўныя грудзі*
*звонкі марозны ранак,*
*і як не было адчаю,*
*тупога падвальнага болю, —*
*я зноў залатога лісця,*
*пунсовых рабін абраннік!*

Як мага часцей такіх настрояў, сябра, у 65-м тваім лістападзе і ва ўсіх пазнейшых: яшчэ ж многае, пэўна, збудзецца!

АБРАЗКІ

# З цыкла «УЛАДЗЕВЫ ГІСТОРЫІ»

Уладзімір СІЎЧЫКАЎ

## Зануда

Пасярод Балтыкі, на шведскай выспе Готланд, у горадзе Візбю, у міжнародным Балтыйскім цэнтры пісьменнікаў і перакладчыкаў спытаўся Уладзя ў дырэктаркі Лены Пастарнак, ці бывалі сярод гасцей незадаволеныя, бо ў Цэнтры проста ідэальныя, як на жыццё, так і на творчую працу, умовы. Па прыездзе кожны літаратар атрымлівае асобны пакой, можа гатаваць сабе што і калі захоча, вольны карыстацца бібліятэкай, відэазалаю, інтэрнэтам, саўнай, а таксама рознымі іншымі бытавымі выгодамі. Можна сумоўнічаць, таварышаваць з замежнымі калегамі альбо займацца сваім хобі. Аксана Спрынчан магла ў ахвоту фатаграфаваць, Валер Стралко — бегаць марафоны, Ірына Багдановіч — слухаць камерныя канцэрты ў храме, Валянціна Аксак — цешыцца кветкамі ў Батанічным садзе…

Лена, добрая і мудрая фея Балтыйскага цэнтра, на хвіліну задумалася і адказала:

— За дваццаць гадоў, а налета нам собіць адзначаць юбілей, быў, бадай што, адзін такі творца. Гэта Нікіфарас Александропулас, грэк з Крыта. Ён быў прафесійны тэатральны акцёр, але пісаў і п'есы, а да нас патрапіў па пратэкцыі ўплывовага і знакамітага суайчынніка-літаратара. Можаце, дарэчы, паглядзець ягоны аўтапартрэт і запіс у гасцявой кнізе.

— Цікава, зірну абавязкова.

— Пэўна, яму крыху не пашанцавала з надвор'ем, бо прыехаў сюды ўзімку, а таму хадзіў і ўвесь час скуголіў: «Зімна, сумна… Людзей на вуліцах, асабліва ў старым горадзе, амаль што не відно. А пісьменнікі ўсе сядзяць па сваіх келлях і ўсё пішуць, шрайбаюць, псуюць паперу або ляскацяць па клавіятурах!»

— Ну дык пісьменнікі на тое і прыязджаюць сюды, каб засяроджана працаваць! — Развёў рукамі Уладзя.

— Я і ў Стакгольм выпраўляла яго на пароме, каб развеяўся, але і гэта не дало рады… Можа, проста не ставала эліну сонца і цяпла?

— Мабыць, лiцадзею найперш патрэбна была звыклая ўвага захопленай і ўдзячнай публікі, — з разуменнем і спачуваннем пасміхнуўся Уладзя. — Хай бы на скрайні выпадак ішоў на бераг мора, набіраў у рот каменьчыкаў і як той Дэмасфен шліфаваў сваё акцёрскае дый аратарскае майстэрства! Відавочна, што крыцянін той патрапіў не ў тое месца і ў неспрыяльны час.

**13 верасня 2012 года**

## «Куды ні трапяць беларусы!»

Прынёс Уладзя ў штотыднёвік творчай інтэлігенцыі дзённікавыя запісы пра пачатак грузінска-абхазскага канфлікту, сведкам якога стаўся падчас адпачынку ў Доме творчасці «Піцунда», на беразе ўнікальнай субтрапічнай бухты. Рэдактар Мікола Г. прагледзеў іх, паабяцаў неадменна паставіць у бліжэйшы нумар і нечакана заявіў:

— А я вось аніколі на аніякім моры не быў і не хачу!

Зніякавеў Уладзя і нават не ведаў, як на тое рэагаваць, бо падобныя рэчы звычайна не афішуюць.

Паэтка Раіса Б. на літаратурнай вечарыне ў літоўскай амбасадзе, дзе прэзентаваліся некалькі перакладных выданняў, абвясціла, што напісала драматычную паэму пра Барбару Радзівіл, але аніразу не была ў Вільні.

«Беларускі літаратар, які не наведваў віленскія музеі і архівы, не блукаў па віленскіх вулках і могілках, не цешыўся з сабора Святой Ганны і з касцёла Святой Тэрэзы з Вострай Брамаю, — гэта поўны нонсэнс!»

Мабыць, так падумаў амбасадар Эдмінас Багдонас, а ўслых абвясціў:

— Я заўтра ж распараджуся ў консульскім аддзеле, каб спадарыні па-за чаргою выдалі аднаразовую бясплатную візу!

Масцітыя празаікі ў парадку добразычлівай крытыкі асцярожна закідалі аўтару трылогіі пра заходнебеларускую вёску Вячаславу А., што ён так і не вывез аднаго са сваіх галоўных герояў у тую самую Вільню, дзе паэт-патрыёт мог бы перастрэцца з «нашаніўцамі» і з іншымі дзеячамі культуры.

Што гэта ўсё — праявы душэўнай ляноты, шарачковага правінцыялізму ці неразумнай бравады?!

Часы імкліва мяняюцца.

Сёння па свеце можна падарожнічаць з дапамогаю сатэлітавага тэлебачання дый інтэрнэту, досыць нескладана выправіцца ў аўтобусны тур па ўсёй Еўропе ці нават у акіянскі круіз.

Рэдактары з задавальненнем возьмуць у свае партфелі і апублікуюць эсэ або падарожныя нататкі, у якіх расказваецца пра свет вачыма беларуса ці як жывуць і пачуваюцца суайчыннікі па-за межамі метраполіі.

Дый калі праглядаць біяграфічныя звесткі літаратараў, дык ужо стала звыклым бачыць гарады і мястэчкі не толькі суседніх, але і дальніх, і нават экзатычных краін. Ужо не дзівяць ні чэская Прага, ні нямецкі Гамбург, ні фінскі Хельсінкі, ні нарвежскі Буда, ні шведскі Гётэборг, ні амерыканскі Чыкага, ні канадская Атава, ні ізраільскі Эйлат, ні двойчы немілагучны на беларускае вуха мексіканскі Гуана Хуата, ні нават невялічкае паселішча ў эквадорскай сэльве…

**На дзень пісьменніка, 3 сакавіка. 2013 год**

## Хітраван

У Доме друку журналіст-газетчык Міхась Т. меў за звычку ў працоўны час надоўга сыходзіць нібыта ў курылку папрацаваць з аўтарам або паабедаць у кавярню «Чорны бусел», а то і ў «Батлейку», званую ў народзе «Тэлевізарам» з-за сцен-вокнаў, праз якія заўсёднікаў было відно як на тэлеэкране.

Але быў Міхась вельмі абачлівы — заўсёды пакідаў на працоўным стале напаўспісаны аркуш, ручку-самапіску і «дзяжурныя» акуляры, каб калега і сусед па пакоі пры патрэбе мог прыкрыць ад рэдактара ці наведнікаў:

— Ды недзе тут ён, толькі што выйшаў! Вось бачыце, акуляры ляжаць, а без іх ён анікуды!

Ішоў Міхась у нагу з прагрэсам — з цягам часу дадаў да свайго рэквізіту і састарэлы мабільны тэлефон, а фактычна муляж — без SIM-карты і без акумулятарнай батарэі…

**3 траўня 2013 года**




Фота Р. Шастак

## Класікаў жарт

Ва Уладзевай калекцыі ледзь не тры дзясяткі варыянтаў ягонага імя, занатаваных з літаратурных твораў, з лексікаграфічных крыніц — з «Падручнага расійска-крыўскага (беларускага) слоўніка» Вацлава Ластоўскага і іншых, з гутарковай мовы: Уладзімір, Уладзімер, Валодзя, Валодзік, Валодзька, Валодусь, Валадар, Валадамір, Вальдэмар, Ладзік, Ладук, Ладак, Уладук, Ладысь, Уладысь, Уладзя, Уладар, Уладамір, Вова, Вавусь, Ваван, Вавіла, Вавуля, Воўка, Воўчык, Валадзімер, Ладзімер, Ладша, Валодша…

Ягоны добры суразмоўца Генрых Д. гукае Уладзю, калі яны вечаруюць на лысагорскіх сотках на сваёй вуліцы сам-насам, без жанок і без суседзяў, не іначай як «Вальдэмаро!» — чуецца яму ў гэтым варыянце імені штосьці заходняе і рамантычнае.

Уладзя тады зазвычай згадвае, але кожнага разу стрымліваецца, не паддаецца спакусе паўтарыць знаны жарт на адрас старэйшага таварыша, без пяці мінут класіка.

— Генрых! — На ўсю моц гукаў колісь спаўбрата па пісьменніцкім цэху Уладзімір Караткевіч, а калі Генрых Д. адзываўся і падыходзіў, дык махаў рукою: — Ды гэта я не цябе! Гэта я Гётэ, заканчэнне першай часткі «Фаўста» цытую!

**1 чэрвеня 2013 года**

## Погляд збоку

Паводле дамовы пра супрацоўніцтва Беларускі і Тбіліскі ўніверсітэты яшчэ ў васьмідзесятыя гады пачалі абменьвацца студэнтамі і аспірантамі, праводзіць сумесныя навуковыя канферэнцыі, спрыяць адно аднаму рыхтаваць выкладчыцкія і навуковыя кадры.

Філолаг, цёзка па прозвішчы знакамітай спартсменкі, чэмпіёнкі свету па шахматах Нана Гапрындашвілі напачатку сваёй стажыроўкі ў Менску дужа дзівілася бесцырымоннасці і нахабству, як ёй здавалася, беларускіх студэнтаў.

— Ну як гэта можна, — абуралася яна, — пры сведках ці нават проста ў вочы зваць велешаноўных прафесараў, дацэнтаў і выкладчыкаў alma mater па мянушках: Воўк, Бурак, Шуба, Самец, Сыракваша?! А дзе іхняя студэнцкая салідарнасць?! Хіба можна іменаваць суседа па ўніверсітэцкай лаве Гусак, Верабей ці Дворнік?!

З цягам часу дазналася Нана, што ненадзейнымі з ідэалагічнага пункту погляду філолагамі пастаўлены кіраваць няпрофільныя выкладчыкі гісторыі Камуністычнай партыі Савецкага Саюза дацэнт Аляксей Арсеньевіч Волк, які прабыў на пасадзе дэкана факультэта дваццаць тры гады! Уведала яна, што загадчыка кафедры рускай мовы прафесара Паўла Паўлавіча Шубу некаторыя акадэмічныя калегі з мяккай іроніяй звалі ППШ, бо абрэвіятура тая супадала з найменнем савецкай стралковай зброі — пісталета-кулямёта Шпагіна. Адкрыццём грузінцы сталася, што такія прозвішчы, як у загадчыка кафедры сучаснай беларускай мовы прафесара Леаніда Іванавіча Бурака, у беларусаў зусім не рэдкасць.

Але ніяк не магла яна ўцяміць, як выкладчык з адметным прозвішчам Самец, якім мужчына мусіў бы ганарыцца, ажаніўшыся, узяў жончына прозвішча, што амаль немагчыма ўявіць у Закаўказзі, і стаўся амаль безаблічным Уладзімірам Н…ам.

Ды чамусьці зусім не бянтэжыла яе прозвішча каляжанкі Ніны Сурамелашвілі, з якой пазней працавала яна ў Тбілісі ў Доме дружбы народаў пры Акадэміі навук Грузіі. Літаральна яно перакладалася з грузінскай як «дзіця гладыша і лісіцы». Але пытаннем, як той дзіўны саюз змог стацца плённым, Нана чамусьці не задавалася…

**На Купалле, 6 ліпеня. 2013 год**

## Дарчыя подпісы

Прынёс Уладзя сваю чарговую кніжку Паўлу К., які быў у штотыднёвіку і за літаглядальніка, а той разгарнуў яе і здзіўлена ўскінуў бровы.

— А чаму не падпісаная?

— З задавальненнем пакіну на форзацы свой аўтограф, бо вы пра гэта просіце. Але з пэўнага часу не вельмі спяшаюся з подпісамі…

— Патлумачце, з якой прычыны.

— Ды вось бачыў аднойчы, як у рэдакцыю часопіса ў паўпадвале на вуліцы Кісялёва паэт Алесь Р. прынёс важкі стос кніжак. Зваліў іх проста ў кут у калідоры і прапанаваў калегам: «Бярыце, каму трэба». Знайшліся сярод тых тамоў з хатняе бібліятэкі і некалькі з дарчымі подпісамі паэту ад спаўбратоў па пісьменніцкім цэху!

— Згодны, адно, калі знаходзіш кніжку з аўтографам у «Букіністе», куды прыбарабанілі яе нашчадкі пісьменніка, каб крыху падзарабіць. Але гэта зусім іншы, прыкры варыянт.

— З таго дня падпісваю свае кнігі толькі калі ўпэўнены, што іх ацэняць і запатрабуюць адрасаты.

— А калі такой пэўнасці няма?

— Тады, лічу, лепей перадаць кніжку «цнатлівай»: «атрымант» зможа прагледзець ці нават прачытаць яе, а потым абмяняць ці перадаць у рэдакцыйны збор…

— Або ў публічную бібліятэку.

— Так. Але былі і выпадкі, калі шкадаваў, што том не падпісаў.

— Гэта як жа? Чаму? — Спытаўся Павал.

— Спрэзентаваў неяк чытанку дзецям малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту «Крынічка» шаноўнай Святлане К. Яна падахвоцілася і напісала ў газету вельмі сімпатычны водгук. Панесла да галоўнага рэдактара, каб паставіў у бліжэйшы нумар і прыхапіла ў кабінет «сыходны матэрыял». Шэф рэцэнзію ўхваліў, а потым пагартаў хрэстаматыю і… скарыстаў службовае становішча — прысабечыў кніжку са словамі: «Якраз такая патрэбная цяпер маёй унучцы-пяцікласніцы!»

— І праўда, каб стаяла на кніжцы ваша дэдыкацыя, дык не забраў бы!

— А каб закрыць на сёння тэму дарчых подпісаў, раскажу пра яшчэ адзін, «дэманстратыўны» выпадак. Малады мастак Рыгор С. атрымаў ад Таісы Б. зборнік вершаў з подпісам-пажаданнем, каб заўсёды заставаўся такім, якім ён ёсць. Праз некалькі гадоў, калі Таісія Мікалаеўна кінулася апантана служыць новай уладзе, пасталелы мастак прыйшоў у рэдакцыю «Літаратуры і Мастацтва», якую яна тым часам ачольвала, і прылюдна аддаў ёй той зборнік: «Я застаўся, як вы мне зычылі, — такім, якім і быў. А вось вы моцна змяніліся, выракліся ідэалаў, якія абвяшчалі рыфмаванымі радкамі. Таму сёння кніжку вашу вяртаю пры сведках!»

**На Дзень беларускага пісьменства. 2013 год**

НАЧЫРКІ

# АДЗНАКА

Алесь МАСАРЭНКА

## Дзеці

Дзіўна, Антон Чэхаў сказаў, што шлюб не збаўляе ад адзіноты. Ці не занадта?!. Ён гэтак выказаўся, мусіць, што не зведаў бацькоўства, у аснове якога важкім пастулатам выступае духоўнасць.

Жыццё сямейнае — гэта перш за ўсё — так! — дзеці. Яны — і тваё сёння, і тваё заўтра ў будучым. Менавіта дзеці й ёсць тыя самыя ластаўкі, якія прыносяць вестку, што адзінота прайшла і больш ужо ніколі не вернецца, бо ў душы, з табой — заўсёды яны, твае пестуны-жэўжыкі.

Для пісьменніка сям'я — гэта сапраўды яшчэ і ты Сам. А Сам ты часам бываеш усякі: і страхотна занудлівы, прымітыўны, і нярэдка глухі да блізкай табе палавіны. Табе і таго не стае з яе боку, і гэтага, яна і замінае, і безуважна ставіцца да цябе. Здаецца, што і разумення бракуе абодвум, і цярплівасці таксама. А з дзецьмі якая можа быць адзінота?!. Тут сямейны звяз духоўна счэплены, на геннай аснове.

Жыццё — не ціхаплынь: похапкам, уподбежкі скача, несупынна і апантана, і дзе ўжо, здавалася б, той самай духоўнасці браца?.. І тым не менш — яна мусіць быць, духоўнасць. Без яе нельга чалавеку. Непаразуменні й разводы — ад бездухоўнасці, так.

## Хухуля

— Іншы раз сварка — папраўка. А сённяшняя, з Хухуляй, не проста сварка — вайна. І з чаго ўсё пачалося? Выгнала я карову на ранкі. Прайшлі каровы. Стаю ля весніц. Бачу, ідзе суседка, ваду нясе: цёх-цёх... Цяжка сунецца, сагнулася ў крук. Недзе за семдзесят ёй, стапталася баба. Гляджу — не адварочвацца ж, чакаю, пакуль пройдзе, каб пасля і самой па ваду ісці. Усякія прыкметы ёсць. Яна з поўнымі вёдрамі, то і добра. А я пакажыся з пустымі — падумае, што выйшла, каб сурочыць.

— І што ж — прайшла-такі міма?

— Во-во пройдзе, сігнёў колькі засталося — і міне мяне... Аж тут дужка ў вядры — хроп! Вядро стойма ўпала, троху вады пралілося. А другое так кавырнула каромысел, што ён крутма адляцеў убок, заадно хвоснуўшы Хухулю па плячы. Зноў жа, і гэтае вядро, другое, не абярнулася, але вады ў ім засталося не больш як напалову. І пачалося... Як жа яна ўсхапілася — крычма-крычала: я і такая-сякая, і ведзьма, і змяяпадкалодніца. Ухапіла каромысел і грозіцца. А тут якраз Анюта, насупроць жыве, выйшла на крык і кажа: «Сціхні ты, пудзіла, не палохай вуліцу!..». Эх, яна ўсё тое ж самае і ў яе адрас паўтарыла. Ды яшчэ пахватней, з прыступамі. На лямант і бацька твой вытыркнуўся. Ён жа такі — без спагады не абыдзецца. Узяў вядро з абарваным вушкам і панёс у двор. Хоць і аднарукі, а доўга не затрымаўся. Выбіў заклёпку, на якой вушка трымалася, і ў гэту дзірку ўтыркнуў загагулю вочапа.

— Ён правільна зрабіў — добрай справай намоўленыя праклёны скіраваў на сухі лес.

## Шрам

— І гэта дзе ж цябе, суседзе, калі не сакрэт, параніла: няўжо, калі служыў у спецвойску, спрычыніліся тыя гулагаўскія зэкі, што ўцяклі ў тайгу, а вы іх вылоўлівалі?.. Помню, ты гэта мне расказваў.

— Зеков живьём не брали — всех, кто имел хотя бы какое оружие, пускали в расход... Такой приказ был. Где-то их человек тридцать погибло. Все они были — так называемые, враги народа, политические.

— І колькі ж «ворагаў» ты асабіста ўхайдокаў?

— Я там около года служил водилой до перевода в Ленинград. Помню, нас, роту охраны, подняли по тревоге, и мы выехали в тайгу. Лично я тем и был занят, что свой студэбеккер охранял. И только. Слышал выстрелы. Поскольку ни один зек не выбежал в сектор моего наблюдения, стрелять мне не пришлось. Душа моя чиста. А ранен был ещё в пятилетнем возрасте. Хорошо помню тот день... Немцы отступали. Наши танки гнались следом и лупили из пушек беспрестанно. Один снаряд и вспорол землянку: трое человек убило, меня ранило — осколок впился в ногу чуть выше колена. Я с испугу хватился за него — так он был сильно горячий... Потерял сознание. Очнулся, когда немецкий врач зашивал рану. Он посмотрел мне в глаза и сказал: «Гут, киндер... Молойдец!..». Снаряды рвались вдоль по дороге. Медсестра, стоявшая рядом, похоже, ругала коллегу, на чём свет стоит, но всё же помогала ему. Шофёр санитарного фургона (красные кресты по бортам) мотора не глушил. И ещё помню — мама отдала врачу узелок с вареными яйцами (приготовила, пока тот колдовал над моей раной).

— Нямецкі доктар выдаліў асколак з тваёй нагі?.. Бач, не збаяўся, дапамог.

— Мама кинулась к санитарному фургону, держа меня на руках. Я истекал кровью, уже не плакал... Да, то был настоящий врач — не изменил клятве Гиппократа.

— І што ж — нашыя танкі, канешне, накрылі той фургон?

— Ещё чего — фургон укатил как раз вовремя... Хаты все сожжены, лишь только уцелевшие печи стоят. Танки наши ворвались в деревню, люди выбежали на улицу, плачут от радости... А где-то часа через два заходят к нам в землянку двое военных, офицеры, и — прямичком ко мне. Я лежу на полатях. Один из них подошёл и с ходу взялся разбинтовывать рану, мама кинулась к нему — отпихнула, что-то такое сказав, на что он даже выругался. Потом эти двое произвели обыск и, ничего не найдя, удалились.

— Дык чаго яны прыходзілі?

— Им кто-то из сельчан сказал, что немцы будто бы оставили у нас какую-то ценную вещь.

— А яны такі нешта ж пакінулі?



Шмат каму з нацадшчапенцаў прыходзіцца нагадваць, што яны, збаёднікі-недавучкі, сякуць той самы сук, на якім утульна сядзяць і, замашна бэрсаючы нагамі, разам з урадоўцамі галёкаюць на нікчэмнай «трасянцы»

— Порошок... Присыпать рану. В баночке. Мама потом иголки там прятала и две катушки ниток: на одной — черные, на другой — белые.

— Суседзе, вось мы, беларусы, ужо ці не дваццаць гадоў на адной лесвічнай пляцоўцы сустракаемся, стаім, размаўляем... У цябе вышэйшая адукацыя, ды нешта ж увесь час грэбуеш родным словам. Як гэта разумець?

— А так и понимай — технократ я, не филолог. Мне, признаться, английский язык больше нравится, чем русский, но у нас он не особо культивируется.

— Ты маеш рацыю: тэхнакрат — асоба чужыя гаршкі лізаць... Даруй, але гэты народны жарт — якраз у твой агарод.

## Адзнака

Так сталася, што яшчэ ў школе я стаў руліцца над словам, і — вось жа! — пакуль не адклаў асадку ўбок, не сахвоціўся. Больш таго, замест пішучай машынкі ўзграмасціў на свой пісьмовы стол камп'ютар. А які ж гэта цудоўны памагаты! І так ён дарэчы, так захапляе і ўцягвае ў працу, што з яго дапамогай сёння проста грэх не выбіцца ў парнасца. Кажу гэта, вядома, жартам, а калі шчыра, дык я, здаецца, усё аддаў бы дзеля таго, каб адно пісаць не горш за Максіма Гарэцкага, якога лічу класікам, і прозу якога чытаю з захапленнем.

Пісьменнік — няпросты чытач, бо выбірае пераважна кнігі адметных аўтараў. Хто яму па душы. Стаць адметным нялёгка, але ж, каб такім стаць, трэба навучыцца пісаць адметна.

Каго браць у настаўнікі? А хоць бы й свайго земляка, мсціслаўца. Ён у нас бадай адзіны такі на Магілёўшчыне. І не памешчык, і не граф. Як і Максім Горкі, дамогся ўсяго самаадукацыяй.

Максім Іванавіч Гарэцкі — глыба моцная, духоўна-касмічная. І гэта сапраўды так: яго нарадзіла эпоха — як неабходнасць, як патрэбу. Палымяны сын нацыі быў расстраляны нкусаўцамі адразу, як толькі выйшаў з-за кратаў. Не далі й аддыхацца чалавеку, нагаварыцца з сябрамі ды роднымі...

У сваім дзённіку Усевалад Іваноў, калі быў у Ташкенце падчас эвакуацыі, абураўся, што цяжка, маўляў, хадзіць па горадзе, не чуючы жывой рускай мовы... Бач, яму цяжка было, дарма што бадай уся Краіна Саветаў адно і гаварыла на гэтай мове. А што ж казаць мне, беларускаму пісьменніку, калі й сёння, ідучы праспектам, — хоць ты яго ўвесь прашпацыруй! — нідзе не пачуеш, каб хто размаўляў па-беларуску. А калі й пачуеш, то адразу ж і пазнаеш таго чалавека: пісьменнік альбо журналіст. Дый не ўсе журналісты карыстаюцца роднай мовай — большасць «русяць», не хочуць быць «казламі адпушчэння», як кажуць некаторыя з іх, асабліва тэлевізійшчыкі.

Вядома ж, некалі й мне як творцу час выставіць сваю адзнаку. А пакуль — шмат каму з нацадшчапенцаў прыходзіцца нагадваць, што яны, збаёднікі-недавучкі, сякуць той самы сук, на якім утульна сядзяць і, замашна бэрсаючы нагамі, разам з урадоўцамі галёкаюць на нікчэмнай «трасянцы».

## Шляхетная вёска

*Алесю Пашкевічу, ураджэнцу вёскі Набушава*

Кажуць, продак былых прэзідэнтаў ЗША, Буш, нарадзіўся на Случчыне. І быў нябога бядбацькавічам, падлеткам збіраў кускі, ходзячы ад хаты да хаты. Хутаранцы падкармлівалі паррашайку — давалі, хто што мог, і прыгаворвалі: «На, Буш, на...»

Вырас хлапчына і з'ехаў у свет сваё шчасце шукаць. А словы спагады да яго — няўзнак, самі па сабе ўцяміліся землякам у памяць, леглі на слых, і неўзабаве практычна-кемныя хутаранцы назвалі свае адасобленыя падворкі-засценкі вёскай Набушава. А што — каларытны назоў, з гумарынкай!

У такім населеным пункце нарадзіцца і не стаць вялікім — проста немагчыма. Вось, раблю адкрыццё: менавіта гумар і ёсць каталізатар паскоранага росту творчай асобы. Слуцакі — о, гэта здаўна вядома! — не прастакі, людзі выбітныя, з досціпам: смех — у мех і патахонілі на базар. А набушаўцы, чуў, нават самагонку з жартаў гоняць: весялуха — не ўпіцца!

І я, папраўдзе, намерыўся быў нешта адметнае згумарыць у адрас Алеся Пашкевіча, свайго малодшага калегі па пяру — згадаць хоць бы й тое, што, як мне, так і яму было нялёгка прабівацца ў гарадчукі, ды яго зямеля Буш, бачыце, зблытаў карты — перацягнуў коўдру на сябе...

*Буш аб'еўся слуцкіх груш*
*і выцудліў гарэлкі кварту —*
*інакш скасіў бы паляруш*
*ці акалеў дзе ад інфаркту.*

*Слуцак Амерыкі дасяг*
*і на даляры расстараўся...*
*Былы знядолены басяк*
*крутым капіталістам стаўся.*

Як відаць, і сёння стае беларусаў, якія едуць у свет як у капейку — не па капейку, вядома, а па доўгі рубель. Роўна, як і той жа Буш, аматар груш.

А ёсць беларусы, каторых у замежжа не цягне, бо прыкіпелі душой да сваёй зямлі, роднай мовы й культуры. І як бы ні білі ў дугу запанела-зрусіфікаваныя гарадчукі, нацадшчапенцы, якімі б мондрымі ўказамі ні адмахваліся ад «бульбашей-колхозников», аднак беларускамоўныя прадстаўнікі вёсак і райцэнтраў, энергічныя хлопцы й дзяўчаты — будуць і надалей, нават больш наплыўна насычаць не толькі сталіцу, але і абласныя цэнтры жывільнай сілай нацыі. Закон самазахавання дзейнічае, і скасаваць яго ніхто не зможа.

Упэўнены, Беларусь дачакаецца свайго яснага дня, калі нехта такі вось, як і я, пісьменнік, выйдзе аднойчы на праспект і скрозь, паўсюль будзе чуць сваю родную мову і радавацца...

Такое абавязкова прыйдзе — я ніколькі ў гэтым не сумняваюся. Адно каб вёску нашу не заглушылі зрусіфікаваныя ўшчэнт гарады з іх урбанізавана-нявызначанымі, далёка непразрыстымі, як сёння, сацыяльным ладам і нацыянальнай ідэяй.

## Час

Беларусы — людзі балотныя, лесавікі. Таму і ацалелі, бо хавацца ад татарвы й маскавітаў, ад шведаў ды французаў, палякаў ды немцаў было дзе — на патайных балотных выспах ды сярод непраходнай лясной глушэчы.

Беларуса часам і сапраўды даволі цяжка разварушыць, выбіць з наездажанай каляіны. Яго на жароўню стаў голымі пяткамі — і ён будзе зацята трымацца ў межах звыклай талерантнасці, без крыку і выку. Яму баліць, але не плача, бо слёзы свае даўно выплакаў...

Беларус здавён аднолькава ненавісна глядзеў у вочы як русіфікатарам з усходу, так і паланізатарам з захаду. І ўсё дзеля таго, каб адно выжыць, дачакацца больш спрыяльнага часу, сваіх лепшых дзён.

І такі час настаў. Стваральны й вольны. Я пэўны ў тым, што праз адно-два пакаленні нашыя суседзі, у нядаўнім былым — сквалыгі й зайздроснікі, стануць надзейнымі — не разліць вадой! — сябрамі. Гэта адзінае, што яны мусяць зрабіць, бо ўвогуле ні другога, ні трэцяга — ім не дадзена...

ВЕРШЫ

# SEX-ЦЫКЛ

**Рыгор БАРАДУЛІН**

## SOS

*Рассыхаецца ралля —*
*Просіць лівень ліцца.*
*Я трымаю жураўля,*
*У цябе сініца.*

*Нецуглянак я люблю*
*Нечаканай масці.*
*Дай напіцца жураўлю,*
*Дай да дна прыпасці.*

*Я адзін, і ты адна,*
*Дай спатолім смагу,*
*Дай да дна, да дна, да дна —*
*Разбушуем брагу.*

*Мель астудзіць пыл і хмель,*
*Ацвярэзіць згубай.*
*Абап'ецца журавель*
*І абвяне дзюбай.*

*SOS, SOS — дай жураўлю напіцца,*
*SOS, SOS — гарачая крыніца.*
*SOS, SOS — куніца загарыцца,*
*Журавель упёрся ў мель.*

## Сінеюць цені…

*У гарачага кахання*
*Мітуслівае насенне.*
*Дзе спаткацца з Вамі, пані,*
*На канапе ці на сене?*

*На канапе мне скрыпуча,*
*А на сене Вам калюча.*
*Гулка гоцкацца на даху,*
*А на вуліцы хопіць страху.*

*У шалёнага кахання*
*Пазбіваныя калені.*
*Ад зялёнага ўздыхання*
*Пад вачмі сінеюць цені.*

*Свой ніколі шал не ўцэнім,*
*Аддамо ўсе сілы справам.*
*Дзе, скажыце, нашым ценям*
*Стаць адным, але рухавым?*

*Маладое нецярпенне*
*Рассакрэчвае сакрэт.*
*Шчыльна два знікаюць цені,*
*Трэці цень зірне на свет.*

## Пытанне

*Моцнае, як смерць, каханне,*
*Не слабейшае віно.*
*І калі пытанне ўстане,*
*Мусіць мець адказ яно.*

*У мяне пытанне ўстала,*
*Памажы ўлажыць яго,*
*Як назваць яго прыстала:*
*І-га-га ці о-го-го?*

*У віна дзе трэба вочы*
*І салодкая віна.*
*Здай дзявочы сорам ночы,*
*Хай схавае давідна.*

*Легчы ўдвух якраз дарэчы,*
*Каб спачыла галава.*
*Як знайсці ў такой цямрэчы,*
*Дзе мякчэйшая трава?*

*Ветах небам ходзіць пешшу,*
*Хоць яго ніжэй прыклей.*
*Я табе ліхтар падвешу,*
*Каб ісці было святлей!*

## Будзе…

*У мяне шаршатка маладая,*
*У цябе сукрыстая аўчынка.*
*Хутка ўжо зіма захаладае,*
*Дык пашыем кажушок, дзяўчынка!*

*Дай, як хмарку, вымякшыць аўчынку,*
*Як маланку, вызіхціць шаршатку.*
*Каб нікому не было спачынку,*
*Будзем пачынаць усё спачатку.*

*Завіткі ў аўчынкі, як дукаты.*
*Шчасце мае той,*
*Хто мае снасці.*
*У шаршаткі кончык тупаваты,*
*Каб шчыльней да сутнасці прыпасці.*

*Не ад страху задрыжаць каленькі.*
*Памаўчаць захочуць нашы плечы.*
*Хоць пашыем кажушок маленькі,*
*Горача ў ім будзе, як у печы!*

## Варта!

*Вабную і трапяткую*
*Вас шапчу,*
*Па Вас шалею.*
*Вы — лампада,*
*У якую*
*Мне карціць падліць алею.*

*Як туман той над ракою,*
*Сум гусцее з непрыкмету.*
*Вы — лампада,*
*За якою*
*Я пайду на край Сусвету.*

*Мне нідзе няма спакою.*
*Крык мне толькі імпануе.*
*Вы — лампада,*
*Без якое*
*Змрок у сэрцы запануе.*

*З Вамі небасхіл шыкуе*
*І бляднее зорак варта.*
*Вы — лампада,*
*У якую*
*Добры кнот уставіць варта!*

## Пералётныя рукі

***З Рубока Шо***

* * *

*Цябе сярод акацый чакаў.*
*Уздрыгваў, шчодры на лёсткі,*
*Пры кожным шоргаце, як падлетак.*
*Падаюць зноўку пялёсткі*
*Бялюткіх кветак.*

* * *

*У тэпціках лёгкіх*
*Да мяне ты прыбегла.*
*Дождж з начы яшчэ спіць.*
*Брамка з галінак нягегла*
*Рыпіць і рыпіць…*

* * *

*Ты сябе аддаеш,*
*Не вагаючыся ні хвіліны,*
*Кладзешся смела,*
*Як птушка з галіны —*
*Сукенка зляцела.*

* * *

*Ты крыкнула,*
*Не ўпершыню*
*Знайшоўшы рукой жазло.*
*І зноў цішыню*
*Убакі павяло.*

* * *

*Ты п'яная на ўзложжы*
*Пазняволілася ад лагоды.*
*Жомчуг на грудзёх перабіраеш*
*дрыготка.*
*І дня не ўяўляеш без насалоды.*
*Цела твае — быццам котка.*



Фота Г. Чарказяна

* * *

*Малютка з квартала Сімаці,*
*Хто даў табе найменне й шал?*
*Нашто так умела*
*Губамі лашчыш карал?*
*Усё ўва мне затрымцела.*

* * *

*О, двойца начных матылькоў*
*Стамілася да нематы.*
*Кветкі хагі гараць дакорам.*
*Разам з апраткаю ты*
*Скінула сорам.*

* * *

*Набрыняла барвянае неба*
*Навальніцай вясны наўкол.*
*Ластаўкі круг закруглілі пашанай,*
*Ах, як цяжэ нефрытавы ствол*
*У пальцах каханай.*

* * *

*Чарада апошняя*
*Адляцела ў знямозе.*
*Крумкач учарнеў з дакукі.*
*Апусціліся на каго ў дарозе*
*Твае пералётныя рукі?*

## Плакат

*Ні жарты д'яблавы,*
*Ні землятрусы*
*Да дзён чаканых*
*Не з'іначаць след.*
*Пакуль на свеце*
*Будуць беларусы,*
*Па-мудраму*
*Багаты будзе свет!..*

* * *

*Страху няма рахубы*
*Пераходзіць дарогу дню.*
*Полымя*
*Апякае тонкія губы,*
*Смакуючы цішыню…*

**22.IX.2013**

* * *

*Галодны вецер у полі сумуе.*
*Памінаючы лета,*
*Дзьмухаўцовая свечка гарыць.*
*Роспач,*
*Шкадуючы сябе самую,*
*Хацела б са знікласцю*
*Загаварыць…*

**23.IX.2013**

## Віраток

*Сёлета*
*Сваё ўзгадала ўчора.*
*Сёння ўзважвае,*
*Ці затрымацца варта.*
*Кропля*
*Выцінаецца бадзёра*
*З леташняга заўтра…*

**27.IX.2013**

* * *

*Агонь глядзіць на дрэвы —*
*Бачыць дровы.*
*Адлезе ў снезе*
*Сніцца крыгалом.*
*На хутары маленства*
*Дрэмлюць совы.*
*Вятрак нагрэўся ўсмак*
*З адным крылом.*

*Я цішыню*
*Даверу крыгалому.*
*Сівому ветраку*
*Падам руку.*
*Знянацкаму*
*Дам тэлеграму грому,*
*Каб не спалохаў*
*Сонную раку…*

**24.XII.2012**

* * *

***Хто сказаў, што ў гэтым жыцці***
***Толькі раз мы былі маладымі?..***
***Су Дун По***

*Мы былі маладымі,*
*Калі*
*Зоркі,*
*Быццам пчолы ў вуллі,*
*У нашых душах*
*Святочна звінелі.*
*Мы, каго*
*Вочы жарсці ўраклі.*
*Мы, што з ранішніх вуснаў*
*Смагу пілі*
*Ад дазволу*
*Супроць забароны*
*Хмялелі…*

***P. S.***
*Кожны раз,*
*Затаіўшы дых,*
*П'е жыццё за нас*
*Маладых…*

**26.VII.2013**

* * *

*Свой век*
*Дажываю таропка…*
*І ўжо на стол*
*Пазірае куцця.*
*Дзе ты,*
*Залатая кропка*
*Стомленага жыцця?*

**3.VIII.2013**

ФРАГМЕНТЫ

# ЯНУШ РАДЗІВІЛ

## СТАРОНКІ З НОВАГА ГІСТАРЫЧНАГА РАМАНА

**Кастусь ЦВІРКА**



…І вось Альгердаў трыумф — жаніцьба з Канстанцыяй.

Усе вясельныя абходзіны — і сватанне, і вянчанне ў царкве ў Слуцку, і банкетаванне ў доме маладой, маладога — былі для Альгерда як нейкі дзівосны сон. Няўжо гэта праўда, што Канстанцыя — такая мілая, такая любая, такая гожая, ні з кім не параўнальная — будзе цяпер яго жонка, будзе з ім заўсёды? Кожны дзень, кожную хвіліну? І ўсе-ўсе гады, усё жыццё?..

Пасля высокіх тостаў, віншаванняў, песень у гонар маладых, пасля традыцыйнага каравая далі слова музыкам — знакамітай слуцкай капэле, якая іграла ўсе самыя важныя навакольныя вяселлі. Тоненька пілікала, брала за душу скрыпка, зладжана гулі цымбалы, выспеўвалі на розныя галасы дудкі, звонка, урачыста выгаворваў сваё трамбон, весела пашалёствалі шамкі бубна.

Зазыўная музыка проста падмывала ўсіх у скокі. Першы танец — урачысты вальс — прызначаўся, як казаў звычай, для маладых. Усё застолле дружнымі воплескамі запрасіла іх у танец. Тут жа, пры сталах, было адведзена для гэтага належнае месца. Альгерд беражна ўзяў пад руку Канстанцыю і вывеў з-за сталоў.

Хвалі музыкі лёгка падхапілі іх, укруцілі ў свой радасны вір. Яны кружылі пад несціханыя ладкі ўсіх вясельнікаў, якія, пастаўшы, узялі іх у шчыльнае кола. Нельга было не залюбавацца гэтай парай — чароўнай, нябеснай красы маладой у лёгкім белым вэлюме і ў меру высокім, у добра падагнаным гарнітуры, не менш прыгожым і статным маладым. І толькі калі маладыя прайшлі свае кругі, да іх пачалі далучацца і ўсе тыя, хто хацеў іх падтрымаць…

Музыкі ігралі не спыняючыся. Вяселле ішло поўным ходам. І от у самы яго разгар у дзвярах неўпрыкметку паявіліся два незнаёмцы ў дарожным убранні. Нікім не заўважаныя, яны моўчкі глядзелі на шчаслівую вясельную завіруху.

Асталіся нерухомымі яны і тады, калі, натанцаваўшыся, вясельнікі ізноў пачалі рассаджвацца за сталы.

Стоячы з Канстанцыяй на покуці і чакаючы, пакуль пасядуць усе, Альгерд і ўбачыў іх. Ён памкнуўся ўзмахам рукі запрасіць за сталы і іх — думаў, што гэта нехта з боку маладой. Але, угледзеўшы, аж ускліпнуў сам сабе ад здзіўлення:

— Божа, гэта ж ганцы князя Януша Радзівіла!

Аднаго з іх Альгерд ведаў. Гэта быў Міхалка Падаляка.

Папрасіўшы ў Канстанцыі прабачэння, Альгерд праціснуўся між гасцей і падышоў да ганцоў, паздароўкаўся з імі.

— Што здарылася, хлопцы?

— Здарылася, ваша светласць, — адказаў Міхалка. — Вайна.

— Вайна? — пахаладзеў Альгерд. — З кім вайна?

— З Масковіяй, ваша мосць. Цар Аляксей Міхайлавіч ідзе на нас з войскам. Гетман Януш Радзівіл збірае ўсіх на вайну. — І, пакапаўшыся ў кішэні, працягнуў Альгерду паперыну.

Гэта была позва ад князя Януша Радзівіла: яму, ад'ютанту гетмана польнага Альгерду Урбановічу, загадвалася неадкладна прыбыць у Вільню, дзе на аўторак прызначана ваенная рада. Альгерд прыкінуў, што, каб туды паспець, яму трэба выехаць з дому ўжо заўтра раніцай! Вось дык сюрпрыз! Значыць, яму пасля вянчання выпадала пабыць з жонкай толькі адну шлюбную ноч!

З сябрамі-ганцамі, якіх таксама запрасіў у застолле, Альгерд варочаўся на сваё месца зніякавелы, апанураны. Што рабіць? Пакуль што змаўчаць пра вайну, каб не псаваць людзям свята? Ды ўсе глядзелі на яго з допытнымі вачыма: добра ўбачылі яго збянтэжанасць.

— Што там такое, пан Альгерд? Што здарылася? — пасыпаліся з усіх бакоў запытанні.

І ён мусіў сказаць вяселлю пра вайну. Што на яе загадана збірацца і яму.

Для вясёлага застолля гэта было як гром сярод яснага неба. Усе мігам працверазелі.

Вяселле, якое на радасці завінуліся гуляць цэлы тыдзень, згарнулася ўмомант…

Па Маскве шырокімі хвалямі разліваюцца меладыйныя гукі да адказу раскалыханых званоў. «Дзнн-дзнн-дзнн» — нясецца з усіх, якія толькі ёсць, цэркваў і сабораў. Гукі званоў запаўняюць усе пляцы і вуліцы, плывуць у двары і падворкі, тоўхаюцца аб вокны і сцены каменных дамоў і драўляных хацін, трывожна і соладка адгукаюцца ў людскіх душах. Мяшчане кідаюць пачатую работу і барздджэй бягуць на вуліцы, спяшаюцца да чырвонага ад цэглы Крамля: што зрабілася, што ўчынілася?

А там, на галоўным пляцы стольнага горада Масковіі — мора людзей.

Адтуль у шырокую вуліцу, што вядзе на захад, бясконцай ракою плыве грукатлівае войска. Калышуцца пікі коннікаў, паблісквацюць стальныя ствалы мушкетаў і шабляў, грукочуць аб брук колы абозу.

Абодва бакі вуліцы абступілі людзі, асяняюць, нізка кланяючыся, крыжамі. А святары акрапляюць войска яшчэ святою вадою, бласлаўляюць на ратныя подзвігі.

Больш спрытныя маскоўцы яшчэ раніцай праціснуліся бліжэй да крамлёўскіх варот, пры якіх на высокім дашчаным рундуку, акрытым чырвоным сукном, стаяў сам цар Аляксей Міхайлавіч Раманаў у сваім бліскотным адзенні, у зіхоткай шапцы Манамаха і са скіпетрам у руках. З чорнай барадкай клінком, чырванашчокі. А з ім, па правую руку, у гэтакай жа зіхатлівай ад дарагіх камянёў рызе таптаўся патрыярх Нікан.

Калі да варот падышла царская конніца, яе камандзір загадаў ёй спыніцца. А сам саскочыў з каня і, нізка кланяючыся цару, пачаў нешта дакладваць. Цар Аляксей Міхайлавіч маладым, яшчэ не агрубелым, нават трохі па-хлапечы танклявым голасам прамаўляў войску свой наказ на дарогу:

— Мы, вялікі гасудар усяе Русі, папрасіўшы ў Госпада Бога і найсвяцейшай Багародзіцы спрыяння, добра параіўшыся з свяцейшым патрыярхам Ніканам, — пры гэтых словах цар павярнуў да яго галаву, — дый з усім асвячоным саборам, з баярамі, акольнічымі, думнымі людзьмі, пастанавілі ісці вызваляць ад ганенняў і здзекаў увесь народ праваслаўны, каб сабраць усіх авец божых разам з іхнымі землямі пад нашу царскую руку, да аднаго пастыра — патрыярха Масковіі Нікана. На вялікую святую справу дабраслаўляем мы вас, ратныя людзі. Каб выканалі божае наканаванне, каб прыўмножылі і пашырылі гаспадарства наша маскоўскае…

Услед за царом узнёсла і лепна гаварыў патрыярх Нікан:

— Ідзіце ж, дзеці мае, радасна і дзерзасна ваяваць за святыя цэрквы божыя, за адданага Богу гасудара нашага, за ўсіх хрысціян праваслаўных! Выконвайце ж гасудараву волю без усякага сумніву, не шкадуючы жывата свайго. На святое дзела благаслаўляем мы ўсіх вас, слаўных ратаборцаў маскоўскіх. На вас — усёй Русі нашай упаванне… Мы, патрыярх царквы нашай праваслаўнай, усе слугі Божыя, настаўляем вас не шкадаваць ворагаў маскоўскага гаспадарства нашага, усіх, хто працівіцца волі гасудара нашага. Смерць усім няверным! Усім тым, хто не хоча ісці ў лона царквы нашай праваслаўнай, пад цёплае крыло вялікага гасудара нашага. Аддадзеныя смерці за супраціў цару нашаму — гэта будуць нашы ахвяры ўсёмагутнаму Богу, які хоча, каб усе людзі на зямлі правільнай дарогай ішлі па ласку яго. Недругі нашы — гэта камяні, што ляжаць на дарозе перамогі веры нашай праваслаўнай, веры дзядоў і бацькоў нашых, — і вы павінны прыбраць камяні гэтыя з дарогі нашай. Ідзіце ж смела біцца з нявернымі, ачышчайце зямлю славянскую ад схізмы, ад паганай нечысці…

А трыма днямі пазней, 18 мая 1654 года, Масква ўрачыста праводзіла на вайну і самога самадзержца Русі Аляксея Раманава. Пазалочаная царская карэта, запрэжаная васьмірыком, злёгку пагойдваючыся на жалезных рысорах, плаўна цацілася па добра ўезджанай смаленскай дарозе. Уперадзе і ззаду цокала капытамі дваровая конніца Аляксея Міхайлавіча, што ахоўвала свайго гасудара ад усякіх нечаканасцяў.

Па дарозе з Оршы, пырскаючы шматкамі зямлі з-пад капытоў, спорнай рыссю скакаў невялікі аддзел добра экіпіраваных коннікаў. Вёў іх князь Альгерд Урбановіч.

Раніца была хмурная, без сонца. Спярша пробаваў сеяцца дробны лянівы дожджык. Ды ён папырскаў, папырскаў і — перастаў.

Па баках, да палоскі далёкага, асмужанага туманам лесу, распасціраліся палявыя разлогі з зялёнай, добра ўрунелай ужо збажыной, па лугавінах купчасцілася лазовае ды ракітавае кустоўе.

Ранішні халадок добра падбадзёрваў Урбановіча. У галаве круціліся думкі пра яго місію. Якое б гэта было шчасце для тысяч людзей, калі б знайшлося паразуменне з Багданам Хмяльніцкім і каб ён разарваў пераяслаўскую дамову з Масквой. Гэта ж калі б украінцы з саюзнікаў зрабіліся праціўнікамі маскавітаў — ці ж асмеліліся б тыя ісці вайной на Рэч Паспалітую ды Княства? У кожным разе значна лягчэй было б тады ўсім разам абараніцца ад маскоўскага нашэсця.

Да Чыгірына, дзе павінна быць рэзідэнцыя Багдана Хмяльніцкага, дарога немалая: скакаць ды скакаць. А на ёй усякае можа здарыцца ў гэты неспакойны час. Мо з кім і загрудкі давядзецца ўзяцца. Ды лепш за ўсё пазбягаць усякіх боек. Галоўнае — выканаць місію. Толькі ж ці ўсё прадугледзіш?

Каманду сабе Урбановіч падабраў, здаецца, неблагую. Апроч вернага Цішкі Нячая скакалі побач з ім каржакаваты, моцны, як корч, Габрусь Зязюля, вёрткі, што той вуж, Янка Парахневіч і мажны, шыракаплечы здаравіла Максім Бурак, увесь рыжы, з чырвоным тварам, што вельмі адпавядаў свайму прозвішчу. Ва ўсіх — па дзве пістолі ды шаблі пры боку.

З вялікай ахвотай згадзіўся ехаць Альгерд Урбановіч ва Украіну і яшчэ з адной прычыны: гэта ж па дарозе, хоць трохі і ўбаку, яго родныя мясціны, і ён спадзяваўся неяк заскочыць да сваіх, да любай Канстанцыі. Пры адной думцы пра яе ў Альгерда кожны раз мацней білася сэрца.

Дарога ішла то полем, то лесам. Амаль увесь час імчалі рыссю: трэба было спяшацца. Нанач спыняліся ў гарадах і мястэчках. Начлег забяспечваў спрытны Цішка. Знаходзіў начальства, паказваў ахоўную грамату ад вялікага гетмана Януша Радзівіла, і важнае пасольства заўсёды мела месца для адпачынку.

Горш было ва Украіне. Там з падазронасцю глядзелі на паслоў беларускага гетмана, які добра даўся ў знакі ўкраінскім казакам.

Пры ўездзе ў Чыгірын на добрую паўднёўку затрымала паслоў варта. Яе начальнік — высокі казак з адвіслымі вусамі, з доўгой пасмай валасоў на выбрытай галаве і… з абрубкам правай рукі — апроч ахоўнай, патрабаваў і пісьмо да Багдана Хмяльніцкага. Альгерд Урбановіч сказаў на гэта, што ён павінен з рук у рукі перадаць яго адрасату. Тады аднарукі начальнік загадаў пасольству пачакаць у загарадцы пры вартаўнічай будцы. Калі паслы ўехалі туды на сваіх конях, ён зачыніў за імі вароты і ўзяў іх на замок.

— Да Багдана Хмяльніцкага, — сказаў ён праз дашчаныя вароты, — я адпушчу вас толькі тады, калі прыйдзе кат з сякерай і паадсякае кожнаму з вас па правай руцэ. Так, як мне адсек ваш Радзівіл.

Паслы добра ведалі, як усё гэта было. Калі чатыры гады назад казацкія загоны Хмяльніцкага пайшлі на Беларусь і пачалі разбойнічаць: граміць і рабаваць гарады, сёлы ды шляхецкія маёнткі, біць і паліць, секчы шаблямі ні ў чым не вінаватых людзей, вешаць і садзіць на калы, тады і Януш Радзівіл, ваюючы з імі, гэтак жа жорстка караў найбольш зацятых і бязлітасных казакоў-гвалтаўнікоў. Так, калі войска Радзівіла пасля доўгіх крывавых баёў адвявала захоплены казакамі Мазыр, які яны залілі крывёю, здзекуючыся з людзей, беларускі гетман загадаў жорстка расправіцца з найбольш актыўнымі ды паланёнымі ўжо казакамі. Тады дзевяць з іх былі пасаджаны на кол, некалькі дзясяткаў засеклі шаблямі, а некалькі сотням адсеклі правую руку — каб болей не маглі ўзяць шаблю і нападаць на Беларусь.

І хіба ж мог забыць казацкі начальнік варты гэтакую крыўду?

У двары Урбановіч апанурана тупаў каля каня. Ён добра ведаў, што ў казакоў былі свае законы, а лепш сказаць, яны не трымаліся ніякіх законаў. І пакрыўджаны беларусамі казак мог вельмі лёгка выканаць сваю пагрозу. Цікава, колькі загойвалася б тады ў Альгерда Урбановіча рука? Яго місія яўна зацягнулася б. А мо і зусім не змог бы тады сустрэцца з украінскім гетманам. Дзіўна, толькі за гэта, а не за сваю руку найперш перажываў пасланнік Януша Радзівіла.

Са скрухай глядзеў ён праз плот, як снавалі туды-сюды казакі, пешыя і конныя, як, сабраўшыся разам, рагаталі, пра нешта расказваючы, як, жартуючы, дужаліся адзін з адным. Гэта ж так недарэчна ўліпла беларускае пасольства ў самым канцы дарогі. Хто ведае, ці не перашкодзіць гэта наладжванню міру, нейкаму разумнаму пагадненню?

Як бы там ні было, Альгерд Урбановіч са сваімі памагатымі так лёгка не дасца ў рукі нахабнікам, калі яны і праўда ўздумаюць чыніць над імі якую экзекуцыю.

З роспачу глядзеў князь, як усё ніжэй і ніжэй апускалася сонца: гэта ж так марнуецца дарагі час.

Невядома, колькі б той аднарукі трымаў у загарадзі паслоў і што ўчыніў бы з імі, калі б не наскочыў на кані казацкі палкоўнік Іван Багун.

— Хто такія? — убачыўшы незнаёмых, папытаў у аднарукага.

Сумеўся быў начальнік варты, ды мусіў прызнацца.

Даведаўшыся ад Урбановіча пра мэту пасольства з Беларусі, Багун загадаў паслам ехаць за ім. Ён памог уладкаваць іх на начлег, а назаўтра наладзіць сустрэчу з Багданам Хмяльніцкім.

Украінскі гетман прыняў Альгерда Урбановіча ў сваім кабінеце вельмі стрымана. Як сядзеў у крэсле за шырокім дубовым сталом, так і не прыўзняўся насустрач. Толькі зірнуў на яго знізу ўверх і прапанаваў сесці насупраць. Прачытаў пісьмо Януша Радзівіла, пакруціў яго ў руках і адклаў убок.

— Хоць мы з Янушам Радзівілам, — памаўчаўшы, пачаў разважліва Хмяльніцкі, — адзін час былі парадНёныя праз дачок малдаўскага гаспадара — адна стала Янушавай жонкай, а другая — жонкай майго сына Цімафея, але сустракацца не вельмі нам выпадала. Добрую гутарку меў я з ім на сустрэчы з каралём Янам Казімірам, з якім было ў мяне якраз прымірэнне. Мушу сказаць, чалавек вялікай волі ваш гетман. Рашучы і непахісны. Ну, і палкаводзец — якіх толькі пашукаць. Выдатны палкаводзец, добра біў і маіх палкоўнікаў. Ну а што канкрэтнае прапануе мне мой былы сваяк Януш Радзівіл?

— Самае галоўнае — разлучыцца з Масквой…

— І злучыцца з Рэччу Паспалітай?

— Так і не так. Януш Радзівіл хоча, каб Украіна была самастойнай дзяржавай у Рэчы Паспалітай, поўнай аўтаноміяй у нашай федэрацыі. Як цяпер Беларусь — Вялікае Княства Літоўскае. Са сваёй казной, са сваім войскам, з забаронай палякам умешвацца ў нашы ўнутраныя парадкі, сяліцца ў нас палякам.

— І Януш Радзівіл верыць, што кароль, палякі дазволяць гэта і ва Украіне?

— Калі б ваша вялікасць дала на гэта згоду, наш вялікі гетман паставіў бы пытанне на вальным сойме Рэчы Паспалітай, угаварыў бы яго паслоў і караля адмовіцца ад сваіх прэтэнзій на Украіну. А гарантыяй быў бы наш цесны саюз паміж сабой — саюз Украіны з Вялікім Княствам, нашай беларускай дзяржавай. Мы разам абаранялі б нашы правы ў агульнай федэрацыі. І абаранілі б, бо, злучаныя разам, мы былі б мацнейшыя за Польшчу. І тэрыторыяй мы намнога большыя за яе. Значыць, і паслоў нашых на соймах было б болей. А яны не далі б нас у крыўду.

— Усё гэта так. І я думаў пра гэта. Ужо і дагавор пра Казацкую дзяржаву ў Рэчы Паспалітай быў падпісаны з палякамі. Ды хіба ж хацелася ім выконваць яго? Такі хаўрус, такую федэрацыю праектаваў і мой генеральны пісар Іван Выгоўскі. Хацеў, каб Рэч Паспалітая была не дзяржавай двух народаў, польскага і беларускага, а трох — польскага, беларускага і ўкраінскага. Каб у гэтай федэрацыі былі тры раўнапраўныя дзяржавы: Польскае каралеўства, Вялікае Княства Літоўскае (дзяржава беларусаў) і Рускае княства (украінская дзяржава). З усімі гарантыямі. Нават гаварылася пра гэта з польскімі саноўнікамі. Ды тыя адразу ж насы адваротвалі, не хацелі і слухаць пра такое.

— А ўсё ж палякаў можна перакanaць, — не адступаў ад свайго Урбановіч. — Тады б ім не трэба было ваяваць з вамі, украінскімі казакамі. Ды і з усякай вайною было б скончана. Бо Масковія мусіла б тады вярнуць да сябе свае войскі.

— Я не веру палякам, — сказаў Хмяльніцкі, і ў вачах яго бліснулі злыя іскры. — Яны не раз падманвалі мяне. Ды ці ж захочуць яны выпусціць з рук такую запаветную зямлю, як Украіна? Колькі ж іх тут глыбока пусціла свае карані. Хай не будзе такі наіўны Януш Радзівіл.

— Ну, а калі ён усё ж даб'ецца гэтага?

— Не даб'ецца! Але хай пробуе. Калі выйдзе што, хай выпраўляе да мяне новае пасольства. Паглядзім, якія там будуць гарантыі. Ды нічога добрага ад палякаў я не чакаю.

Памаўчалі. Кожны думаў пра сваё.

— А яшчэ ў нас ёсць другі план. Не будзем толькі казаць, ад каго ён зыходзіць. —Урбановіч бліжэй падсунуўся да гетмана. — Зладзіць хаўрус, можна сказаць, сепаратны хаўрус Вялікага Княства з Украінай. Аб'ядналіся ўкраінцам з беларусамі. Каб нашы братнія народы былі заадно. Тады б разам пашукалі яшчэ хаўруснікаў. Калі б заручыцца падтрымкай Швецыі на поўначы ды Малдавіі і Крыма на поўдні, то мы маглі б любога ворага ўціхамірыць.

— Так от яны і кінуцца нам памагаць. Усё гэта сны, трызненні, шаноўны пан пасол і гетманаў дараднік.

— Каб сны спраўдзіліся, трэба з нечага пачынаць, ваша вялікасць. Найперш — гэта разарваць хаўрус з Масковіяй. Маскоўскі цар не дазволіць украінцам ніякай аўтаноміі. Паабяцаць паабяцае, а як прыйдзецца — назад свае ж словы. У яго палітыка адна: кось, кось — і ў аглоблі.

— Ну, гэта ўжо мне ведаць, якая ў маскоўцаў палітыка і якая ў нас мэта.

І ўсё ж нейкі цень прайшоў па чале Хмяльніцкага, вочы ў яго прыжмурыліся, галава нахілілася: задумаўся.

— То што вы маеце перадаць Янушу Радзівілу, пан гетман? На чым мы пагодзімся?

— Хай Радзівіл сам падумае…

Перамовы кончыліся нічым.

…Прачнуўся Януш Радзівіл сярод ночы. Ад дажджу, ціхага, вельмі спакойнага дожджыку, што неяк лена сеяўся з неба, пырскаючы проста ў твар: князь ляжаў на спіне. Дзе ляжаў, ён сам не бачыў: было цёмна — хоць выкалі вока. Хацеў устаць, прыпадняўся ўжо на локці, але ад рэзкага болю ў плячы зноў апусціўся долу. Ляжаць было мякка: здаецца, ён апынуўся на нейкай узвышанай лугавіне, на густым сіўцовым куп'і.

Пачаў перабіраць у памяці, як усё было, што з ім сталася. Ды апроч суцэльнага гулу-лязгату бітвы, у якую ён кідаўся, мала што прыходзіла ў галаву. Нават калі таўханула ў плячо чыясьці піка, ён, не зважаючы на боль, не спыняўся ў сваім лёце на кані. Ведаў адно: яму трэба было трымацца да канца. Бо з яго бралі прыклад, ён быў як сцяг для ўсяго беларускага войска. Зрэшты, яго белы атласны жупан, на які прасачылася і пацякла чырвонай паласой кроў з раны, і быў падобен на сцяг. Не, не белы сцяг капітуляцыі, а афарбаваны ваярскай крывёю сцяг змагання.

Помніў, што пад ім два разы падалі коні і яму падводзілі новых. Адзін момант у бітве быў асабліва крытычны, асабліва небяспечны для самога Радзівіла. Гэта калі перад самым носам зусім нечакана вырас на ўздыбленым кані нейкі мажны маскоўскі гусар. Януш Радзівіл згледзеў краем вока, як бліснуў над галавой высока ўскінуты меч. «Усё!» — толькі і паспеў падумаць вялікі гетман. Ён нават уцяў ужо ў плечы галаву, чакаючы канца. Ды ў самы апошні міг паміж ім і тым маскоўскім грамілам раптам узнік свой, з гетманскай харугвы ратнік, меч якога і скрыжаваўся з мечам маскоўскага конніка. Конь Януша Радзівіла скочыў убок, і гэта выратавала князя ад немінучай, здавалася, смерці. Не ўцалеў толькі яго выратавальнік — харунжы Глафенберг, якога адолеў-такі маскоўскі асілак. Цаной уласнага жыцця радзівілаўскі ваяр выратаваў вялікага гетмана.

Але самым балючым было для Януша Радзівіла бачыць такі нечаканы разгром свайго войска, бязладныя ўцёкі з поля бою яго жаўнераў пад шырокай лавінай маскоўскай конніцы, якую ніяк нельга было стрымаць меншымі сіламі.

Потым была паспешлівая пераправа рэштак беларускага войска праз Друць, дзе яго ваяроў насцігалі і бязлітасна секлі маскавіты.

Разгром! Страшэнны разгром яго войска. І ўсё гэта яму трэба перажыць.

Аставалася толькі надзея, што не ўсе яго ваяры палеглі ў той трагічнай бітве, што многіх уратаваў блізкі лес. Ведама ж, шмат каму ўдалося ўцячы. І яны вернуцца, каб уліцца ў свае потым адноўленае войска.

Ды толькі от што рабіць цяпер яму, вялікаму гетману, у чыіх руках кіраўнічыя лейцы абароны краіны, як выбавіццаадсюль, параненаму, са скалечанай нагой? Добра, што конь занёс яго падалей ад крывавага поля бою. Толькі ж дзе ён дзеўся, той конь?

Доўга ці мала ляжаў ён у паўзабыцці, ды калі расплюшчыў вочы, пачынала світаць. Перад ім вырысаваліся цьмяныя сілуэты кустоў. Асцярожна прыўзняўся на локці. Мутным святлом наліваўся ў адным баку край неба: ага — там усход. Значыць, яму трэба прабірацца ў іншы бок, на захад. Стараючыся не рабіць рэзкіх рухаў, устаў і паволі пачаў перасоўваць ногі, хоць на адну, левую, няможна было ступіць: яе праціналі няўцерпны боль. Прыскакаў на адной назе пад блізкі хмызняк і сваёй вострай шабляй, якая аказалася пры ім у похве, ссек і ацерабіў бярэзінку — зрабіў сабе кій. Апіраючыся на яго і абмінаючы густы хмыз, пакульгаў уперад…

Ішоў доўга, раз-пораз сунімаючыся, каб паесці ягад — брусніц, чарніц, буякоў, нават суніц траплялiся. У адным месцы нарваўся на кусты арэшніку, добра натачыў зубы амаль паспелымі ўжо арэхамі, хоць трохі ўлагодзіў імі жывот.

Раптам уперадзе, трохі збоку, пачуўся нейкі гул. Гул не гул — прыглушаны лесам многагалосы людскі крык. Што ж гэта?

Прыспешыўшы хаду, скіраваў туды. Немы крык узрастаў, раздзіраючы душу. Запахла дымам. Пажар?..

Спачатку паказаліся каровы. Іх гналі даўгімі дубцамі маскоўскія жаўнеры. Цэлая чарада кароў. Следам за жывёлай цяжка рыпелі, ляскочучы па выбоінах, нечым важкім наладаваныя сялянскія калёсы. Вазоў было многа — цэлы абоз. Царскія жаўнеры ішлі збоч, трымаючы лейцы.

Калі прарыпела апошняя падвода, паказалася нешта зусім дзіўнае. Салдаты гналі натоўп людзей. Маладзенькія дзяўчаткі, нестарыя жанчыны, маладыя хлопцы, падлеткі. Ну, так — у рабства гналі. І добра, калі ў Масковію. А то ж прадавалі такіх палонных на ўсякіх рынках. Купцам з Турцыі, з арабскіх краёў. Калі хто вытыркаўся з людскога натоўпу, канваіры білі плазам шаблямі ці прыкладамі мушкетаў. Нейкая жанчына з распушчанымі валасамі, галосячы на чым свет, пачала рваць на сабе валасы, махаць рукамі ды выкрыкваць праклёны. Салдат-канваір з размаху секануў па ёй шабляй...

Януш Радзівіл ляжаў у кустах, пакуль абоз лютых маскоўскіх рабаўнікоў не знік з вачэй. Тады ён устаў і, апіраючыся на палку, пакалдыбаў туды, адкуль усё яшчэ плыў, расцякаючыся па полі і заходзячы ў лес, разрэджаны чорны дым.

Жудасная карціна адкрылася перад вачыма Януша Радзівіла, калі ён пайшоў на дым. Туды, дзе была вёска. Так, была. Цяпер ад яе асталіся адны галавешкі. На месцы хат, сцены якіх яшчэ дагаралі, нібы якія помнікі, тырчалі напаўразваленыя коміны. І ўсюды ляжалі пасечаныя шаблямі людзі, амаль усе старыя і дзеці. Ясна: у палон такіх маскоўскія акупанты не бралі — каму яны патрэбны. Вунь у расхрыстанай белай кашулі, залітай крывёю, мажны дзядуля з вялікай белай барадой. Побач — маленькае дзіцянё без галавы. На тым баку вёскі яшчэ дагарвала, курэла густым чорным дымам чыёсьці вялікае гумно. Там кінуліся ў вочы цэлыя груды абвугленых людзей. Як відаць, іх спалілі ў тым гумне жывымі. От адкуль, значыцца, даносіўся той жудасны многагалосы крык. Што тут скажаш, маскавіты дзейнічалі па прынцыпе: не перадушыш пчол — не дастанеш мёду.

Пастаяў вялікі гетман зямлі беларускай каля закатаванай вёскі і памалу рушыў далей. Шукаць жывых людзей…



ПАРЦЭЛЫ

# З КНІГІ «ІЕРОГЛІФЫ ЛЁСУ»

Алесь МАКРАЦОЎ



***

*Калектыў
з сябе выціснуў
упартую кроплю:
адзінотніка…*

***

*Нізка
парцэл…
Струк
фасолі…*

***

*Вузкая
каляіна
жыцця…
Адзінота.*

***

*Пагаслая
зорка…
гарбузовага
квету…*

***

*Падушачкі
мамы
вышытыя
пачуццямі…*

***

*Жанчыны…
перадаюць
жыццё…
З рук на рукі.*

***

*Склад
мовы жыцця:
ён зычны,
яна галосная…*

***

*Зламанае
матавіла…
вялікай
сухой яліны…*

***

*Шура —
маё цела.
Дух мой —
Алесь…*

***

*Царства
Божае
ў душы
чалавека…*

***

*Лёгка
ехаць дамоў,
каб цяжка
вяртацца…*

***

*Мяне
паменшала:
стала болей
цябе…*

***

*Вызваленне
«заходнікаў»…
ад сала
і каўбасы…*

***

*Помнік
чэкістам…
Ва ўрочышчы
Курапаты…*

***

*Разгон
дэманстрантаў…
На жаночай спіне
адбітак
бота дзяржавы…*

***

*Да мовы
стаўленне
як…
да апазіцыі…*



Фота В. Казакова

***

*Прытуліўся
да хаты…
Птушаня
пад страхой.*

***

*Квецень
ліпы…
Пчаліны
ліхтар…*

***

*Ігла-
тэрапія
лясной
заедзі…*

***

*Залева…
Паміж ялін
лісічкі
палаюць…*

ВЕРШЫ

# ПАЗНАКА ЛЁСУ



Фота У. Клімовіча

Алесь КІРКЕВІЧ

***

*Гэта горш за адсідку ці здраду сябра,
Горш за выбарчы фарс,
Горш за жыццё паперы й асадкі,
Горш за вайну для Вас.*

*Гэта як быццам калені ў снезе
І яма перад табой.
І зараз мазгі заменяцца ў месіва,
Жылы — у перагной.*

*Смех за спіной ды жарты расейскаю.
Б'е ў пустэчу баёк…
Іней бяроз, запальнічкі крэсіва —
Ды рухавік шчэ не змоўк.
…Словам сваім, у сац-сетках адточаным,
Так жа выпальваў ушчэнт,
Быццам па хмарах мы ўчора не крочылі,
Зораў задраўшы тэнт.*

## Зорная

*Пазнака лёсу на ілбе.
Паперамена ззяюць зоры.
Тваіх вачэй прастора мне
Дрыгву ператварае ў мора.*

*І вочы колеру дрыгвы
Дрыжаць, нібы на небасхіле.
Падымеш голаў — разам МЫ
У зорных сферах, не ў магіле!*

***

*Ці напішаш мне першая
Вершам
Ці, можа, прозай?
Ты можаш па-рознаму.
Ведаю,
Паклічаш мяне на сустрэчу,*



*Як цемра апусціцца вечарам.
Ведаеш… цемру —
Перамагаюць свечкі!
Яны былі б сёння дарэчы
У нашым зямным раі...
«Ведаеш?»
«Ведаю...»*

***

*Рывок наперад долі-баязліўкі —
Тым больш рашучай, чым менш шансаў
на жыццё.
Цяжарнай перамогай, абцяжаранай
прапіскай,
А пад прапіскі штампам — сэрцава біццё.*

*Дамокл не вытрымаў, а меч упаў:
Без працы сёння не застанецца Харон.
Пасаду нехта страціў, нехта — мовы дар,
Калі выносілі на задні двор
з палацу трон…*

ДЗЁННІК

# ДВАЙНЫ КРЫЖ

Алесь ГІБОК-ГІБКОЎСКІ



Дылема: Божы Закон — Грэх… Быццам бы ясна — трэба жыць па Божым Законе. Але маючы стасункі з іншымі людзьмі, немагчыма пазбегнуць граху хоць у якой праяве. Разумеючы гэта, мы часта дыстанцыюемся ад соцыума. Як вынік — самота, якая сама па сабе вядзе да аднаго з самых цяжкіх грахоў — маркоты.

З пачутага: «У Бога ўсе жывыя!» Наўрад ці ўвогуле можна сказаць лепш!..

Джын — Аладзіну («Казка пра чароўную лямпу Аладзіна»), пасля атрымання загаду знішчыць апошняга: «Я — твой сябар... Але я — раб Лямпы!..»

Ці не гэтая дылема ёсць адной з самых папулярных у нашым сумным жыцці?..

Для нас, мужчын, усё ў жыцці пачынаецца і завяршаецца ў жанчыне. Яна нараджае нас на свет, у ёй мы і паміраем. Не тады, калі фізічна, а тады, калі яна ў нейкі момант не выбірае нас...

Ад лабавых атак інфернальнага нас здольныя абараніць толькі сапраўдная вера і сапраўднае каханне.

Улада, як прынцып чалавечых стасункаў — як правіла, даволі заганная рэч, бо ўтварае своеасаблівую эгіду ўсіх астатніх заганаў: маны, крывадушша, нізкапаклонства, ханжаства, подласці і інш.

«Узяць» — звычайны хватальны інстынкт, уласцівы кожнай жывёліне, а вось «аддаць» — гэта выключна чалавечая рыса, а, хутчэй, нават талент, уласцівы, на жаль, далёка не кожнаму з нас.

Багаты сябра рана ці позна здрадзіць беднаму, бо той заўсёды яго «напружвае» сваімі праблемамі. Нездарма Канфуцый раіў выбіраць сяброў толькі са свайго кола.

Той, хто не здольны любіць, наўрад ці здольны і разумець.

Зважаць на чужыя пакуты мы пачынаем толькі тады, калі напоўніцу спазналі свае.

Нягледзячы на сённяшнюю ўніверсалізацыю і масіфікацыю пісьменніцкай творчасці, індывідуальны аўтарскі стыль, яго адметнасць і арыгінальнасць усё роўна будуць мець у перспектыве асаблівы кошт, бо яны, уласна, і ёсць галоўнымі прыкметамі творчасці.

Як жа знайсці нам абрысы згоды, гармоніі ў сённяшняй густой (хоць вока выкалі!) цемры існавання ?

Рана ці позна ў жанчыны настае час, калі яна мусіць у сваіх адносінах з мужчынам кіравацца ўжо не пачуццямі, а розумам. І калі яго бракуе — расплатаю становіцца поўная самота.

Нашы пачуцці да чалавека — падмурак адносінаў з ім. А без падмурка дом не пабудуеш.

Утульную абалонку аўры дваіх стварае, як правіла, жанчына. Але напаўняе яе зместам — мужчына!

Прыгажосць і дабрыня ў нас не ад таго, што мы ведаем, а ад таго, у што верым.

Калі чалавек заўсёды знаходзіць апраўданне злу, якое творыць, то відавочна, што ён ужо моцна «прыжыўся» на інфернальнай дзялянцы, за што давядзецца плаціць вельмі дорага. Часам сваёй душой...

З прачытанага: «Без любові розум робіць чалавека хітрым, багацце — сквапным, выхаванне — двудушным, праўда — крытыканам, улада — гвалтаўніком, справядлівасць — жорсткім, гонар — высакамерным, ветлівасць — крывадушным»...

Усё так... Але далёка не ўсіх, на жаль, і любоў выпраўляе...

Мярзотнасць некаторых чалавечых душ можна прапускаць праз сябе і вытрымліваць толькі да таго часу, пакуль спраўляецца «фільтр» тваёй душы. Калі ён пачынае «дыміцца», трэба тэрмінова ратавацца ад такіх стасункаў, бо потым пачнецца непазбежнае запаўненне чужой цемрай і наўпростае спажыванне непасрэдна тваёй жыццёвай сілы.

Самая непрыемная спадчына «ліхіх» 90-х — часоў, калі многія шчыра імкнуліся да сваёй дзяржаўнасці, дэмакратыі, нацыянальнай самаідэнтыфікацыі — квазідзяржаўнасць, квазідэмакратыя, квазінацыяналізм...

Добрая паэзія — найбольш дзейсны сродак духоўнага ўдасканалення чалавека, бо нясе — адрозна ад музыкі, жывапісу і іншых відаў мастацтва — яго канкрэтную слоўную праграму.

Чым меней чалавек у жыцці здзяйсняе — тым меншы шанц саграшыць. Але ў выніку на яго кладзецца цяжкі грэх бяздзеяння, які высмоктвае жывую сілу душы дашчэнту.

Інфантылізм у дарослага чалавека — адна з самых выбітных прыкмет інфернальнасці. Гэты комплекс сведчыць пра страх да рэальнага «дарослага» свету і моцны вэрхал у душы.

Найперш мы кляймім «звера» ў іншым чалавеку, замест таго, каб надзейна зацугляць яго ў сабе. Бо, не сакрэт, што ён ёсць у кожным з нас апрыёры.

Калі нітачка адносінаў між людзьмі рвецца з прычыны функцыянальнай некарыснасці, то яны не былі сапраўднымі.

Мы сёння амаль што перасталі запрашаць адзін аднаго ў госці. Запанаваў заходні ментальны тып: «Колькі ж гэта будзе каштаваць?». Таму і згубілі вельмі важны канал сувязі між сабой — зносіны.

Вынік — «Колькі ж гэта будзе каштаваць?..»

Нярэдка мы «выкрэсліваем» са свайго жыцця «няручных» людзей ад уласнай слабасці, а то і нікчэмнасці, і тым самым моцна сябе абкрадваем, бо, як правіла, гэтыя «няручныя» — Асобы.

Таму-сяму і на схіле жыцця не шкодзіць зрабіць капітальную «перазагрузку» сваіх духоўных і маральных каштоўнасцяў, бо як жа выразна выяўляюцца яны часам на твары.

Не можа быць нацыянальная палітыка ў кіраўніцтва краіны, калі начыста адсутнічаюць нацыянальныя прыкметы ўлады.

Сапраўдны вернік не можа патрабаваць любові да сябе. Ён хоча і імкнецца найперш любіць сам.

Восенню і зімой у адзенні большасці беларусаў выразна пануюць шэры і чорны колер. Яны даўно ўжо сталі амаль што нацыянальнымі колерамі. Асабліва ў асяродку аматараў «зялёнага змія».

З прачытанага: «Ёсць толькі адзін варыянт ашукаць лёс — цалкам адмовіцца задаваць яму негатыўныя імператывы, а зрабіць сваім перманентным сцягам стваральныя…» Але ў выніку мы ашукваем саміх сябе…

Колькі разоў даводзілася пераконвацца, што «вялікаросы», безадносна да іх чалавечых і маральных якасцяў і сацыяльнага становішча — абавязкова атручаныя комплексам «сада-маза». Ва ўсялякіх стасунках — асабістых, грамадскіх, эканамічных, уладных — яны апрыёры проста не здольныя суіснаваць гарманічна. Магчымыя толькі два варыянты : або «наверсе», або «пад» кімсьці... Адсюль і хранічная невырашальнасць ўсіх праблемаў у Расіі!

Схільнасць да палігаміі — найперш мужчынская рыса, закладзеная эвалюцыяй. Доўгі час яна была сродкам гарантаванасці ўзнаўлення роду ў часы крытычных страт у асяродку моцнага полу. Але сёння яна няўзнак стала адным са сродкаў вынішчэння чалавецтва, бо як і іншыя рысы амаральнасці, лье ваду на млын Антысістэмы, маючай за мэту паступовае знішчэнне ўсяго жывога на Зямлі.

Добрыя, нават выдатныя функцыянальныя здольнасці чалавека — не ёсць прычына яго любіць.

Вялікі грэх — захоўваць цэласнасць сваёй душы за кошт душы іншага...

Фармаліст і грахі ў сабе бачыць фармальна. А значыць, не ў стане ніколі раскаяцца шчыра, да канца, а значыць, вымушаны насіць у сабе цяжкі груз грахоў пажыццёва..

Добрая арганізацыя быту ў доме — паказальнік парадку і ладу ў душы яго насельнікаў, і наадварот.

Нашы беларускія праваслаўныя ў пытаннях сваёй веры нясуць сёння, бадай што, двайны крыж, спрабуючы злучыць часам незлучальныя ментальныя рэчы, звязаныя са знешнім антуражам іх веры.

Здольнасць «вяшчаць» праразаецца ў чалавека разумнага толькі ў сталым веку з набыццём сапраўднага жыццёвага досведу, а значыць, і каштоўнай жыццёвай мудрасці. Гэтым багаццем хочацца падзяліцца, але тады жадаючых яго слухаць застаецца ўжо вельмі мала...

СЯБРЫНА

# «САЛІДАРНАСЦЬ — АДНА З НАШЫХ ГАЛОЎНЫХ МЭТАЎ»

◄ **Працяг. Пачатак на стар. 9 (1).**

Але мяне ўразіла смеласць беларускіх пісьменнікаў, іх адданая праца і жаданне адстойваць вольнае слова.

***— Спадарыня Эва другі раз праводзіць у нас семінары па дзіцячай літаратуры. Безумоўна, беларуская літаратура, у тым ліку і дзіцячая, вельмі мала цяпер перакладаецца, і вельмі цяжка замежніку мець аб'ектыўнае меркаванне пра тое, што мы ствараем, якія ў нас кнігі. Але ж падчас семінараў у вас была магчымасць назіраць за навучэнцамі, слухаць іх ідэі... Як вы ацэньваеце беларускі літаратурны патэнцыял?***

**Э.С.:** — Мне бачыцца, таленавітых творцаў у вас шмат. Але беларускія дзіцячыя пісьменнікі жывуць у значна больш складаных умовах, чым мы, і няма той свабоды, якую я маю ў сваёй прафесійнай дзейнасці ў Швецыі. Уражанне, што апроч усяго іншага, ёсць праблемы і з мэтавай групай — усё менш і менш дзяцей гавораць па-беларуску. Да ўсяго, выконваць задачы стварэння і пошуку мэтавай аудыторыі — гэта вельмі важна для пісьменніка. Калі я прыязджаю сюды, то стараюся паставіць сябе на месца беларускіх пісьменнікаў і аналізую сваё становішча ў Швецыі: які б лёс быў у мяне, калі б ад мяне чакалася так многа? Я лічу, што дзейнасць пісьменніка найперш палягае ў жаданні і магчымасці праз мастацкае слова данесці сваё адчуванне і ўспрыняцце свету, жыцця... Гэта ўжо — шмат. А яшчэ стаяць на барыкадах, мець нейкую грамадскасначную задачу!..

***— Прыемна адзначыць, што супрацоўніцтва са шведскай літаратурнай супольнасцю выліваецца ў цікавыя, адметныя літаратурныя праекты ў Беларусі. Варта згадаць хаця б тое, што датычыць дзіцячай літаратуры: па-беларуску выйшлі шэраг кніг Астрыд Ліндгрэн, Юі Вісландэр, навінка — «Снежны чалавек» спадарыні Эвы. Спадзяемся, і далейшыя стасункі будуць ладзіцца на карысць літаратуры, гэта значыць — на карысць чытача. Шчыра дзякуем вам за супрацу! Кожнае кантактаванне са шведскім бокам дае шмат ідэяў, шмат чаму вучыць...***

**Г.А.:** — Гэта вельмі прыемна. Мы таксама многаму вучымся, тое — ўзаемна.

**Э.С.:** — Так! Заўжды ты адлюстроўваеш сябе ў іншых людзях…



Эва Суса. Аўтографы на сустрэчы з беларускімі чытачамі

**Аўтар выказвае ўдзячнасць Н. Лабада за пераклад падчас гэтай гутаркі**

ВЕРШЫ

# СМАРАГДАВЫ ШАР

Аляксей АРЦЁМАЎ



Разумны, прыгожы, працаздольны, вельмі сціплы, схільны да перабольшванняў — так ён апісаў сябе сам.

Жыве малады літаратар у Туле, у Беларусі не быў, а вершы піша па-беларуску.

## Ляці, валавока!

*Я чую, як недзе далёка*
*Маленькая птушка пяе.*
*Вітаю цябе, валавока,*
*Вітаю напевы твае.*

*Агромністы свет над табою,*
*Нябёсаў бясконцы абшар*
*І поўная шчасця й спакою*
*Адвечнай прыроды душа.*

*Даўно ў гарадах мітуслівых*
*Я марыў пра тыя сады,*
*Дзе грушы ды жоўтыя слівы,*
*Дзе цёпла й утульна заўжды.*

*Шукаў іх у град і залеву,*
*Дарэмна хадзіў па зямлі*
*І толькі птушыныя спевы*
*Надзеі згарэць не далі.*

*Адолею ўсе перашкоды,*
*Каб радасць нарэшце знайсці.*
*Да сонца на крылах свабоды*
*Ляці, валавока, ляці!*

* * *

*Чаго няма? Маліцца ўсім багам*
*Не сорамна — я маю ўсё, што трэба,*
*Хоць мітусні дарэмная вага*
*Не дазваляе падымацца ў неба.*

*Што далячынь, калі сярод людзей*
*Багата слёзаў, і журбы, і стратаў.*
*А шчасця скарб ляжыць, ды толькі дзе?*
*Жыццё без змен, як клятва Гіпакрата.*

*Штодзёншчыны і вэрхала саюз...*
*Усё далей да прывіднага раю.*
*Нібы пад спіну палажылі друз,*
*І скура кожны камень адчувае.*

* * *

*Пацёртыя вокладкі кніг —*
*Салдаты ў палку на паліцы.*
*Забыць бы аб гэтай крыніцы,*
*Адмовіцца б толькі ад іх!*
*Пацёртыя вокладкі кніг.*

*Аддаць іх у краму назад*
*Ці полымю ў дар, як ахвяру?*
*Ня здзейсняцца гэткія мары,*
*І кнігі памілуе кат.*
*Не здаць іх у краму назад.*

*Старонкі тамоў не памруць,*
*Спаліць, загубіць — немагчыма,*
*Бо вечнасці пільнай пачынак*
*Няўлоўны, як вадкая ртуць.*
*Старонкі тамоў не памруць.*

*І словы мудрэйшых за нас,*
*І думак іх хітраспляценні*
*Лунаюць над намі, як цені,*
*А мы, як раней, увесь час*
*Баімся мудрэйшых за нас…*

* * *

*Душа мая — нявольніца:*
*І хочацца, і колецца*
*Прайсці па наваколлі ці*
*Глядзець у хісткі змрок*

*І слухаць, як пад клёнамі*
*Трава шапоча сонная*
*І пасмамі зялёнымі*
*Змякчае кожны крок.*

*Шаўковымі кілімамі*
*Плывуць дарогі-лініі,*
*Ды толькі змрок адрыне — і*
*Працягне час свой бег.*

*Хай застанецца лепшае —*
*Лісты, цыдулкі, вершыкі,*
*Сусвет святлом усцешаны.*
*І шчасце — для цябе.*

## Камінар

*Шпакі галілі крыламі паветра,*
*Гарэў заход прыгожы, як мана.*
*На вышыні недасягальных метраў*
*Хадзіў па дахах чорны камінар.*
*Блукаў штовечар ён без працы новай*
*І зразумець не мог, што ўсё дарма.*
*У джунглях гарадскіх шматпавярховых*
*Ёсць камінары — комінаў няма.*

*Жангліраваў кастрычнік жоўклым лісцем*
*Ды слухаў чалавек, як вецер ныў.*
*Замест жыцця надзеі засталіся,*
*Але каму патрэбныя яны?*

*І доўжыцца дасюль ягоны шпацыр,*
*І сумна ўніз глядзіць мурзаты твар...*
*Чаму ж нядаўна пачало здавацца,*
*Што й я — як гэты чорны камінар?*

* * *

*Калі ад спякоты сыходзяць у смерць караваны*
*І сонца падскварвае жвір на вялікай патэльні,*
*Я бачу раскосыя сківіцы аэрапланаў*
*Пад імі ляжыць акіян, як агромністы келіх.*

*Цудоўныя сны, хоць наяве было тут заўсёды*
*Сухотна і суха, зусім як бывае ў шпіталі.*
*Няма ні прагржу, ні элементарнай свабоды,*
*Хаця яе людзі, як страву ў кафэ, замаўлялі.*

*Але ж немагчыма так жыць! Будзьма разам змагацца*
*І верыць у літасць свяціла і ў моц нашай зброі!*
*Тады пераможам, і аэрапланы-пасланцы*
*Нас зноў забяруць у Вялікае Княства спакою...*

## Смарагдавы шар

*Тры тыдні без ветру й залевы...*
*У яблыні сохне душа*
*І чутна, як падае з дрэва*
*Маленькі смарагдавы шар.*

*І стук той нягучны навокал*
*Жахлівей за ўсё ды прасцей —*
*Галіны гатовыя ў спёку*
*Пазбавіцца ўласных дзяцей.*

*А жорсткасці гэткай прычына —*
*Ад тайнаў сусвету ключы,*
*Ды выпытаць іх немагчыма:*
*Ты мовіш — а дрэва маўчыць.*

*І жоўты лісток на галіне*
*Не скажа, які запавет*
*Мы людзям наступным пакінем.*
*Калі нас пазбавіцца свет.*

## Ліфт

*Кабіна ліфта едзе ўніз,*
*Трасы скрыгочуць у паўзмроку...*
*Ты пакідаеш парадыз,*
*Мне да яго яшчэ далёка.*

*Расстання нашага туга*
*Не закране цябе, я веру.*
*Я вінаваты сам — я лгаў,*
*А ты ўвайшла ў чужыя дзверы.*

*Што застаецца мне? Глядзець,*
*Як надвячорак тоне ў скрусе.*
*Я не чакаю новы дзень —*
*Дажыць да досвітку імкнуся.*

*Ды прыйдзе ранак. І тады*
*Пазбавіць ён мяне спакою:*
*Кабіна ліфта назаўжды*
*Зачыніцца перада мною.*

*

*Дзе тая зорка,*
*Што асвятляла мой шлях?*
*Цёмнае неба.*

*

*У лістах маіх*
*Ужо няма лішніх слоў.*
*Адны шматкроп'і.*

*

*Стары музыка.*
*Скрыпка пяшчотна пяе,*
*Хоць дождж за акном.*

*

*Сняжынкі на шкле.*
*Быццам мароз студзеня,*
*Тваё дыханне.*

*

*Чорны парасон,*
*Стары брызентавы плашч...*
*Ці скончыцца дождж?*

*

*Нябесны блакіт.*
*Вясною і ў горадзе*
*Красуе ландыш.*

*

*Прыступкі царквы.*
*Бессмяротнасць з невуцтвам*
*Стаяць тут побач.*

* * *

*Краіна надзеяў і мрояў!*
*Чакаю цяпер, каб ізноў*
*Твае маладыя героі*
*Паўсталі з сівых курганоў.*

*Яны павыходзяць з сутоння,*
*Уздымуць яны вольны сцяг.*
*Нязгасная зорка Пагоні*
*Асвятліць аціхлы абсяг.*

*Нарэшце адродзіцца мова,*
*Каб запанаваць на зямлі...*
*Пачнецца, я веру, нанова!*
*Абудзіцца! Толькі калі?*

# ПАТРЫЯСЛОВЫ

Зміцер КУЗЬМЕНКА

## Наведнікам Лініі Сталіна



***У ноч з 29 на 30 кастрычніка 1937 года ў сутарэннях мінскай унутранай турмы НКУС было расстраляна каля 100 чалавек. Амаль усе — прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі. Сярод расстраляных — 22 пісьменнікі... А крыху раней, жнівеньскім днём, на турэмным двары было спалена некалькі дзясяткаў тысяч канфіскаваных рукапісаў...***

*Дваццаць два. У адну толькі ноч.*
*Мо, і сёння жалезныя краты*
*Помняць рэзка-загадныя «Кроч!»*
*І халодныя позіркі катаў.*

*Дваццаць два. У падвал. На расстрэл.*
*Ад жуды аж мурашкі па скуры.*
*Раз за разам даносіўся стрэл*
*У патыліцу літаратуры.*

*А ў гнятлівым турэмным двары,*
*Адпаведна з прысудам суворым,*
*Інквізітары новай пары*
*Пасылалі на вогнішча творы.*

*Кажуць, рукапісы не гараць...*
*Толькі словы прыгожыя гэта.*
*Бо гараць яны ў зыркіх кастрах,*
*Там, дзе кат выпішчае паэтаў.*
*І ўзнімаліся з дымам шматкі*
*На вачах ачарсцвелых забойцаў.*
*Нажывую палілі радкі —*
*Забівалі пісьменнікаў двойчы.*
*І ні помнікаў ім, ні крыжоў.*
*І ніяк не ўцячы ад задухі,*
*Ад тугі ненапісаных слоў*
*У прастрэленых кулямі душах.*

## Апрычнікі

*Пэўна ўжо, такі закон прыроды,*
*Змацаваны тысячамі ран:*
*Знойдуцца апрычнікі заўсёды,*
*Як на троне з'явіцца тыран.*

*Непрыкметна ціхія дагэтуль,*
*Невукі, дапяўшы да пасад,*
*Выканаюць з радасцю за гэта*
*Нават самы жудасны загад.*

*Будуць шчыраваць і без загаду,*
*Каб сваю адданасць паказаць.*
*Выгрызаць прыдуманую здраду,*
*Іншадумства чыста вымятаць.*
*Будуць услаўляць тырана гучна,*
*Называць празрыстай каламуць...*
*А калі настане момант зручны —*
*Першымі ж тырана прададуць.*
*І напішуць успаміны потым,*
*Як нягоднік, кат і цемрашал*
*Ледзьве не штодзённа іх, гаротных,*
*Да нядобрых справаў прымушаў...*
*Так і дажывуць беспакарана,*
*Ціха скончаць лік гадам сваім.*
*Знікнуць. Да наступнага тырана,*
*Каб ізноў з'явіцца разам з ім.*

* * *

*Скрозь і заўжды беларус вінаваты*
*Ў тым, што насмеліўся выбіцца з хаты.*
*Вось і сядзеў на халоднай падлозе*
*За сваю волю ў расейскім астрозе.*
*За сваю мову — у польскай вязніцы.*
*За сваю долю — у злой камяніцы.*
*За непакору, за погляд бунтоўны —*
*У фашыстоўскай крывавай катоўні.*
*Сталінскім лагеры. Карцэры-БУРы.*
*Энкавэдысцкім засценку панурым...*
*Колькі адседжана тэрмінаў лютых.*
*Колькі стрывана нялюдскіх пакутаў.*
*Выцерпеў, быццам, усё да астачы.*
*Толькі хто мог бы такое прадбачыць,*
*Што давядзецца сядзець яму хутка*
*За Беларусь у турме беларускай.*

ВІДАРЫСЫ

# «СТРАШНА ВЫМАВІЦЬ»

*Алесь ПАШКЕВІЧ*



Фота У. Клімовіча

***

Праз некалькі месяцаў споўніцца 80 гадоў найстарэйшай творчай арганізацыі Беларусі — Саюзу беларускіх пісьменнікаў…

Дзесяцігоддзямі літаратараў і чытачоў прывучалі да таго, што ідэя аб арганізацыі агульнай пісьменніцкай суполкі прыйшла ў сталінскую галаву: маўляў, з таго часу і аб'ядналіся ў адну сям'ю (ці ў адзін літкалгас) інжынеры чалавечых савецкіх душаў — з памятнага 1933-га (пастановы ЦК кампартыі) ды 1934-га (устаноўчыя з'езды). Так, нібыта, было і з СП БССР, і з СП СССР…

Аднак нават бальшавіцкая цэнзура напачатку «не заўважала» тых фактаў. Напрыклад, у 1927 годзе — калі ў Беларусі станавіліся на крыло пісьменніцкія аб'яднанні «Маладняк» і «Узвышша», выходзіць кніга мемуараў Анатолія Марыенгофа «Роман без вранья», у якой згадвалася пра "дзве пісьменніцкія лаўкі", дзе «таргавалі Асоргін, Барыс Зайцаў, Уладзіслаў Хадасевіч, прафесар Бярдзяеў і яшчэ нехта са старога «саюза пісьменнікаў»». Тое ж сустракаем і ва ўспамінах «Повесть о сестре» згаданага М. Асоргіна: «…наша лаўка, якая была пад крылом Усерасійскага саюза пісьменнікаў і неяк ацалела, абслугоўвала ўсю Маскву і ўсю Расію».

Усерасійскі СП быў створаны ў 1922 годзе на падмурку Дома літаратараў, які восенню 1922-га не атрымаў ад ЧК-ГПУ дазволу на перарэгістрацыю і быў (так-так!) забраны-зачынены. УСП, у які ўваходзілі Ф. Салагуб, Г. Ахматава, А. Блок, М. Гумілёў, Я. Замяцін, К. Чукоўскі і маладзейшыя аўтары з 33-гадовым Л. Ляонавым на чале (усіх членаў — каля 200), праіснаваў да 1932 года — да пачатку агульнай пісьменніцкай «калектывізацыі».

Усерасійскі Саюз пісьменнікаў — «пасаджоны» бацька сваім наступнікам-аб'яднанням, звыклым вуху ў колішняй адной шостай частцы планетнай зямлі. А былі ж яшчэ і «дзяды-прадзеды»… Адзін з першых пісьменніцкіх саюзаў на тэрыторыі былога Савецкага Саюза быў заснаваны ў 1874 годзе ў Маскве і называўся «Таварыства рускіх драматычных пісьменнікаў і оперных кампазітараў» (паказальна, што напачатку ў створаны Саюз савецкіх пісьменнікаў БССР асобнымі «фракцыямі» напачатку ўваходзілі і кампазітары, і тэатральныя дзеячы). Галоўнай мэтай «Таварыства…» стала абарона аўтарскіх правоў.

А ў 90-х гадах таго ж XIX ст. у Расійскай імперыі існаваў «Саюз узаемадапамогі рускіх пісьменнікаў і вучоных». У яго ўваходзілі найбольш значныя літаратары таго часу. Антона Чэхава, да прыкладу, прынялі ў «Саюз…» у 1897 годзе. І Чэхаў называў арганізацыю «Саюз пісьменнікаў» (гл. яго лісты да пісьменніцы Л. Авілавай). Цікава нагадаць і такое прызнанне А. Чэхава: «У з'ездзе пісьменнікаў удзельнічаць я не буду. Восенню буду ў Крыме ці за мяжой, канечне, калі буду жывы і на волі». Гэта — таксама з ліста да Л. Авілавай. А з'езд Саюза ўзаемадапамогі рускіх пісьменнікаў прызначаўся на восень 1899-га — і не адбыўся: не дазволіла Міністэрства ўнутраных спраў!

Тым не менш, дзейнасць згаданага «СП» была актыўнай. Так, 4 сакавіка 1901 года ў Пецярбурзе паліцыя і войскі напалі на безабройных грамадзянаў. Былі арышты, высылкі — асабліва моладзі, студэнтаў. І вось 39 членаў Саюза ўзаемадапамогі рускіх пісьменнікаў звярнуліся да міністра ўнутраных спраў расійскай імперыі з рэзкім пратэстам супраць гвалту. Затым з'явіўся «Ліст рускіх пісьменнікаў у рэдакцыі газет і часопісаў», які падпісалі 43 члены згаданага «СП», сярод якіх быў і Максім Горкі. Пасля гэтага і ў асяродку пісьменнікаў царская ўлады правялі арышты. А неўзабаве — 12 сакавіка таго ж года — па распараджэнні пецярбургскага «градоначальника» Саюз узаемадапамогі рускіх пісьменнікаў быў забаронены і ліквідаваны.

«Нам, ніжагародцам, яшчэ ўляціць за дасланую намі тэлеграму з выказваннем спачування Саюзу», — напрыканцы сакавіка 1901 года прызнаваўся ў лісце да Антона Чэхава Максім Горкі — які праз 33 гады ўзначаліць новаствораны сталінскі Саюз савецкіх пісьменнікаў СССР і… зноў адчуе на сабе новы — устакроць мацнейшы — «царскі» ціск.

***

Бліжэйшы прататып Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР — Беларуская асацыяцыя пралетарскіх пісьменнікаў, якая паўстала на тле панішчаных літаратурных аб'яднанняў «Маладняк» і «Узвышша», падчас пагрому нацыянальнай літаратуры ў 1929–1930 гадах, калі ГПУ арыштавала некалькі дзясяткаў беларускіх пісьменнікаў — па сфальсіфікаванай справе Саюза вызвалення Беларусі. Напрыклад, Уладзімір Дубоўка, Язэп Пушча, Нічыпар Чарнушэвіч патрапілі ў «секцыю тэрарыстаў», Адам Бабарэка — у «секцыю моладзі». Тады ж пачалося цкаванне Янкі Купалы і Якуба Коласа ды інспіраваліся іхнія «пакаяльныя» лісты…

У 1929-м — у разгар газетнай кампаніі супраць т.зв. беларускага нацыянал-дэмакратызму — Максім Гарэцкі прапанаваў Янку Купалу і Якубу Коласу выказацца супраць бальшавіцкага пагрому нацыянальнай культуры. Ён нават заклікаў іх у знак пратэсту адмовіцца ад падараванага ім бальшавікамі звання народных паэтаў (Янка Купала атрымаў яго ў 1925-м, Якуб Колас — у 1926-м). Якуб Колас, як згадваў пазней Антон Адамовіч, адмовіўся ад той прапановы. Янка Купала ж згадзіўся, але затым — пад уплывам жонкі — таксама адмовіўся. Пасля гэтага Максім Гарэцкі разарваў з песнярамі былыя дачыненні і дэманстратыўна адаслаў Купалу і Коласу іхнія кнігі з узнёсла-дарчымі аўтографамі…

***

У «Окаянных днях» Іван Бунін (1919 год) прызнаваўся: «Па загадзе самога Архангела Міхаіла ніколі не прыму бальшавіцкага правапісу. Хоць бы ўжо праз тое, што ніколі чалавечая рука не пісала нічога падобнага на тое, што пішацца цяпер гэтым правапісам». Ці не тое ж належыць сказаць і пра беларускую «наркамаўку»? Як — і пра нашае «дзвюхмоўе», асабліва — у галіне культуры. «Пішыце на той мове, з якой нарадзіліся і выраслі. Дзвюх моваў чалавек ведаць не можа. Разумееце: знаць, адчуваць усялякую найменшую драбязу, усялякае адценне… Што можаце вы, напрыклад, падміргнуць чытачу па-французску?». Цытата, зноў жа, з Івана Буніна.

***

Здараецца, што і ў славутых раманістаў-біёграфаў лёсы — раманныя. А ў некаторых — і з «беларускім акцэнтам»…

Найвялікшае каханне Эміля Эрзога, члена Французскай акадэміі, больш вядомага як класіка «раманна-біяграфічнага» жанра Андрэ Маруа, — дзяўчына Жанін Шымкевіч. Ейны бацька — абруселы беларус. Жанін яго, зрэшты, ніколі не бачыла, а чула пра таго ад строгай бабулі і «ветранай» маці. Жылі яны ў Жэневе — «дзіўна» для пурытанскай Швейцарыі…

Андрэ Маруа пазнаёміўся з Жанін Шымкевіч у тэатральным парку О-Віў. Ёй было 17 гадоў. Будучага пісьменніка ўразілі найперш ейныя сінія даверлівыя вочы… Затым быў тэатр, садовая лаўка, размовы, абдымкі…

Андрэ Маруа застаўся ў Жэневе не на два дні, як планаваў, а на тыдзень — і не вярнуўся ў Францыю на бацькаву фабрыку. І развітаўся са сваёй каханкай Сюзанай, якой зняў у Парыжы невялікую кватэру. Ён наведваў Жэневу кожны тыдзень: днём вёў перамовы з гандлёвымі партнёрамі, а вечары прысвячаў Жанін. Чакаў ейнай паўнагадовасці, накіраваў дзяўчыну вучыцца ў ангельскі каледж, аплочваў рахункі. І кожны дзень атрымліваў ад Жанін лісты.

Нарэшце — пажаніліся. Вайна… Жанін нарадзіла траіх дзяцей і памерла ад сепсіса на пятым месяцы чарговай цяжарнасці. З бацькам засталіся Мішэль і пагодкі Аліўе і Жэральдо. Перад смерцю Жанін спаліла ўсе свае лісты да мужа…

Калі Андрэ Маруа праз два з паловай гады ажаніўся ў другі раз, ён не дазваляў дзецям называць сваю новую жонку мамай…

***

Пасля дзвюх жонак (Яўгеніі Лур'е і Зінаіды Нейгаўз) музай Барыса Пастэрнака стала Вольга Івінская (да сустрэчы з пісьменнікам таксама была двойчы ў шлюбе). Каханне прыпала на новую хвалю бальшавіцкага тэрору. Рассыпаюць падрыхтаваны да друку зборнік «Выбранае» Барыса Пастэрнака. А вечарам 6 кастрычніка 1949 года на кватэру да Вольгі прыйшлі… Арышт, следства. Жанчына — цяжарная, на 5-м месяцы. Праз некалькі месяцаў Пастэрнака таксама выклікаюць на Лубянку. Пісьменнік упэўнены, што яму аддадуць дзіця. Аднак аддаюць… толькі ягоныя кнігі з чуллівымі надпісамі, канфіскаваныя ў Вольгі падчас вобыску. Вольгу ж палохалі, што Пастэрнак таксама арыштаваны. А аднаго разу павялі на сустрэчу з ім… праз мноства падземных калідораў — ва ўнутраны двор Лубянскай трупярні. На нарах ляжалі накрытыя дзяругамі нябожчыкі. Вольгу там зачынілі… Шукаць каханага не асмелілася. Страціла прытомнасць. У выніку — выкідыш… Ачуняла ўжо ў турэмнай бальніцы…

***

Сталіна і Гітлера першым з пісьменнікаў «прыраўняў» ці не Альбер Камю (якому ў сёлетнім лістападзе споўнілася б 100 гадоў). «Усе сучасныя рэвалюцыі прывялі адно да ўзмацнення Дзяржавы. 1789 год прывёў за сабой Напалеона… 1917 — Сталіна, хваляванні 20-х гадоў у Італіі — Мусаліні, Веймарская рэспубліка — Гітлера», — пісаў ён.

Напалову маладзейшая за Камю Паліна Дашкава прыйшла — і аргументавана — да глыбейшага: Сталін вучыўся ў Гітлера. «Адольф быў адзіным у свеце чалавекам, якога крымінальнік Сосо паважаў і лічыў роўным сабе, вялікаму»… (гл. раман «Пакт»).

А што пра колішніх дыктатараў напішуць яшчэ праз 50 гадоў!..

***

Цытата з выдадзенай у 1949 годзе «Алеф» Хорхэ Луіса Борхеса: «…я — бог, я — герой, я — філосаф, я — дэман, я — увесь свет, насамрэч жа гэта стамляльны спосаб сказаць, што мяне як такога — няма».

Так і жыццё — ці не нейчая цытата, якую мы прымаем за свой тэкст. Згадваецца беларускі філосаф Валянцін Акудовіч ды яго эсэ-тэза «Мяне няма»…

Зрэшты, яшчэ раней — у 1921-м — Ілля Эрэнбург напісаў раман «Незвычайныя пахаджэнні Хулія Хурэніта і яго вучняў», у якім можна прачытаць: «О, праўду казаў Хурэніта, даказваючы мне, што нічога няма, што няма нават, страшна вымавіць, чалавека!»…

Дык хто ж і што — у астатку — застаецца?

***

Чуючы сённяшні плач аб чытацкай няўвазе ды нараканні аб малых накладах беларускай літаратуры, хочацца працытаваць словы Мікалая Гогаля, моўленыя яшчэ ў 1835 годзе: «Выявілася вельмі яскрава ўсеагульнае раўнадушша да паэзіі». Ці нагадаць наступнае: наклад «Литературной газеты» ў XIX стагоддзі, калі ў ёй супрацоўнічаў Аляксандр Пушкін, быў, як згадваў Мікалай Пагодзін, «едва сто»… А знакаміты ў гісторыі расійскай літаратуры часопіс «Современник» меў у той час каля пяцісот падпісчыкаў; часопіс «Европеец», дзе друкаваліся расійскія літаратурныя аксакалы Жукоўскі, Языкаў, Баратынскі, Пушкін, налічваў іх… пяцьдзясят! І аніхто тады нават не сніў пра электронную кнігу ды інтэрнэт…

**Працяг — у наступным нумары.**

ПАРАЛЕЛІ

# ПАКАРАННЕ БЕЗ ЗЛАЧЫНСТВА

## БЕЛАРУСКАЯ ТУРЭМНАЯ ПАЭЗІЯ

Арнольд МАКМІЛІН

**У Беларусі цягам XX і XXI стагоддзяў многія людзі былі пакараныя пазбаўленнем волі за «злачынствы», якое палягала ў супраціўленні палітычным сістэмам або абароне свабоды нацыянальнай і рэлігійнай меншасці. Так было за царамі, калі Беларусь называлі Паўночна-Заходнім краем Расійскай імперыі; паміж 1921 і 1939 гадамі, калі Заходняя Беларусь была пад уладай Польшчы; да і пасля Другой сусветнай вайны ў Савецкай Беларусі і, вядома, падчас апошніх васямнаццаці гадоў аўтарытарнага кіравання.**



У гэтым артыкуле разглядаецца паэзія тых, хто зазнаў турэмнае зняволенне, а не раптоўнае знішчэнне, напісаная (ці ў некаторых выпадках вывучаная напамяць для пазнейшага запісу) у турме (тут да яе прыраўнаны і ГУЛАГ). Стаўленне вязняў да палону вагаецца ад непадпарадкавання да адчаю, у іх творах ёсць мноства параўнанняў з навакольным светам і апраўданая трывога за тое, што там адбываецца. А найперш — воля выжыць, не ў апошнюю чаргу з дапамогай занатоўвання свайго досведу ў літаратурнай форме. Сярод гэтых вязняў — самыя розныя людзі: ад Якуба Коласа, аднаго з народных паэтаў Беларусі, да некаторых творцаў, чыя літаратурная слава грунтуецца ў асноўным на вершах, якія яны напісалі пра турму.

Сярод самых распаўсюджаных тэмаў, што нядзіўна, нараканні на суровы лёс і фізічную брутальнасць, абураны пратэст, выклік і адроджанае пачуццё патрыятызму. Галоўны падзел пралягае паміж беларускай літаратурай, напісанай у турмах цяперашняга рэжыму, і напісанай у польскіх, літоўскіх ды беларускіх турмах, а таксама ў савецкім ГУЛАГу.

Два вельмі розныя вязні красамоўна напісалі пра свой досвед у часе станаўлення сучаснай беларускай літаратуры. Якуб Колас супрацьўляўся царскай уладзе і быў неўзабаве зняволены ў цэнтральным астрозе Мінска, а яго малодшы сучаснік Алесь Гарун зрабіў палітычную «памылку», пайшоўшы за генералам Пілсудскім, — і цягам многіх дзесяцігоддзяў яго імя нельга было згадваць у Савецкім Саюзе ў сувязі з яго апазіцыяй бальшавікам. Алесь Гарун быў сасланы ў Сібір яшчэ ў часе Расійскай імперыі — пасля зняволення ў Менску і Вільні.

У вершы «Ноч у астрозе» (1908) Якуб Колас відавочна знаходзіцца ў маркотным і разгневаным стане, калі параўноўвае знаходжанне ў турме з цеснатой труны ці магілы, але побач з тым робіць больш арыгінальную літаратурную заўвагу, параўноўваючы турэмны калідор з разяўленай пашчай змяі; ён таксама апісвае некаторыя змрочныя фізічныя дэталі, як, напрыклад, звон парашы...

Паэзія Алеся Гаруна значна больш эмацыйная, бо ён згадвае ўсё страчанае і наракае не толькі на свой лёс, але і на тое, што лічыць пакараннем усёй Беларусі; ён нават просіць сваю каханую не пісаць яму, бо яе лісты нагадваюць яму пра шчаслівае мінулае (аб чым мы чытаем у вершы «Ёй»):

*Хачу прасіць... Найлюбшая,*
*святая!*
*Пакінь пісаць ты мне...*
*Забудзься... Не пішы!..*
*Каб знала ты, як мыслі*
*аб няволі*
*Пасля тваіх лістоў яшчэ цяжэй*
*гнятуць...*

Алесь Гарун, вялікі паэт, які доўгі час не публікаваўся савецкай уладай, піша пра сваё жыццё ў расійскіх турмах, спалучаючы яркія дэталі і красамоўны лірызм.

Язэп Германовіч (1890–1978), які стварыў пад псеўданімам Вінцук Адважны, у 1962 годзе напісаў справаздачу аб сваіх падарожжах «Кітай, Сібір, Масква», а праз два гады выдаў твор, які назваў сучаснай казкай у вершах, — «Князь і лапаць». На пачатку аднаго з раздзелаў апошняй, названага «Сібір», ён падкрэслівае вялікую разнастайнасць выгнаных народаў (А. Салжаніцын зрабіў тое самае шляхам увядзення сімвалічных персанажаў у свой расповед пра адзін дзень Івана Дзянісавіча).

Вінцук Адважны — не толькі смелы, але і высокадухоўны чалавек, які ў далейшыя гады быў святаром у грэка-каталіцкай парафіі ў лонданскім Фінчлі. Яго вершы простыя, напісаныя ў рыфмаваных куплетах, вельмі апісальных, але забаўляльных, хоць і аднастайных з пункту гледжання вершаскладання.

Сяргей Новік-Пяюн (1906–1994) быў спярша зняволены палякамі, пасля нямецкімі захопнікамі, пакуль, урэшце, не быў накіраваны Сталіным у савецкія лагеры. Ён правёў каля паловы свайго жыцця ў няволі. Не меў пісьмовых прыладаў і быў вымушаны запамінаць свае вершы, каб рэканструяваць іх пазней у зборніку «Песні з-за кратаў», упершыню апублікаваным у год іх смерці. Шчаслівыя згадкі пра Беларусь і ўспаміны пра каханую, расстраляную немцамі, спалучаюцца ў яго тых творах з меланхоліяй і адчуваннем слабасці ды фізічнага заняпаду. У вершы «З крыві беларускай», напісаным у 1945 годзе ў Якуціі, ён сцвярджае, што Беларусь заваявала свабоду і застанецца свабоднай назаўсёды. Вось апошнія дзве страфы:

*Няволя моц духу нічуць не зламіла,*
*Надзеі і веры агонь не пагас.*
*Пазнае йшчэ вораг крывіцкую сілу,*
*Як прыйдзе расплаты апошняе*
*час.*

*Наперад ісці незалежніцкім*
*шляхам*
*Наказваем дзецям і ўнукам сваім*
*Пад бел-чырвон-белым крыўскім*
*мы сцягам,*
*Пад знакам крывіцкай Пагоні*
*святым.*

Некаторыя з палымяных патрыятычных вершаў Сяргея Новіка-Пеюна, у тым ліку гэты, з мноствам згадванняў беларускіх сцягоў ды іншых сімвалаў, пазней сталі вельмі папулярнымі песнямі — хоць і не карысталіся папулярнасцю ў савецкай ці, фактычна, постсавецкай улады.

Ларыса Геніюш (1910–1983), беларуская паэтка, якая пісала вершы і ў Сібіры, была, без сумневу, найбуйнейшай літаратурнай постаццю. Яе жыццё і лёс, як вядома, надзвычай цяжкія. Вярнуўшыся пасля уцякацтва ў часе Першай сусветнай вайны з Расіі на радзіму ў 1919 годзе, яна рушыла ўслед за мужам у Прагу ў 1937-м, адкуль была выкрадзеная супрацоўнікамі НКВД у 1948 годзе ды сасланая ў Сібір. Напісаны на пачатку 1950-х гадоў верш «Крывёй напоўніліся поймы рэк...» дае яркую карціну калоны зняволеных жанчын, у якой паэтка адчувае сябе як дзёрзкая ваўчыца, поўная пачуццяў да Беларусі, падкрэсленых выклічнікамі, хоць «ланцуг накінулі на шыю салаўю». Вось першыя дзве страфы:

*Крывёй напоўніліся поймы рэк,*
*Бурліць адчаем слёз людскіх*
*разводдзе.*
*Гляджу на свет. Я — лагернік,*
*я — зэк,*
*Засуджаны на мукаў чвэрць*
*стагоддзя.*

*Мяне драты, сабакі сцерагуць,*
*Дзікіх надзораў зграя нада мною,*
*І лоб штодня мой на прыцэл*
*бяруць*
*Навучаныя забіваць канвоі.*

Ларыса Геніюш выяўляе не менш сілы духу, чым мужчыны — перад абліччам жудасных умоваў. Многія яе вершы пра суровасць існавання ў Сібіры паказваюць яе чалавечнасць у дачыненні да іншых і бясконцую асабістую мужнасць — якасці, якія засталіся з ёй, калі ў 1956 годзе паэтэсе было дазволена вярнуцца ў Беларусь, хоць і не рэабілітаванай.

Многія нацыянальна свядомыя беларусы ў Заходняй Беларусі былі зняволены польскай дзяржавай, і чацвёра з іх падзяліліся сваімі ўражаннямі ў літаратурнай форме. Найбольш значным паэтам быў Максім Танк (1912–1995), які заклікаў да супраціву ў даволі напорыстым вершы «Не забывай» (1934), прапаноўваў (літаральна) перапіліць і разарваць сталёвыя ланцугі ды сцены з калючым дротам. Верш гэты ўпэўнена гаворыць пра будучую перамогу.

Валянцін Таўлай (1914–1947) — паэт, які планаваў перапіліць паэзіяй краты сваёй турмы. Ён быў зняволены ў вязніцы за творы, якія, як ён распавядае ў вершы «Аб маіх вершах» (1941), шпегі параўналі з дынамітам.

У вершы «Апошняе слова» (1929) Валянцін Таўлай таксама спадзяецца, што яго ныя вершы будуць чытаць на барыкадах супраціўлення. Нарэшце, у журботным вершы «Мінуў астрожны дзень», напісаным таксама ў 1929 годзе ў сумна вядомай Лукішскай турме ў Вільні, ён кажа, што яго ныя нягоды кідаюць цень на далікатную форму яго ных вершаў, калі заканчваецца яшчэ адзін дзень жыцця ў турме:

*Жалоба цень кладзе*
*на верша тонкі стан:*
*яшчэ адзін мой дзень*
*сканаў, як арыштант.*

Міхась Машара (1902–1976), яшчэ адзін палітвязень Лукішкаў, у простым вершы «Гэй, браточкі, з мур-званіцы...» (1927) таксама заклікае буру знішчыць яго ную вязніцу, а зняволеныя прытым мусяць дапамагчы ёй, гучна грукаючы па сценах, быццам звонячы ў званы і спяваючы песні пра свабоду, падобныя да навальніцы.

Чацвёртым з паэтаў, зняволеных палякамі, быў Хведар Ільяшэвіч (1910–1948). Ён пражыў амаль гэтаксама мала, як і Таўлай; яго ныя вершы былі сабраныя пасмяротна. Ён шмат часу правёў на Лукішках, але пакінуў параўнальна няшмат вершаў пра турму. Ён распавядае пра ноч як асабліва цяжкі час, марыць пра родную вёску і лугі... Паэт апісвае маладыя кветкі, што вянуць у турме праз адсутнасць сонца, святла і расы, параўноўвае іх з сабой...

Астатнія паэты — належаць да эпохі Лукашэнкі. Славамір Адамовіч (нар. у 1962), які рэзка выступае супраць рэжыму, напісаўшы верш на расійскай мове «Убей президента!». У турме ён апісаў галадоўку, падчас якой нібыта пабачыў у галюцынацыі Воланда з рамана «Майстар і Маргарыта» Міхаіла Булгакава: «Вітальныя галюцынацыі на выхадзе з галадоўкі». Турэмны дзённік С. Адамовіча, як і кніга У. Някляева «Лісты да Волі», змяшчае элементы гумару, у прыватнасці, у вершы «Не гані пургу, начальнік...».

Уладзімір Някляеў (нар. у 1946) — складаны і амбітны паэт, які заслужыў прызнанне, сярод іншага, за багатае ўяўленне і адметныя вобразы сваёй паэзіі. Ён таксама вядомы як кандыдат у прэзідэнты Беларусі на выбарах у снежні 2010 года, калі ён быў жорстка збіты, выкрадзены са шпіталя і кінуты ў турму КДБ на праспекце Незалежнасці.

Найбольшым унёскам У. Някляева ў тэму турмы стала кніга вершаў, якія ён напісаў жонцы ў часе свайго тэрміну пазбаўлення волі, «Лісты да Волі» (2011). Гэта — шэдэўр, які часам нагадвае во багатыя на ўяўленчыя знаходкі апавядальныя паэмы. С. Адамовіч у турме разважае пра сэкс і каханне даволі празаічна, а вобразы, створаныя У. Някляевым у «Лістах да Волі», вызначаюцца незвычайнай складанасцю.

У кнізе ёсць шмат выпадкаў гульні з імем яго жонкі і словам «воля» ў значэнні «свабода». Сапраўды, галоўная тэма ў гэтай кнізе, — воля і яе сувязь з паэтавай жонкай. Паэт марыць пра сэкс і тое, як Воля народзіць сваё імя, г. зн. свабоду, але прачынаецца, каб знайсці сябе ў абдымках турмы, якая, як ні дзіўна, пытаецца, ці яна мусіць апладніць яго ную жонку ў клетцы...

Свабода і Бог дамінуюць у фінале гэтага цыкла вершаў. Свабода — гэта не тое, што трэба любіць, а тое, што неабходна, як вада ў смагу. Турма і свабода нішто ў параўнанні з Богам, кажа паэт, а кроў, пралітая за свабоду, больш каштоўная за любую іншую. Просячы ў Бога прабачэння, паэт робіць відавочна аптымістычную выснову аб тым, што свабода выкļівае нават у турме. Ён таксама ярка апісвае гукі няшчасця і пакутаў у фізічнай турме, заканчваючы старажытным праклёнам, які атачае беларусаў:

*І з дальніх лёхаў даляцеў*
*Задушны стогн, жалобны спеў*
*Усіх*
*загнаных у скляпенні,*
*Тых,*
*хто пракляты ў пакаленнях*
*Праклёнам даўніны сівой:*
*«Бадай бы вам цягаць каменні*
*На дом чужы, а не на свой!»*

У гэтай сувязі можна адзначыць, што на пачатку сваёй кар'еры У. Някляеў атрымаў вельмі пачэсную прапанову выдаць кнігу расійскамоўных вершаў у Маскве, але адмовіўся ад ідэі цягаць каменне на чужую хату і, несумненна на шчасце, вырашыў пісаць толькі на беларускай мове…

Няшчасны лёс Беларусі прывёў да стварэння значнай колькасці літаратурных тэкстаў, створаных у турме і пра турму. З чыста літаратурнага пункту гледжання, фантастычная сіла ўяўлення Уладзіміра Някляева прывяла да стварэння самых выбітных з літаратурнага гледзішча твораў, у той час як вершы Ларысы Геніюш пацвярджаюць мужнасць і пакуты жанчыны ў турме. Іншыя паэты перадаюць рэальнасць турмы мінулага больш, чым тое зроблена ў творах, напісаных пры цяперашнім рэжыме. Пакаранне ўсіх паэтаў, згаданых тут, несумненна, жахлівае злачынства, але літаратурныя яго «наступствы» заўсёды цікавыя, а ў некаторых выпадках маюць сапраўдную культурную каштоўнасць.

Друкуецца ў скароце

ДРУК

# «ПРАНІКНІСЯ АДКАЗНАСЦЮ ЗА ЧАС»: «ДЗЕЯСЛОЎ, № 66»

ЛеГАЛ

**Ну вось неўпрыкмет і насунулася пахмурная пара восеньскай слоты і халоднага роздуму над жыццём. Як па мінулым маім часе, дык гэта якраз і была пара зануранага вечаровага кніжнага чытання. Але дзе той час і дзе тыя кнігі?**




Зрэшты, нават тады, на самым пачатку 80-х, далёка гледзячы з вышыні электрычнага слупа, я пісаў: *«так мала чытачоў, і тыя ўсе — паэты»*… Як у ваду глядзеў. Ды і не адзін я тое ведаў. Але бальшавікі неяк ідэалагічна адцэньвалі гэтую ўвагу іншым, умела скрашваючы і прыхарошваючы жыццё і быт сваіх пісьменнікаў.

Сёння ж нават існаванне прыўладных летапісцаў, можна сказаць, аніяк не заўважаецца іх ідэйным бацькам. Ні табе дармавой кніжкі, ні мусова да яе прыстаўленых чытачоў. Адным словам, жыві напісаным…

То хто чым можа, тым і жыве. Надоечы зацікавіўся праграмай канала «Беларусь-3» (культура). Заўважыў ранішнюю перадачу «Дыя@блог» (пра літаратуру). Думаю, дай зірну, пабачу-паслухаю, раптам што цікавае скажуць. Уключыў, а там маладая расійскамоўная вядучая абмяркоўвае з літаратаркамі Таццянай Сівец і Вольгай Тарасевіч праблему беларускамоўнай і расійскамоўнай літаратуры і рэалізацыю кніжак. Ну, я вам скажу, таго, што я пачуў ад Тарасевіч, мне хапіла, каб адразу ж выключыць тэлевізар… Яна натуральна і сур'ёзна параўноўвала рэалізацыю пяльменяў і кніжак (упакоўкі і вокладкі)! Сівец, хоць і скрывілася, і ўставіла сваё *«ну, як можна параўноўваць духоўнае і матэрыяльнае»*, але ўсё адно ў атачэнні прарасійскіх жанчын глядзелася сіратліва і безабаронна. Ёсць, на жаль, у нас і такая вось культура...

«Дзеяслоў» яшчэ чытаюць. Не толькі яго аўтары. І, трэба сказаць, ёсць што. І хоць гэты нумар візуальна праектуе д'ябальскую сімволіку (66), насамрэч яго мастацкі пасыл ідэйна гуманістычны.

Зрэшты, запеўка **(апавяданне Уладзіміра Някляева «Барыбэры»)** нечым гэткім містычнавядзьмарскім усё ж аддае (булгакаўшчынай, у добрым сэнсе). Жыццёвая, лёгка-артыстычная фантасмагорыя беларускай гісторыі, замяшаная на трох апошніх стагоддзях яе існавання, з вельмі яркімі і пазнавальнымі вобразамі, літаратурна-культуралагічнымі экскурсамі і адсыламі. Славянскія бясконцыя разборкі ў пошуках ісціны і свайго самасцвярджэння, найперш у шэрагах культурнай эліты, вельмі дасціпна і трапна накладваюцца на нашу сучасную грамадска-палітычную і культурную сітуацыю. Твор таленавіты. (Адзінае, як на мой густ, у аўтара ёсць некаторы перабор з іранічнасцю стылю.) Чамусьці запомнілася сказанае ў фінале апавядання жонкай галоўнаму герою, разгубленаму ад усяго ім містычна перажытага: *«Вось і ўсё вашае жыццё. Занясі ў падвал, куды яно тут…»* Уласна я думаю, што сюжэт апавядання (з новымі калізіямі ў духу цяперашняй нацыянальнай драмы) можна было б развіць і развінуць да памераў кампактнага еўрапейскага рамана.

Дарэчы, што да рамана, то працяг аднаго з іх **(Эрнэст Ялугін, «Перад Патопам»)** друкуецца ў гэтым нумары. Твор, як для такога аб'ёмнага тэксту, занадта камерны, стылёва запаволены і сюжэтна маланапружаны. Але, як чалавек, які прачытвае кожны часопіс ад першай да апошняй старонкі цягам трох гадоў, маю сказаць, што гэты гістарычны твор усё ж варты шырокай увагі. Раман вызначаецца вельмі дасканалым веданнем прадмета пісання, адмысловым досведам тагачаснага вяльможнага і просталюднага жыцця, прыроды, традыцый, звычак, навыкаў (вядзьмарства, лекарства, бортніцва, кухарства, палявання)… Ды і мова аўтарская на высокім узроўні. Каталіцтва, праваслаўе, пратэстанцтва, палітыка ВКЛ (Жыгімонт Аўгуст) і Маскоўскага царства (Іван Грозны), перыяды замірэння і падпісання Люблінскай уніі, вобразы Буднага, Цяпінскага, Радзівілаў паказаны праз жыццё вярхоў і нізоў. Агулам, у рамане адчуваецца дух таго часу і эпохі… Уражліва выпісаны і сімвал нацыі — галоўны герой твора бортнік з-пад Мсціслаўля Зых ці, як напісана ў выдадзенай яму «вольнай» Жыгімонтам Аўгустам: Захар Гудавіч (моцны целам і духам).

Дакументальна-дзённікавы **распавед Сяргея Рублеўскага «Кіно прыехала!»** пра жыццёбыццё вясковай малечы напрыканцы 50-х… Настальгія, якая зацягвае чытача ў свой нерат, тым больш, што і «рыбак» адмысловы. Хоць некаторыя падшыванцы стараліся прашмыгнуць «міма касы» і глядзець кіно, лежачы на пыльнай падлозе. Аднак, як піша аўтар, *«пыл той, здаецца, не атрос і па сёння. Ды і не імкнуся: у ім жа — мая светлая памяць»*.

Што тычыцца **апавядання Евы Вежнавец «Вінны яблык»**, то магу сказаць, маючы даволі значны алкагольны вопыт (дзякаваць Богу, ужо даўні), што хоць сюжэтна твор падаецца павярхоўным, але псіхалагічна ён усё ж выспелы… Чытаецца. Можна, мабыць, для глыбейшага задавальнення засесці за яго і з бутэлечкай добрага піва… А *«калі вам брыдка — абмініце, як абмінула я Анатольеўну. Гэта не вашая рэальнасць і не вашая віна»*, — зазначае пісьменніца.

Чытэльныя, поўныя іроніі і сарказма да рэалій нашага і савецкага часу **аповеды Уладзіслава Ахроменкі «Музы і свінні».**

З двух **аповедаў** нядаўняга юбіляра (віншуем!) **Генадзя Дзмітрыева** адзін, пад назвай «Рэінкарнацыя», мае права на чытацкае жыццё. У ім ярка вымалёўваецца беларуская ментальнасць і гіблы аграрна-постсавецкі характар герояў.

**Апавяданне Касі Дземянчук «Гарбата з мёдам і мелісай»** падобнае пакуль на практыкаванне ў лірычнай прозе. Тэкст з нацяжкай можна было б назваць і свабодным вершам, але нават пры такім раскладзе яўна не хапае пэўнасці сюжэтных акцэнтаў…

Друкуюцца аднатыпна-шматслоўныя **зацемкі Наталлі Навіцкай «Гадавое прызнанне».** На мой погляд, ім бракуе глыбокага і па-мастацку вобразнага аналізу жыцця.

Паэзія і вершы — гэта як неба і зямля. Паміж імі ў *авіянізцы* «Аблокі» і лунае ў сваіх іранічных відзежах **Вера Бурлак**.

Следам друкуюцца чыста зямныя **вершы** двух братоў-блізнюкоў **Анатоля і Васіля Дэбішаў** з Берасця. У Анатоля пераважаюць матывы пошукаў душэўнай раўнавагі ў аднастайнасці будзённага жыцця. Хоць прабіваецца і прага да эзатэрычнага:

*«Час вымольваць сны паэту».*

Васіль жа яму пярэчыць на ўзроўні метафарычнай падсвядомасці:

*Звінеў у небе жаўраначак божы,*
*І радасна трымцелі матылькі…*
*Ішоў за плугам я. За мной прыгожа*
*Раўнюткія ўзыходзілі радкі.*

Вядомы мастак і мастацтвазнаўца **Фёдар Ястраб** пачаў практыкаваць у паэзіі толькі два гады таму. І ўжо, як пазначана ў біяграфічнай даведцы, падрыхтаваў да друку шэсць кніг санэтаў. Выдрукаваная нізка «Вечны Пілігрым» лірычна-грамадзянскага ўхілу, схопленая відарысам сённяшняга часу. Не ўсё роўна важкае, але найбольш удалае змушае запыніцца на асобных радках і раздумацца над сэнсам чалавечага жыцця. Здзівіла, што Бог чамусьці пішацца з малой літары, а, скажам, Абсалют, Нарцыс, Зло — з вялікай… Зрэшты, гэта неад'емнае права аўтара. Галоўнае, высокі вобразны пасыл самой паэзіі (назва агляду часопіса мною запазычана адсюль):

*О, як хацеў бы высвеціць тыран*
*Сваю асобу ў бляску, без заган,*
*І рыскі каб ніводнай выпадковай!*
*А ты, хто піша пра сябе і нас,*
*Пранікніся адказнасцю за Час —*
*Не прадавай душу, а з ёй і — слова!*

Метафарычна лёгкаўздымныя, рухавыя і ілюзорныя **вершы Іны Снарскай** (былой палачанкі, а цяпер палтаўчанкі). Нейкая хісткасць, няпэўнасць і няўлоўнае імгненнае самазгаранне (ці яшчэ не ў працэсе стварэння), як мне падаецца, ёсць іх фатумам. Уласна мяне яны захапляльна ўскалыхнулі і, раптам, гэтак жа пакінулі недаўменным… Вельмі дакладна гэтае адчуванне занатавала сама паэтка:

*Калі б на дрэвах не было кары,*
*калі б душой мы ўмелі гаварыць…*

Як ні дзіўна, пабытова-праставатыя, на першы погляд, **вершы Ірыны Бельскай** з нізкі «Мы дзеці аднаго Бога» мне спадабаліся дарэшты не раскрытай глыбінёй і празрыстай бязважкасцю дысгарманічнай няўлоўнасці… лёсам, у рэшце рэшт. І ўвогуле:

*Хіба можна пісаць вершы,*
*Калі нават не ўмееш фармуляваць*
*Просьбы да Бога?..*

Магчыма, гэта найлепшае з паэтычных публікацый гэтага нумара.

Неардынарны (свой!) стыль пісьма і вершатварэння ў **Асі Волкавай**, якая выступае з паэтычнай нізкай «Тэт-а-тэт». Досталь паветра і прасторы між слоў і радкоў для глыбокага дыхання напоўніцу і разгадкі таемна-прыхаваных намёкаў і адсылаў. Адным словам, займеў эстэтычнае задавальненне ад прачытання.

**Вершы Мікіты Прыходзькі** — з душой, але без стала выпрацаванага стылю і сякімі-такімі агрэхамі ў вершаскладанні. І ўсё ж хочацца, каб аўтар сваёй паэтычнай «не згубіў дарогі», як ён пра тое заяўляе.

Вершаваны дэбют сямнаццацігадовай **Ксені Бандарэнка** пакуль яшчэ вучнёўскі з усімі пачаткоўскімі спатыканнямі, хоць сям-там паэтычны голас прарэзваецца, дух бунтуе і слова пачынае вымыкаць з астрожнага душэўнага палону…

Вершы навырост і яшчэ ў аднаго дэбютанта **Максіма Шняка.** Ёсць унутраная лёгкасць і гатовасць да палёту, але няма стылістычнай напоўненасці выштукаваным і вынашаным словам. І ўсё ж надзея на творчую саспеласць адчувальная.

Яшчэ з мастацкіх публікацый адзначым пераклады з англійскай **паэзіі Льюіса Кэрала**, зробленыя *Максам Шчурам.* **Вершы** паляка **Тадэвуша Міцінскага** перастварыла *Ірына Хадарэнка.* (Агулам часопіс цяпер друкуе шмат перакладаў з розных моў свету. Прычым пераважна перакладаў дабротных і адмысловых. Гэта пашырае далягляд як саміх чытачоў, так і ўздымае цэнз самой беларускай літаратуры ў вачах замежнай культурнай эліты.)

**Афарызмы і выслоўі Алеся Гібок-Гібкоўскага** сведчаць пра яго неардынарны вопыт і аналіз уласнага жыцця. Гэта, калі пры набліжэнні, далягляд не аддаляецца, а сцінаецца да крытычнай масы свайго сутнаснага выяўлення…

**Успаміны з «Сіняй кнігі беларускага алкаголіка II» Антона Кулона** неяк асабліва не ўзрушылі. Ведаючы згаданую праблему знутры, уласна мне не хапіла цвярозасці і глыбіні роздуму, нераўнуючы як п'янтосу прахалодна-кіслага расолу на апахмелку.

З глыбокай удзячнасцю да аўтара прачытаў шчыра-душэўныя **ўспаміны Валяр'яна Кісліка** пра яго вядомага брата Навума Кісліка, рускамоўнага беларускага паэта і перакладчыка, яго нялёгкае будзённае жыццё, радасці творчасці, сяброўства і адзіноту са словам.

Асэнсаванне грамадска-палітычнага і грамадзянскага станаўлення людзей і канкрэтнага чалавека да нацыянальных ідэалаў у перыяд цяжкіх гістарычных выпрабаванняў — у артыкуле заложніка сучаснага рэжыму знанага праваабаронцы **Алеся Бяляцкага,** напісанага з нагоды 25-годдзя першага масавага мітынгу на «Дзяды» ў Беларусі. Ярка паказаны людзі, факты, учынкі і дзеі падчас змагання перадавой часткі беларускага грамадства за нацыянальную незалежнасць, чалавечы гонар і годнасць. Такім словам нельга не верыць: *«Двойчы ў жыцці мяне ахоплівала такое адчуванне, калі да пэўнага моманту цябе трымаюць у абдымках розныя турботы, калі ты разумееш, што ёсць яшчэ час адступіць, але ўсё роўна ідзеш наперад у спадзяванні, што ўсе клопаты неяк рассеюцца самі па сабе. А потым надыходзіць такі момант, калі гэтыя клопаты нечакана разрастаюцца і паўстаюць перад табой сцяною, каменным мурам. І ты адкідаеш усе сумненні, табе робіцца абыякава, абыдзецца яно ці не. Тваё «я» становіцца паслухмянай прыладаю невядомай волі, якая спала ў табе і прачнулася, якая сталёвай рукой кіруе тваімі ўчынкамі. Першы раз я спазнаў гэтае пачуццё за некалькі дзён перад «Дзядамі» ў 1988 годзе, а другі раз — перад маім арыштам у жніўні 2011 года».*

З нагоды юбілею Сцяпана Някрашэвіча друкуецца **артыкул Дзмітрыя Паўлаўца. Ігар Набытовіч** з Украіны піша пра творчасць Сяргея Кавалёва, **Анатоль Сідарэвіч** — пра вядомае і невядомае ў літаратуразнаўчых і крытычных працах Рыгора Семашкевіча.

З крытычнымі матэрыяламі і рэцэнзіямі выступаюць: **Ала Петрушкевіч** — пра паэта Едруся Мазько, **Алеся Лапіцкая** — пра раман «Сімъ побѣдиши» Алеся Пашкевіча, **Алена Ніякоўская** — пра раман «Палімпсэст» Алеся Аркуша, **Леанід Галубовіч** — пра зборнік вершаў «Кроплі дажджу» Міколы Кандратава.

Завяршае публікацыі нумара кніжная анатацыйная рубрыка «Дзеяпіс».

Выпісвайце, купляйце і чытайце часопіс «Дзеяслоў»! Назапашвайцеся нацыянальным духам. Ён неўзабаве ой як спатрэбіцца…

ЛІТКАЛЕЙДАСКОП

# ДАНТЭ І НАРКАЛЕПСІЯ

**Няўролаг з Балонскага ўніверсітэта Джузэпэ Плацці апублікаваў у аўтарытэтным медыцынскім часопісе «Sleep Medicine» вынікі свайго даследавання, падчас якога ён прыйшоў да высновы, што Дантэ Алігʼеры (1265 –1321) мог пакутаваць наркалепсіяй.**

Гэта захворванне нярвовай сістэмы, якое суправаджаецца прыступамі дрымоты і раптоўнага засынання. Навуковец адзначыў у галоўным творы вялікага італьянца, «Боскай камедыі», шэраг эпізодаў, якія адлюстроўваюць сімптомы наркалепсіі, а таксама нярэдка і катаплексіі (раптоўнай страты тонусу цягліцаў). Дзіўная дакладнасць апісання гэтых станаў прывяла Плацці да высновы, што яны з'яўляюцца адлюстраваннем хваробы аўтара, а не проста мастацкім прыёмам.

Раптоўныя пераходы ад няспання да сну, хуткаплынны і падбадзёрлівы сон, відзежы і галюцынацыі, раптоўная слабасць, — паэт Дантэ абсалютна дакладна апісаў уласцівыя наркалепсіі сімптомы за 600 гадоў да таго, як навукоўцы адкрылі гэтую з'яву.

Дарэчы, падрабязных звестак пра біяграфію і фізічныя асаблівасці бацькі італьянскай літаратурнай мовы не захавалася, таму асноўнай крыніцай біяграфічнай інфармацыі для некаторых даследчыкаў і служыць яго творчасць. І няўролаг Плацці — не першы ў тым шэрагу. Так, у XIX стагоддзі псіхіятр і крыміналіст Чэзарэ Ламброза сцвярджаў, што Дантэ пакутаваў эпілепсіяй, аднак Плацці катэгарычна аспрэчвае яго версію.

# «КАНОН ШЭКСПІРА»

**Тры тыдні таму ў Вялікабрытаніі выйшла кніга «William Shakespeare and Others: Collaborative Plays» («Уільям Шэкспір і іншыя: п'есы, напісаныя ў суаўтарстве»), прысвечаная творчасці вялікага брытанскага драматурга.**

Джонатан Бейт, прафесар англійскай літаратуры Оксфардскага ўніверсітэта, пасля правядзення комплексных даследаванняў ініцыяваў уключэнне ў выданне дзвюх п'ес, якія раней афіцыйна лічыліся ананімнымі.

Па словах Бейта, асобныя сцэны з «Муседора» і «Ардэна з Фавершэма» былі напісаны менавіта Шэкспірам, пра што сведчаць дадзеныя лінгвістычнага аналізу. Ён мяркуе, што першая п'еса была створана ў 1590 годзе, а праз 20 гадоў прадстаўлена ў новым варыянце выдання з дадаткамі англійскага класіка. У елізавецінскую эпоху п'еса «Муседор» была вельмі папулярнай і перавыдавалася 17 разоў; да гэтага даследчыкі меркавалі, што Шэкспір меў да яе толькі ўскоснае дачыненне.

П'еса «Ардэна з Фавершэма» нярэдка прыпісвалася Томасу Кіду, аднак новыя дадзеныя даказваюць, што Шэкспір быў аўтарам цэнтральных сцэнаў твора; астатняя ж сапраўды належаць пяру Кіда. Дарэчы, увесну 2014 года Каралеўскае шэкспіраўскае таварыства плануе паставіць спектакль па гэтай п'есе, прымеркаваўшы яго да 450-годдзя з дня нараджэння драматурга.

# РУКАПІС «ФРАНКЕНШТЭЙНА»

**Рукапісы рамана «Франкенштэйн» Мэры Шэлі сталі даступныя ў інтэрнэце. Яны выкладзены на сайце архіва Шэлі-Годвіна.**

Задача праекта палягала ў тым, каб папулярызаваць рукапісную спадчыну «першай сям'і ў англійскай літаратуры» XVIII–XIX стагоддзяў: паэта-рамантыка Персі Бішы Шэлі і яго жонкі пісьменніцы Мэры Шэлі (а таксама яе бацькоў — філосафа і раманіста Уільма Годвіна і пісьменніцы-феміністкі Мэры Уолстанкрафт).

Сайт будзе абнаўляцца паступова, аднак адно з цэнтральных месцаў архіва ўжо цяпер займае «Франкенштэйн». Аблічбаваныя ўсе вядомыя рукапісы і чарнавікі, зробленыя Шэлі.

Даследчыкі адзначаюць, што публікацыя рукапісаў «Франкенштэйна» важная, бо дапамагае зразумець працэс працы над творам і ўбачыць, які ўнёсак зрабіў у раман Персі Бішы Шэлі (вядома, што пад яго ўплывам у выніку нарадзілася фінальная версія твора; існуе нават гіпотэза, што менавіта паэт — аўтар рамана).

На сайце можна паглядзець, якія выпраўленні былі зроблены рукой Персі Шэлі, а якія — яго жонкай. Пры гэтым вядома, што ў нейкі момант іх почыркі сталі вельмі падобныя. Даследчыкі адзначаюць, што чыставікі рамана, адпраўленыя выдаўцам, былі напісаныя самой пісьменніцай.

Задума «Франкенштэйна» нарадзілася летам 1816 года, калі сям'я Шэлі праводзіла лета ў Жэневе разам з паэтам лордам Байранам. Вядома, што яны вялі гутаркі пра эксперыменты Дарвіна і чыталі аповеды пра прывідаў, створаныя нямецкімі аўтарамі. Па ініцыятыве Байрана кожны з іх напісаў аповед; з гісторыі Мэры Шэлі потым і «вырас» раман «Франкенштэйн, або Сучасны Праметэй». Шэлі працавала над творам разам з мужам у 1816–1817 гадах. У 1818-м яго надрукавалі тыражом у 500 асобнікаў.

Франкенштэйн — цяпер распаўсюджанае пераноснае імя пачвары. Аднак у рамане монстр не меў імя (яго стварыў барон доктар Віктар Франкенштэйн).

УШАНАВАННЕ

# ШЫЛЬДА ВАРЛАМУ ШАЛАМАВУ

**У Дзень памяці ахвяр палітычных рэпрэсій у Маскве адбылося адкрыццё мемарыяльнай шыльды аўтару «Калымскіх апаведаў» Варламу Шаламаву.**




Гэта стала магчымым дзякуючы высілкам супрацоўнікаў Музея гісторыі Гулага, Міжнароднага таварыства «Мемарыял», рэдакцыі сайта Shalamov.ru, «Новой газеты», Саюза пісьменнікаў Масквы і Рускага ПЭН-цэнтра.

Шыльду ўсталявалі ў Чыстым завулку, на доме №8, дзе В. Шаламаў жыў з 1934 па 1937 гады — паміж двума тэрмінамі, якія ён адбываў на Калыме. Аўтар працы — скульптар Георгій Франгулян, народны мастак Расіі.

В. Шаламаў вядомы як аўтар твораў пра побыт ахвяраў сталінскіх рэпрэсій у лагерах Сібіры і Далёкага Усходу. Першы раз ён быў арыштаваны ў 1929 годзе за ўдзел у падпольнай трацкісцкай групе і за распаўсюд дадатку да «Заповетов Ленина». Толькі ў 1956 годзе пасля рэабілітацыі ён змог легальна вярнуцца ў Маскву.

# ПОМНІК ЧЫНГІЗУ АЙТМАТАВУ

**Да 85-годдзя з дня нараджэння пісьменніка Чынгіза Айтматава ў Маскве ў двары Бібліятэкі замежнай літаратуры імя М. І. Рудаміна быў усталяваны помнік. Аўтар манумента — Георгій Франгулян.**

У вітальным слове Палад Бюль-Бюль аглы, народны артыст СССР і пасол Азербайджана ў Расіі, адзначыў, што жыхары Масквы не павінны забываць пра тое, што кіргізы — народ, багаты талентамі, а не толькі працоўныя мігранты, занятыя на нізкааплатных працах.

У гонар гадавіны з дня нараджэння пісьменніка ў Маскве таксама прайшла рэтраспектыва мастацкіх фільмаў па яго творах і выстава фатаработ «Сусветнае гучанне Чынгіза Айтматава».



# СКУЛЬПТУРА БЭЛЫ АХМАДУЛІНАЙ

**У Тарусе (горад у Калужскай вобласці Расіі) адкрыты помнік паэтцы Бэле Ахмадулінай.**

Яго аўтар — мастак і скульптар Барыс Месэрэр, муж паэткі. Скульптура стаіць на высокім беразе Акі.

Біяграфія Б. Ахмадулінай цесна спалучана з Тарусай. Яна называла гэты горад «сваёй музай», яе натхнялі неверагодныя прыгажосці пейзажы і простыя людзі. Па словах паэткі, менавіта тут яна зразумела, што шчасце ёсць.

У горадзе на Ацэ Ахмадуліна напісала ідылічны «Тарускі цыкл» і «101-ы кіламетр».

У планах ужо з наступнага года праводзіць у Тарусе літаратурна-музычны фестывалі ў памяць пра Б. Ахмадуліну.

# ПОМНІК БУЛАТУ АКУДЖАВЕ

**Ва ўкраінскім горадзе Вілкава Адэскай вобласці, які называюць украінскай Венецыяй, адкрылі першы ў краіне помнік паэту і кампазітару Булату Акуджаве.**

Помнік быў усталяваны на галоўным пляцы горада. Цырымонія адкрыцця адбылася ў межах фестывалю «Песня Булата на Дунаі», які праходзіў у Вілкаве. На цырымоніі адкрыцця мэр горада Мікалай Дзядзін адзначыў, што Акуджава бываў у многіх гарадах Украіны, але Вілкава — адзіны горад, памяць пра які паэт увекавечыў у сваіх творах: песні «Дунайская фантазія» і эсэ «Горад на пратоках».



## ПРЭМІІ

### «БУКЕР»-2013

Лаўрэатам Букераўскай прэміі за 2013 год стала пісьменніца з Новай Зеландыі Элеанор Кэтан. Яна ўганараваная прэстыжнай узнагародай за раман «Свяцілы» («The Luminaries»).

832-старонкавая гісторыя пра залатую ліхаманку, што ахапіла свет у XIX стагоддзі, стала самым «доўгім» творам, які атрымліваў прэмію за ўсю яе 45-гадовую гісторыю. «Гэта бліскучая праца. Гэта выдатная праца. Яна аб'ёмная, але не зацягнутая», — так ахарактарызаваў кнігу старшыня журы Роберт Макфарлейн.

Раман Э. Кэтан — гэта дэтэктыў у стылі віктарыянскай эпохі. Характэрная структура твора — кожная новая яго частка ўдвая карацейшая за папярэднюю.

Прэмію пісьменніцы ў Лонданскай ратушы ўручала герцагіня Карнуальская Каміла, жонка спадчыннага брытанскага прынца Чарлза.

Э. Кэтан стала самай маладой уладальніцай гэтай прэстыжнай літаратурнай узнагароды. Ёй 28 гадоў, а свой раман яна завяршыла ў 27.

Летась Букераўскую прэмію атрымала брытанская пісьменніца Хілары Мэнтэл. Яна стала першай жанчынай, каму ўзнагарода прысуджалася двойчы.

Букераўская прэмія заснаваная ў 1968 годзе. Яна прысуджаецца аўтару, які жыве ў адной з краін Садружнасці нацый, Ірландыі або Зімбабвэ, за раман, напісаны на англійскай мове. Пераможца атрымлівае чэк на суму 50 тысячаў фунтаў стэрлінгаў (каля 80 тысячаў даляраў ЗША). Акрамя таго, усім фіналістам, уключаючы пераможцу, уручаецца чэк на 2,5 тыс. фунтаў, а таксама выкананае ўручную падарункавае выданне кнігі.

### ПРЭМІЯ ФРАНЦЫІ

Лаўрэатам самай прэстыжнай узнагароды Францыі 2013-га года — Ганкураўскай прэміі (Prix Goncourt) — стаў пісьменнік П'ер Леметр за кнігу «Да сустрэчы наверсе» (Au revoir la-haut).

Ганкураўская прэмія — літаратурная ўзнагарода, якой ужо больш за сто гадоў уганароўваюцца лепшыя раманы на французскай мове. Яна носіць імя французскіх класікаў братоў Ганкураў — Эдмона Луі Антуана і Жуля Альфрэда Юо. Малодшы з іх, Эдмон, па ініцыятыве перадаў усю сваю маёмасць літаратурнай Акадэміі, якая пачала называцца Ганкураўскай і заснавала штогадовую аднайменную прэмію.

Прэмія прысуджаецца па выніках галасавання дзесяці членаў Акадэміі на адмысловай сустрэчы ў парыжскім рэстаране «Друан» («Drouant»). Памер Ганкураўскай прэміі складае сімвалічную суму — усяго 10 еўра, затое адкрывае перад лаўрэатам шырокі шлях не толькі да вядомасці і прызнання, але і да гарантавана высокіх тыражоў — і, адпаведна, высокіх ганарараў.

**Пры падрыхтоўцы старонкі выкарыстаныя інфармацыя і фотаздымкі The Guardian, novostiliteratury.ru, Odessa Region, prostokniga.com.ua, dw.de, news.tut.by, РИА Новости, AFP, lenta.ru і vsiknygy.net.ua/news.**

Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА. Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91.
Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

## 6 снежня, пятніца

### Беларусь 1

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.05** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Меладраматычны серыял «Сэрца Марыі» (Расія).
**10.05** Меладраматычны серыял «Такое звычайнае жыццё» (Расія).
**11.00** Дакументальны серыял «Містычныя гісторыі» (Украіна).
**12.10, 14.55, 18.35** Evrovision. Без каментароў.
**12.20** Дзень у вялікім горадзе.
**13.30** Нашы.
**13.40** Камедыйная меладрама «Страшная прыгажуня» (Украіна). Заключная серыя.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Меладраматычны серыял «Джамайка» (Украіна - Расія).
**16.30** Дакументальны цыкл «Жыццё - праклятая роля». Алег Даль (Расія).
**17.30** Меладраматычны серыял «Сэрца Марыі» (Расія).
**19.20, 23.35** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**19.50** Меладраматычны серыял «Такое звычайнае жыццё» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Нашы.
**21.55** Дэтэктыўны трылер «Сустрэчнае расследаванне» (Францыя).
**00.25** Дзень спорту.
**00.35** Меладраматычны серыял «Джамайка» (Украіна - Расія).

### ОНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**12.10** Прэм'ера. «Яны і мы».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** Прэм'ера. «У адным кроку ад Трэцяй сусветнай».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «У наш час».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** АНТ прадстаўляе: «Чакай мяне. Беларусь».
**18.55** Поле цудаў.
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** АНТ прадстаўляе: «Вячэрні Менск».
**22.25** АНТ прадстаўляе: «Што? Дзе? Калі? у Беларусі».
**23.40** Прэм'ера. Фільм «Пятля часу».
**01.40** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Нам і не сніласся».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Ніна». Серыял. Заключная серыя.
**12.30** «Джэймі ў сябе дома».
**13.00** «Добры дзень, доктар».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Фільм «Кармэн» (Расія, 2003 г.).
**15.55** «Глядзець усім!».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Такі лёс».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Оскар» (Францыя, 1967 г.).
**22.00** СТБ прадстаўляе: вячэрняе шоў «На тым жа месцы ў той жа час».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** СТБ прадстаўляе: вячэрняе шоў «На тым жа месцы ў той жа час». Працяг.
**23.55** «Ежа багоў».
**00.50** Еўрапейскі покерны турнір.
**01.40** Фільм «Афёра» (Расія, 2001 г.).

### Беларусь 2

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Вострасюжэтны серыял «Двое з куфра» (Расія). Заключныя серыі.
**10.15** Баявік «Херувім» (Расія). Заключныя серыі.
**12.20** Біятлон. Кубак свету. Спрынт. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**14.10** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**15.20** Біятлон. Кубак свету. Спрынт. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**16.50** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**17.55** Вострасюжэтны серыял «Двое з куфра» (Расія). Заключныя серыі.
**19.00** Футбол. Чэмпіянат свету-2014. Лёсаванне фінальнай часткі. Прамая трансляцыя.
**19.50** Гумарыстычная праграма «Жаночая ліга. Хлопцы. Грошы. Каханне» (Расія).
**20.25** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** «Бітва экстрасэнсаў». Шоў-праграма (Расія).
**22.40** Фантастычны дэтэктыў «Дзённік д'ябла» (Канада).
**00.25** Хакей.

### Беларусь 3

**07.30** «Дабраранак».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Год у гісторыі».
**08.20** «Карані».
**08.45** «У рэху імені твайго...». Барбара Радзівіл.
**09.00** «Пейзажы скрозь час». Этрэта. Францыя.
**09.35** «Раскол». 19-я серыя.
**10.25** «Сіла веры».
**10.55** «Навальніца». Мастацкі фільм.
**12.15** «Калейдаскоп».
**12.20** «Год у гісторыі».
**12.35** «Святло далёкай зоркі». Памяці опернага спевака народнага артыста БССР Зіновія Бабія.
**13.05** «Аўтограф».
**13.35** «Кінаіндустрыя Краіны Саветаў». Вехі гісторыі Савецкага кінематографа: асобы, стужкі.
**14.30** «Росчырк часу». Творчасць гомельскага майстра драўлянай скульптуры Валерыя Казлоўскага.
**14.45** «Цуды прыроды». Патагонія, Венгрыя. Беліз. Новая Зеландыя.
**15.15** «Высакародны разбойнік Уладзімір Дуброўскі». Мастацкі фільм.
**16.55** «Скарбніца Магілёўшчыны». Палац Пацёмкіна. Падарунак Яе Вялікасці.
**17.20** «У пошуках новай зямлі». Дакументальны фільм пра жыццё і творчасць народнага пісьменніка Беларусі Якуба Коласа.
**17.45** «Свет прыроды». Каля дрэва дружбы трох народаў.
**18.15** «Госць». Кароткаметражны фільм.
**18.50** «У рэху імені твайго...». Барбара Радзівіл.
**19.05** «Калейдаскоп».
**19.10** «Тры таварышы». Мастацкі фільм.
**20.30** Калыханка.
**20.50** «Рэйнджэр з атамнай зоны». Мастацкі фільм.
**22.15** «Сіла веры».
**22.40** «Раскол». 20-я серыя.
**23.30** «Аўтограф».
**23.55** «Святло далёкай зоркі». Памяці опернага спевака народнага артыста БССР Зіновія Бабія.
**0.25 «Калейдаскоп».**
**0.30 «Год у гісторыі».**

### Россия

**07.00** «Раніца Расіі».
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** Весткі.
**11.35** «Мая планета».
**12.00** Гутарка з Дзмітрыем Мядзведзевым.
**13.05** «Мы родам з мультыкаў». Дакументальны фільм.
**13.50, 16.50, 19.50, 23.35** Навіны - Беларусь.
**14.20** Дзённік Сочы-2014.
**14.25** «Уся Расія».
**14.55** Тэлесерыял «Дэтэктыўнае агенцтва «Іван ды Мар'я».
**15.55** «Адмысловы выпадак».
**17.10** Серыял «Гаспадыня майго лёсу».
**18.05** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.55, 20.40** Серыял «Выспа непатрэбных людзей».
**21.45** Фільм «Мары з пластыліну» (2012 г.).
**23.45** «Жывы гук».

### НТВ

**06.00** «НТБ раніцай».
**08.40, 10.20** «Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.55** «Да суда».
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Справа лекараў».
**15.15** «Справа густу».
**15.40, 18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**19.35** «Жыццё як песня: «Непара».
**21.15** Фільм «Апошні герой».
**22.55** Фільм «Сёмая ахвяра».
**00.40** «Авіятары».

### Белсат

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**08.55** Аб'ектыў.
**18.00** «Ранча», серыял: 30 серыя.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**19.15** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Агляд медыяў.
**19.20** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Агляд падзеяў культуры.
**19.25** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Дэвайс.
**19.30** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Навіны.
**19.40** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**19.50** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: рэпартаж Алеся Залеўскага.
**20.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Навіны.
**20.25** Невядомая Беларусь: «НКВД – гестапа. Браты па крыві», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Дом», серыял: 13 серыя.
**22.50** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**23.15** Аб'ектыў.

## 7 снежня, субота

### Беларусь 1

**07.00** Меладрама «Мачаха» (СССР).
**08.30** Існасць.
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** Зямельнае пытанне.
**09.35** Камедыйны серыял «9 месяцаў» (Расія). Заключныя серыі.
**11.30** Заўтра - гэта мы!
**12.10** Здароўе.
**13.00** Усё як мае быць!
**13.35** Нашы.
**13.45** Таямніцы следства.
**14.15** Вакол планеты.
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** Дакументальны цыкл «Жыццё - праклятая роля». Алег Даль (Расія).
**16.30** Даверай і правярай.
**17.00** Сямейная анімацыйная камедыя «Дыназаўрык Урмель» (Германія).
**18.35** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**19.10** Меладрама «Аддам жонку ў добрыя рукі» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.40** Ваенная меладрама «Пэрл Харбар» (ЗША).
**00.50** Дзень спорту.
**01.00** Камедыйны серыял «9 месяцаў» (Расія). Заключныя серыі.

### ОНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі». Новыя прыгоды.
**09.20** «Здароўе».
**10.30** «Смак».
**11.10** «Ідэальны рамонт».
**12.15** «Разумніцы і разумнікі».
**13.00** Прэм'ера. «Тацяна Шмыга. Дзіця весялосці і мары».
**14.00** «Два колеры страсці». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Абмен жонкамі».
**17.30** «Адгадай мелодыю».
**18.00** «Бацькоў у школу!».
**19.05** «Хвіліна славы. Дарога на Алімп!».
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Сёння ўвечар».
**22.55** «Паспець да паўночы».
**23.35** «Што? Дзе? Калі?».
**00.50** Прэм'ера. Фільм «Вы не ведаеце Джэка».

### СТВ

**06.15** «Next-3». Серыял.
**07.55** Фільм «Оскар» (Францыя, 1967 г.).
**09.30** «Чыстая праца».
**10.30** «Ежа багоў».
**11.30** «Мінск і мінчане».
**12.05** «Прыгоды дылетанта».
**12.40** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**13.40** Фільм «Вас чакае грамадзянка Ніканорава» (СССР, 1978 г.).
**15.20** «Ваенная таямніца».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.40** «Дзіўная справа».
**18.30** Прэм'ера! СТБ прадстаўляе: інтэлект-шоў «Лепей не прыдумаеш».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Фільм «Мумія: прынц Егіпту» (ЗША - Вялікабрытанія - Люксембург, 1998 г.).
**22.30** «Зорны рынг. Новы сезон.
**23.45** Фільм «Дабранач» (ЗША - Вялікабрытанія - Германія, 2005 г.).
**01.25** «Глядзець усім!».

### Беларусь 2

**07.30** Мультфільмы.
**08.15** Фільм-казка «Іван ды Мар'я» (СССР).
**09.45** Тэлебарометр.
**09.50** Беларуская кухня.
**10.25** Гумарыстычная праграма «Жаночая ліга. Хлопцы. Грошы. Каханне» (Расія).
**11.00** «СуперІнтуіцыя. Бітва палоў». Забаўляльная шоў-праграма (Расія).
**12.10** «Бітва экстрасэнсаў». Шоў-праграма (Расія).
**13.20** Біятлон. Кубак свету. Эстафета. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**14.50** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**16.20** Біятлон. Кубак свету. Эстафета. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**18.10** «Імперыя песні». Народнае караоке-шоў.
**19.15** Ваша лато.
**19.55** Латарэя «Пяцёрачка».
**20.15** Цудоўная сямёрка. Другі эпізод. Фігурнае катанне.
**20.55** Тэлебарометр.
**21.00** КЕНО.
**21.05** Спартовая камедыя «Усё ці нічога» (ЗША).
**23.15** «СуперІнтуіцыя. Бітва палоў». Забаўляльная шоў- праграма (Расія).
**00.15** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**01.05** Баскетбол. Адзіная ліга ВТБ.

### Беларусь 3

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Абіцель душы».
**08.35** «Кожны мае права быць розным».
**09.00** Дзіцячы фільм. «Васіліса Прыгожая».
**10.15** «Тэатральны ліцэй». Аб розных прафесіях, з якіх складаецца тэатр: рэжысёры, акцёры, мастакі, асвятляльнікі, гукарэжысёры.
**10.40** «Карані».
**11.10** «Наперад у мінулае».
**11.35** «Калейдаскоп».
**11.45** «Быль і небыль пра маршала Ракасоўскага». Дакументальны фільм пра вядомага палкаводца Вялікай Айчыннай вайны.
**12.30** «Камертон». Раймонд Паўлс.
**12.55** «Апошні сон Барыса Сачанкі». Дакументальны фільм пра беларускага пісьменніка.
**13.05** «Пані Перамога рэжысёра Матыля». Фільм-партрэт знакамітага рэжысёра, ураджэнца горада Лепеля.
**14.05** «Дойлiды горада Сонца». Дакументальны фільм пра архітэктуру савецкага авангарду 20-х гадоў мінулага стагоддзя.
**14.30** «Жалезныя майстры». Дакументальны фільм пра майстроў кавальскай справы.
**14.45** «Тысячагадовы Заслаўль». Дакументальны фільм.
**15.10** «Крылатая вясёлка». Навукова-папулярны фільм.
**15.25** «Золата Грышына». Дакументальны фільм.
**16.00** «Восеньскае лісце». Канцэрт зорак сусветнага і айчыннага джазу.
**17.20** «Калейдаскоп».
**17.25** «Без віны вінаватыя». 1-4-я серыі.
**18.55** «Калейдаскоп».
**20.30** Калыханка.
**20.50** Сусветнае кіно. «Пракажоная».
**22.20** «Без права на дубль». Андрэй Краско.
**23.05** «АРТиШОК».
**23.40** «Калейдаскоп».

### Россия

**07.00** Фільм «Сумная дама чарвякоў». 2007 г.
**08.30** Фільм «Пятровіч». 2012 г.
**10.25** «Ранішняя@пошта».
**11.00, 14.00** Весткі.
**11.15** «Суботнік».
**11.55** «Планета сабак».
**12.30** Фільм «Хто паедзе ў Трускавец».
**14.15** «Сумленны дэтэктыў». Аўтарская праграма.
**14.50** «Нява» і «Надзея». Першае рускае плаванне вакол свету». 1-я серыя.
**15.50** Фільм «Мары з пластыліну» (2012 г.).
**17.45** «Суботні вечар».
**19.00** «Карціна свету».
**19.55** Надвор'е на тыдзень.
**20.00** Весткі ў суботу.
**20.45** «Танцы з зоркамі». Сезон-2013.
**23.25** Фільм «Пяць гадоў і адзін дзень» (2012 г.).

### НТВ

**06.25** Серыял «Дарожны патруль».
**08.00, 10.00, 13.00** Сёння.
**08.20** «Агляд».
**08.50** «Выратавальнікі».
**09.25** «Справа густу».
**10.20** «Галоўная дарога».
**10.50** «Кулінарны паядынак».
**11.55** «Кватэрнае пытанне».
**13.20** «Я худнею».
**14.15** «Ежа жывая і мёртвая». Навуковае расследаванне.
**15.10** «ДНК». Ток-шоў.
**16.00** «Лепшы горад Зямлі».
**16.50** «Следства вялі...».
**17.40** «Вочная стаўка».
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** «Цэнтральнае тэлебачанне».
**19.50** «Новыя рускія сенсацыі».
**20.55** «Ты не паверыш!».
**21.55** «Выспа».
**23.25** Дэтэктыў «Канец свету».
**01.00** «Ягор 360».
**01.25** «Прамень Святла».

### Белсат

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.25** Невядомая Беларусь: «НКВД – гестапа. Браты па крыві», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**08.55** Аб'ектыў.
**18.00** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**18.15** «Фядора, якая лечыць», рэпартаж, 2010 г., Беларусь.
**18.35** Забавы «Ліпі і Мэсі».
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Пацукі».
**18.55** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**19.25** «Белая візітоўка», серыял: 6 серыя.
**20.25** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Суботні сеанс: «Дама з камеліямі», меладрама, 1995 г., Польшча.
**23.05** «Трэці афіцэр», дэтэктыўны серыял: 8 серыя.
**23.55** МакраФон: «Сон-трава», канцэрт гурта «Троіца»: ч. 2.
**00.25** Аб'ектыў.

## 8 СНЕЖНЯ, НЯДЗЕЛЯ

### 1 БЕЛАРУСЬ

**07.10** Меладрама «Аддам жонку ў добрыя рукі» (Расія).
**08.50** Слова Мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.35** Камедыйны серыял «Калі ў вас няма цёткі...»(Расія). 1-я і 2-я серыі.
**11.35** БеларусьLIFE.
**12.10** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**12.40** Каробка перадач.
**13.15** «XXL WOMAN TV. Жаночы часопіс».
**13.45** Terra incognita. Беларусь невядомая.
**14.15** Клуб рэдактараў.
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** Медычныя таямніцы.
**16.15** Evrovision. Вынікі тыдня.
**16.35** Давярай і правярай.
**17.10** Прыгодніцкая камедыя «Астэрыкс і Абелікс. Місія «Клеапатра» (Францыя-Германія).
**19.10** Камедыйны мюзікл «Залатая Рыбка» (Расія).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналісцкае расследаванне.
**22.35** Біяграфічная драма «Мадыльяні» (ЗША - Францыя).
**00.50** Камедыйны серыял «Калі ў вас няма цёткі...»(Расія). 1-я і 2-я серыі.

### ОНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі. ПІН-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.50** «Фазэнда».
**11.25** «Вясельны перапалох».
**12.25** АНТ прадстаўляе: «Брэйн-рынг».
**13.30** Прэм'ера. «Раманавы».
**14.35** «Куб».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** АНТ прадстаўляе: «Эстрадны кактэйль».
**17.40** АНТ прадстаўляе: «Рассмяшы коміка».
**18.50** АНТ прадстаўляе: «Я люблю Беларусь!».
**20.00** Контуры.
**21.05** «Ледавіковы перыяд».
**00.15** Фільм «Дом».

### СТВ

**06.05** «Next 3». Серыял.
**07.45** Фільм «Мумія: прынц Егіпту» (ЗША - Вялікабрытанія - Люксембург, 1998 г.).
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**11.30** «Вялікі сняданак».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** Фільм «Табар сыходзіць у неба» (СССР, 1976 г.).



**14.40** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**17.20** Канцэрт М.Задорнава.
**18.10** СТБ прадстаўляе: вячэрняе шоў «На тым жа месцы ў той жа час».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Ярык» (Расія, 2007 г.).
**22.20** «Якія людзі!».
**23.20** Фільм «Рускае» (Расія, 2004 г.).
**01.25** Дакументальны праект».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.35** Мультфільмы.
**07.55** Фільм-казка «Чароўная лямпа Аладына» (СССР).
**09.15** Тэлебарометр.
**09.20** Камедыя «Паласаты рэйс» (СССР).
**11.10** Спартовая камедыя «Усё ці нічога» (ЗША).
**13.20** Біятлон. Кубак свету. Гонка пераследу. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**14.15** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**15.20** Біятлон. Кубак свету. Гонка пераследу. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**16.15** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**17.05** Фантастычны баявік «Затура: касмічная прыгода» (ЗША).
**19.15** Суперлато.
**20.25** Навіны надвор'я.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Эксцэнтрычная камедыя «Ромі і Мішэль на сустрэчы выпускнікоў» (ЗША).
**23.00** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**23.55** Хакей. КХЛ.
**01.50** Спорт-кадр.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Таямніца душы».
**08.35** «Размовы пра духоўнае».
**08.40** «Кожны мае права быць розным».
**09.05** «АРТиШОК».
**09.40** «Сто скур незабітых мядзведзяў». Дакументальны фільм пра экспедыцыю пад кіраўніцтвам Георгія Ушакова ў 1930 годзе на архіпелаг Паўночная Зямля.
**10.10** «Андрэй Грамыка. Гігант, якому ўдалося выжыць». Дакументальны фільм пра жыццёвы шлях дыпламата і дзяржаўнага дзеяча СССР, ураджэнца Беларусі.
**11.00** «Размовы пра духоўнае».
**11.05** «Шчасце». Дакументальны фільм пра мастака-кераміста Аляксандра Наўгародскага.
**11.30** «Запаведнымі сцежкамі беларускай зямлі». Дакументальны фільм.
**12.20** «Структура вакуума». Дакументальны фільм.
**12.50** «Тэатральны ліцэй». Выпускнікі школы-студыі МХАТ успамінаюць сваіх аднакурснікаў.
**13.15** «Калейдаскоп».
**13.20** «Без віны вінаватыя». 1-я - 4-я серыі.
**14.50** «Калейдаскоп».
**16.25** «Размовы пра духоўнае».
**16.30** «Без права на дубль». Андрэй Краско.
**17.15** Дзіцячы фільм. «Васіліса Прыгожая».
**18.25** «Культпрасвет».
**19.00** Сусветнае кіно. «Пракажоная».
**20.30** Калыханка.
**20.50** «Незабыўны вечар бельканта». Сольны канцэрт маладога беларускага спевака, лаўрэата міжнародных конкурсаў Анатоля Сіўко.
**21.45** «Культпрасвет».
**22.10** «Нора». Спектакль Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра па творы Г.Ібсэна.
**00.15** «Калейдаскоп».

### РОССИЯ ТЕЛЕКАНАЛ

**07.00** Фільм «Каханне як няшчасны выпадак» (2012 г.).
**10.10** «Сам сабе рэжысёр».
**11.00, 14.00** Весткі.
**11.15** «Смехапанарама».
**11.45** «У свеце жывёл».
**12.20** Фільм «Не сышліся характарамі».
**14.15** «Ха». Маленькія камедыі.
**14.40** Фільм «Вогнішча на снезе» (2012 г.).
**18.05** Фільм «Марыць не шкодна» (2012 г.).
**20.00** Весткі тыдня.
**21.25** Фільмі «Вечная казка» (2013 г.).
**23.25** «Нядзельны вечар».

### НТВ

**06.25** Серыял «Дарожны патруль».
**08.00, 10.00** Сёння.
**08.20** «Медыцынскія таямніцы».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ямо дома!».
**10.20** «Дачны адказ».
**11.25** «Паедзем, паямо!».
**11.55** «Цуд тэхнікі».
**12.30** «Першая перадача».
**13.00** Сёння.
**13.15** Фільм «Страшныя лейтэнанты».
**15.00** «Распад». Фільм з цыклу «СССР. Крах імперыі».
**15.55** «Лепшы горад Зямлі».
**16.45** «Следства вялі...».
**17.35** «Вочная стаўка».
**18.30** Надзвычайнае здарэнне. Агляд за тыдзень.
**19.00** «Сёння. Выніковая праграма».
**19.50** «Мікалай Баскаў. Мая споведзь».
**20.55** Фільм «Ганчакі: інфекцыя зла».
**00.25** «Школа злаcлоўя».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Казкі для дзетак: «Пінгвінік Пік-Пок», «Прыгоды Ціўкі», «Занатоўкі натураліста».
**07.40** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 14-15 серыі.
**08.30** «Дама з камеліямі», меладрама, 1995 г., Польшча.
**18.00** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**18.30** Моўнік (лінгвістычная праграма): Лейпцыг ці Ляйпцыг, Фрэйд ці Фройд?.
**18.40** Забавы «Ліпі і Мэсі».
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Пацукі».
**19.00** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**19.25** «Час гонару», серыял: 63 серыя.
**20.15** Дакументальная гадзіна: «Пекін ад золку да змяркання», дак. фільм, 2011 г., Польшча.
**21.00** Фільматэка майстроў: «Костка», маст. фільм, 1995 г., Польшча.
**22.35** «Кароль-вінароб», серыял: 7 серыя.
**23.15** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:

Магілёў: (8 029) 930 79 22, Міхась
Бабруйск: (8 029) 628 75 01, Вольга
Мінск: (8 029) 178 31 68, Вольга
Слуцк: (8 029) 364 42 60, Зінаіда
Гомель (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐ № ______ (вход, по карте отправки)

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

## Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 2000 руб., аднаго месяца — 8000 руб.

Дзякуй вам за падтрымку!

«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 651 21 12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя: 3012741108019 Лицевой счет: Код 739
УНП*: 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ______
Всего ______

Кассир

САМІТ

# КЛІМАТЫЧНЫЯ АБЯЦАНКІ-ЦАЦАНКІ

Уладзімір ВАЛОДЗІН

**Чарговы кліматычны саміт, што адбыўся з 11 па 22 лістапада ў Варшаве, толькі аддаліў урады ад вырашэння кліматычнага крызісу. Наш журналіст, які пабываў на гэтым саміце, дзеліцца сваімі ўражаннямі.**




Фота Паўла Гарбунова

Марш за кліматычную і сацыяльную справядлівасць, калона арганізацыі «Сябры зямлі», 16 лістапада

Міжнародныя кліматычныя перамовы пад эгідай ААН ужо каторы год буксуюць і ўсё часцей нагадваюць вадзэвіль, пастаўлены правінцыйным тэатрам. Сцэнар штогод адзін: навукоўцы кажуць пра небяспечныя змены клімату, грамадскасць патрабуе рашучых дзеянняў, але перамовы афіцыйных дэлегацый заканчваюцца пшыкам.

## Польшча: скандал за скандалам

Афіцыйна варшаўскі кліматычны саміт называўся 19-й Канферэнцыяй бакоў (COP19) Рамкавай канвенцыі ААН па зменах клімату. Канвенцыя была прынятая яшчэ ў 1992 годзе на «саміце Зямлі» ў Рыа-дэ-Жанейра, а ў 1997 годзе быў ухвалены Кіёцкі пратакол, які вызначаў канкрэтныя абавязкі краін па зніжэнні выкідаў парніковых газаў. Тэрмін дзеяння Кіёцкага пратаколу скончыўся, а новая дамова так і не была падпісана. Апрача таго, тыя абавязкі, што ўзялі на сябе развітыя краіны ў межах Кіёцкага пратаколу, не былі выкананы.

Штогод змяняецца краіна, што старшынствуе ў кліматычных перамовах, і, адпаведна, кожны раз абіраецца іншае месца правядзення перамоваў. У гэтым годзе Канферэнцыя бакоў прайшла ў Варшаве на Нацыянальным стадыёне, збудаваным да мінулагодняга чэмпіянату Еўропы па футболе. Пад трыбунамі стадыёну знаходзяцца некалькі паверхаў з пакоямі для перамоваў, прасторнымі холамі і ўсёй неабходнай інфраструктурай.

Польскае старшынства ў кліматычных перамовах паказала выкапнёвы (у простым і пераносным сэнсах) характар польскай эліты. Урад Польшчы не толькі выявіўся няздольным весці перамовы да заключэння пагаднення, але і свядома вёў гэтыя перамовы ўбок.

Так, 18–19 лістапада ў Міністэрстве эканомікі Польшчы прайшоў Міжнародны саміт «Вугаль і клімат», арганізаваны супольна з Сусветнай вугальнай асацыяцыяй. Вугаль — адна з самых брудных выкапнёвых крыніц энергіі. На кожную выробленую з вугалю адзінку электрычнасці ці цяпла даводзіцца заўважна болей выкідаў парніковых газаў, чым пры вырабе электрычнасці і цяпла, напрыклад, з прыроднага газу (асобна стаіць пытанне забруджання паветра мікрачасцінкамі, меддзю, свінцом, дыяксінамі ды іншымі забруджвальнікамі пры спальванні вугалю на электрастанцыях). Але польская энергетыка традыцыйна залежыць ад вугалю (з яго выпрацоўваецца больш за 80% электрычнасці).

Сусветнае вугальнае лобі спрабуе працягнуць у кліматычную дамову субсідыі для вугальнай энергетыкі, і польскі ўрад актыўна ў гэтым дапамагае.

Марцін Каралец, да 20 лістапада міністр навакольнага асяроддзя Польшчы і прэзідэнт кліматычных перамоваў гэтага года, актыўна выступае за разгортванне здабычы сланцавага газу. Здабыча сланцавага газу — даволі дарагі, тэхнічна складаны і экалагічна брудны працэс, які патрабуе шмат водных рэсурсаў і атручвае землі хімікатамі; ён не ідзе ні ў якое параўнанне са здабычай канвенцыйнага прыроднага газу.

> Дазволы на забруджанне — гэта від субсідыі, і атрымліваюць яе шчодра акурат самыя шкодныя індустрыі

У Польшчы ў розных мясцовасцях жыхары актыўна пратэстуюць супраць геалагічнай выведкі ў пошуках сланцавага газу. Выведка сама па сабе небяспечная (так, у адной з вёсак з-за геалагічных зрухаў цалкам абрынулася вежа старажытнага касцёла — шчасце, што не было ахвяраў) і вядзе за сабой нашмат больш небяспечную здабычу. Мясцовых жыхароў актыўна разганяе і штрафуе паліцыя. А па польскай тэлевізіі ў любы час дня круціцца рэклама нафтагазаздабываючай карпарацыі «Шэўрон», у якой пяршчыкі запэўніваюць, нібыта карпарацыя выконвае патрабаванні мясцовага насельніцтва і дбае пра навакольнае асяроддзе і сацыяльную сферу. Гэта прамая хлусня, але СМІ паказваюць тое, за што заплачаны грошы.

Пры гэтым у Польшчы вялікія праблемы з развіццём энергетыкі з узнаўляльных крыніц: забюракратызаванае заканадаўства ці, наадварот, яго брак, слабая ў параўнанні з Заходняй Еўропай дзяржаўная падтрымка, адсутнасць інфармацыі. Затое выкапнёвае паліва (вугаль) прэм'ер Польшчы Дональд Туск лічыць ледзь не нацыянальным скарбам. Польскія экалагісты іранізуюць: калі гэта сонца і вецер сталі меней польскімі за вугаль?

Раней Польшча была сумна вядомай з-за блакавання кліматычнай палітыкі Еўрасаюза, а таксама ігнаравання кліматычнай праблемы палітыкамі і СМІ. Не дзіва, што і да COP19 з боку нацыянальных СМІ было няшмат увагі. «Тэлевізія зусім не згадвала пра саміт у навінах», — падзяліўся назіраннем экалагічны актывіст з Варшавы, чалец рэдакцыі газеты «Зялёнэ Вядамосці» Марцін Вжос.

## У інтарэсах бізнэсу

Марцін Каралец заявіў яшчэ ў верасні: «Упершыню за 19 гадоў кліматычных перамоваў, прадстаўнікі сусветнага бізнэсу далучацца да іх». Вядома, і раней голас бізнэсу было добра чуваць, бо яго транслявалі ўрадавыя дэлегацыі розных краін (самы яркі прыклад — ЗША) і разнастайныя лабісцкія структуры, што круціліся вакол перамоваў.

У адрозненне ад бізнэсу, грамадскасць (у выглядзе недзяржаўных арганізацый) не дапушчаная да непасрэднага ўдзелу ў перамовах, а можа за імі толькі назіраць. Прысутнасць грамадскасці на перамовах з кожным годам усё мацней абмяжоўваецца. З аднаго боку, скарачаецца колькасць месцаў для назіральнікаў ад грамадскіх арганізацый. «Было складана зарэгістравацца назіральнікам. Мы хацелі прывезці шмат людзей, каб узняць свае галасы. Але акрэдытацыю атрымалі толькі нямногія», — Нікалас з Зімбабвэ пацвярджае тое, што выказвалі многія мае суразмоўцы.

З іншага боку, назіральнікі ад грамадскіх арганізацый атрымліваюць доступ да зусім нязначнай колькасці мерапрыемстваў унутры перамоваў.

«Ты як журналіст маеш значна больш шырокі доступ да канферэнцыі. Нас жа амаль нікуды не пушчаюць», — паскардзіўся мне Сумя Дута з індыйскага калектыву «Па-за Капенгагенам».

Калі мы зазірнем у спіс спонсараў варшаўскага саміту, адразу стане відавочна — мерапрыемства фінансавалі самыя «брудныя» карпарацыі (у тым ліку з пункту гледжання выкідаў парніковых газаў), якія хочуць «азеляніць» свой імідж, але не збіраюцца рабіць нічога рэальнага па змяншэнні эмісій. Гэта, напрыклад, аўтамабільны вытворца, авіякампанія, нафтаздабыўчая і перапрацоўчая кампанія, вытворца сталі, энергетычныя монстры (якія выпрацоўваюць электрычнасць з вугалю і на АЭС). Практычна да ўсіх спонсараў грамадскасць мае прэтэнзіі ў экалагічнай сферы ці ў сферы правоў чалавека.

Галоўная ідэя, з якой носяцца бізнэсоўцы і якую падтрымлівае большасць урадаў, — вугляродныя рынкі. Калісьці Джані Радары жартаваў у сваёй казцы пра падатак на паветра. Цяпер паветрам гандлююць, і гэта не жарты. Ужо ў Кіёцкі пратакол быў закладзены гандаль эмісіямі. Еўрапейскі саюз развіў гэтую ідэю, і з 2005 года працуе Сістэма гандлю эмісіямі ЕС. Вугляродныя рынкі стартуюць і ў іншых краінах (напрыклад, у амерыканскім штаце Каліфорнія і ў некаторых рэгіёнах Кітая).

У чым іх сутнасць? Вытворцам з «брудных» галін прамысловасці выдаюцца дазволы на бясплатнае забруджанне атмасферы да пэўнага ўзроўню. Калі яны гэты ўзровень перавышаюць, то мусяць купляць дазволы ад іншых удзельнікаў схемы, якія былі больш ашчаднымі. На той выпадак, калі вольных дазволаў больш не застанецца, распрацавана ідэя пра так званыя «вугляродныя сцёкі». Лічыцца, што можна высадзіць нейкую колькасць гектараў лесу, каб кампенсаваць нейкую колькасць выкідаў. Ці дафінансаваць абнаўленне абсталявання на нейкім заводзе ў трэцім свеце, каб той быў больш энергаэфектыўным і выкідаў меней парніковых газаў. Такім чынам, вытворца ў Еўропе можа працягваць забруджванне, тэарэтычна знізіўшы яго дзесьці ў іншым месцы.

Практыка паказала — гэтая схема не працуе. Пачынаючы ад таго, што дазволы на забруджанне — гэта від субсідыі, і шчодра атрымліваюць яе акурат самыя шкодныя індустрыі. У Еўрасаюзе многія буйныя кампаніі атрымалі больш дазволаў, чым было трэба для пакрыцця іх выкідаў. Не зніжаючы свае выкіды парніковых газаў, яны прадалі дазволы на рынку, праз што атрымалі дадатковы прыбытак.

Пасадка лясоў — добрая справа. Толькі вось саджаюць лясы, каб іх потым высекчы. Напрыклад, у Бразіліі кампанія «Плантар» вырубае векавы лес, што, між іншым, вядзе на выкідаў парніковых газаў. На яго месцы саджаюць эўкаліпты, каб потым вырубіць і спаліць іх для вытворчасці вугалю, неабходнага для вытворчасці сталі. Пры гэтым «Плантар» прадае сертыфікаты на пэўную колькасць эмісій. Але ўвабраны дрэвамі вуглякіслы газ пасля іх вырубкі і спальвання зноў апынецца ў атмасферы, так што сертыфікаты нічога не вартыя!

Нарэшце, абнаўленне тэхналагічных ліній у трэцім свеце і так перыядычна адбываецца проста таму, што новыя тэхналагічныя лініі — больш выгодныя. Практычна немагчыма адрозніць, у якім выпадку дафінансаванне было абсалютна неабходным з-за беднасці вытворцы, а дзе кампанія скарысталася абставінамі, каб танна атрымаць новае абсталяванне. Таму давесці, што зніжэння выкідаў не адбылося б без дафінансавання праз вугляродныя рынкі, практычна немагчыма.

Такім чынам, вугляродныя рынкі толькі адцягваюць свет ад развязання кліматычнай праблемы.

«Рухальнымі сіламі вугляродных рынкаў з'яўляюцца карпарацыі, найбольш павінныя ў забруджанні, і Сусветны банк, найбольш адказны за фінансаванне выкапнёвага паліва. Варта чакаць ад іх удзелу ў сістэмнай карупцыі з мэтай прыцягнення грошай на рынак, нават калі гэта не дасць сапраўды знізіць эмісіі», — каментуе Патрык Бонд, прафесар Універсітэта Квазулу-Натал (ПАР). — «Ідэя прымяніць рынкавыя развязанні да праблемы, створанай рынкамі, — гэта ідэалогія, што не мае сэнсу».

Пра вугальнае лобі і аматараў здабываць сланцавы газ ужо напісана вышэй. Прадказальна, пад ручку з імі ідзе атамная энергетыка. Аднаўляльная энергетыка ўвесь час адцяраецца бізнэс-імперыямі на другі план. Мы маем вялікую рызыку, што пры змене пакаленняў электрастанцый інвестыцыі пойдуць не на будаўніцтва ветракоў і сонечных калектараў, а на вугальныя ці ў лепшым выпадку газавыя станцыі.

**Пра тое, што ж змагла зрабіць грамадскасць на Варшаўскім саміце і пра небяспеку кліматычных зменаў, чытайце на нашым сайце novychas.info, а таксама ў наступным нумары.**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. МІЗУЛІНА – НОВЫ ЛІДАР ГАМАФОБАЎ ПЛАНЕТЫ

Алена Мізуліна, адзін з аўтараў закону аб забароне прапаганды гомасексуалізму ў Расіі, стала кумірам не толькі расійскіх гамафобаў. Яе папулярнасць вырасла ў адпаведных колах і на Захадзе. На мінулым тыдні спадарыню Мізуліну запрасілі ў Лейпцыг на міжнародную канферэнцыю ў абарону традыцыйнай сям'і. Прычым, аказалася, што імя Мізулінай ведаюць не толькі мясцовыя гамафобы, аднак і аматары пашырэння правоў сэксуальных меншасцяў. Падчас канферэнцыі група актывістаў руху за правы гомасэксуалістаў паспрабавала не пусціць дэпутата Дзярждумы ў зал. Нейкі стары гей нават ударыў яе нагой. Здаецца, што інцыдэнт у Лейпцыгу яшчэ больш замацаваў кансерватыўныя погляды Мізулінай. У сваім першым інтэрв'ю пасля вяртання з Германіі яна (дарэчы, сябра партыі «Справядлівая Расія», якая ўваходзіць у Сацінтэрн) раскрытыкавала лютаўскую дэмакратычную рэвалюцыю 1917 года, якая дазволіла інстытут разрыву шлюбаў.

**Паводле расійскай прэсы**

### БРАЗІЛІЯ. АДКРЫЛАСЯ ІНДЗЕЙСКАЯ АЛІМПІЯДА



У сталіцы бразільскага штату Мата Гроса пачаліся 12-я алімпійскія індзейскія гульні. У спаборніцтвах бяруць удзел 1500 спартсменаў з 18 краінаў. Удзельнікам алімпіяды трэба будзе разыграць 12 камплектаў медалёў (галоўным чынам гэта розныя віды лёгкай атлетыкі). Прычым усе ўзнагароды зроблены з дрэва, каб падкрэсліць экалагічны характар індзейскага руху. Ніякіх ганарараў не прадугледжана і для спартсменаў.

Такая сціпласць мерапрыемства выклікала нечаканы інтарэс да гульняў з боку бразільскага грамадства. Індзейскія гульні ў бразільскіх СМІ супрацьпастаўляюць чэмпіянату свету па футболу, які пройдзе ў Бразіліі ў наступным годзе. На чэмпіянат выдзелена прорва сродкаў за кошт сацыяльных артыкулаў бразільскага бюджэту. Між тым, частка індзейскіх спартсменаў заклікае да прафесіяналізацыі і камерцыялізацыі індзейскіх гульняў. На іх думку, гэта дапаможа індзейцам ставіць рэкорды, не горшыя за тыя, якія ставяць беласкурыя спартсмены.

**Паводле брытанскай прэсы**

### ЦЭНТРАЛЬНАЯ АМЕРЫКА. ПАНАМА ПРЫЗНАЛА МАРОКА

Незвычайную дыпламатычную заяву зрабіў панамскі МЗС 25 лістапада. Кіраўніцтва гэтай маленькай дзяржавы Цэнтральнай Амерыкі афіцыйна прызнала Марока. Дасюль Панама не мела дыпламатычных адносін з Рабатам з-за таго, што ў далёкім 1981 годзе левы панамскі дыктатар Амар Тарыхас прызнаў урад Арабскай Сахарскай Дэмакратычнай Рэспублікі (RASD), якую раней абвясціў фронт Polisario. Polisario патрабуе незалежнасці для Заходняй Сахары, якую з 1975 года акупуе Марока. Самае цікавае, што RASD панамцы прызналі па просьбе Іспаніі. Тагачасны іспанскі прэм'ер-сацыяліст Гансалес раней падтрымліваў Polisario, аднак, дарваўшыся да ўлады, вырашыў, што добрыя кантакты з суседнім Марока яму важней. У якасці кампенсацыі ён прапанаваў RASD наладзіць дыпламатычныя адносіны з Панамай, якая не мае інтарэсаў у Паўночнай Афрыцы. Натуральна, гэта каштавала Паname дыпламатычных адносін з Марока. Такая незвычайная сітуацыя законсервавалася да нашых дзён, пакуль панамцы вырашылі, што партызаны з Сахары — гэта не так актуальна. Праўда, свае рашэнне разарваць адносіны з RASD панамцы карэктна тлумачаць тым, што «жыхары Заходняй Сахары апошнім часам не праяўляюць ніякага жадання стварыць сваю дзяржаўнасць».

**Па матэрыялах брытанскай прэсы**

### ТАДЖЫКІСТАН. ЖАНЧЫНЫ ПАДТРЫМАЛІ СКІНХЭДАЎ

Нядаўні пагром мігрантаў у маскоўскім Бірулёва, як не дзіўна, меў пазітыўны рэзананс у Таджыкістане, адкуль, паводле статыстыкі, сотні тысяч людзей ужо выехалі працаваць у Расію. У Душанбэ таджыкскія жанчыны пачалі бестэрміновы пікет офісу расійскай службы міграцыі з незвычайным патрабаваннем — дэпартаваць усіх таджыкаў-гастарбайтараў з Расіі. Як правіла, гаворка пра мужоў удзельніц пікету. Таджычкі скардзяцца, што іх мужчыны не дасылаюць грошы дадому, а імкнуцца завесці сям'ю ў Расіі і забыцца пра жыццё на радзіме. Адна з іх кажа: «Мой муж ажаніўся. Грошай сваім дзецям не адпраўляе. Хай яго дэпартуюць! Магчыма, гэта заахвоціць яго вярнуцца да сваіх дзяцей». Прадстаўнікі міграцыйных службаў абедзвюх краін адказваюць, што не ў іх сілах выканаць патрабаванне жанчын: калі іх мужчыны знаходзяцца ў РФ легальна, то іх можна толькі паспрабаваць пераканаць. А нелегалаў трэба яшчэ знайсці. Цікава, што сярод грамадзян Таджыкістана, якія выязджаюць на заробкі за мяжу, набыла папулярнасць практыка разводаў з жонкамі, якія засталіся на радзіме, праз SMS. Гэты метад гастарбайтэры асвоілі некалькі гадоў таму. Аказваецца, можна проста тройчы пасляць жонцы паведамленне з рытуальным словам, якое ў мусульманскай традыцыі прамаўляе мужчына пры разводзе. У камітэце па справах рэлігіі пры ўрадзе Таджыкістана гэтую ўжо практыку асудзілі.

**Па матэрыялах таджыкскай прэсы**

---

▸ СНД

# ПЕРАГЛЯД ГІСТОРЫІ

**Алег НОВІКАЎ**



**Грамадскасць Казахстану крытычна рэагуе на ідэю стварэння агульнага падручніка гісторыі краін СНД.**

Ідэя стварэння такога падручніка была агучана даўно. Аднак прадметам шырокага грамадскага абмеркавання падручнік стаў толькі пасля заявы Валянціны Мацвіенка, спікера Савета Федэрацыі Расіі. 19 лістапада Мацвіенка заявіла, што адзіны падручнік гісторыі СНД паслужыць збліжэнню краін, якія ўвойдуць у Еўразійскі эканамічны саюз, што мяркуецца стварыць у 2015 годзе. Кіраўнік сенату лічыць, што пачаць працу можна з невялікага сумесна створанага раздзела пра гісторыю ўзнікнення СНД, пра інтэграцыйныя працэсах на тэрыторыі былога СССР і культурныя сувязі народаў рэспублік.

У Беларусі тэма новага падручніка не стала топавай. Затое ў Казахстане навіны ад Мацвіенка выклікалі дастаткова бурныя дэбаты. Абсалютная большасць удзельнікаў дыскусіі асцярожна ставіцца да прапановы Мацвіенка. Нават афіцыйныя гісторыкі не ў захапленні ад ідэі новага падручніка.

Так, казахстанскі навуковец, доктар гістарычных навук, прафесар Гульжаухар Какебаева ў інтэрв'ю радыё «Азатык» кажа: «Прысвячаць гісторыі СНД асобны падручнік і ўводзіць яго ў якасці асобнага прадмета няма ніякай неабходнасці. У цяперашні час, магчыма, у палітыцы краін СНД ёсць нейкія агульныя моманты. Аднак ва ўсіх асобная гісторыя, і агульных момантаў у гісторыі няма. Я не ўключаю ў гісторыю СНД перыяд СССР, кажу пра СНД пасля 1991 года. Гісторыя азіяцкіх краін СНД не падобная на гісторыю еўрапейскіх краін СНД. Еўрапейскія краіны СНД імкнуцца да інтэграцыі з Еўропай. У цэлым ва ўніверсітэтах Казахстана вывучаецца гісторыя краін Еўропы і Азіі. Таму будзе правільней гісторыю еўрапейскіх краін СНД вывучаць у «Гісторыі Еўропы», а гісторыю азіяцкіх краін СНД — у «Гісторыі Азіі». Гэта маё меркаванне з навуковага пункту гледжання».

Шэраг гісторыкаў лічаць, што Казахстан у прынцыпе не можа ўдзельнічаць у такіх праектах, паколькі сам яшчэ не даў ацэнку некаторым старонкам сваёй гісторыі. Маецца на ўвазе перш за ўсё казахскі Галадамор — масавы голад 1930-х гадоў.

Аднак зразумела, што справа не ў праблемах навукі. Папросту шмат хто баіцца, што новы падручнік будзе сродкам правядзення расійскай імперскай палітыкі. Адзін з юзераў адзначае: «Спікер РФ намякае на падыход у пазітыўным ключы пры інтэрпрэтацыі і палітычнай ацэнцы гістарычных дзей савецкага таталітарнага рэжыму, выкрэсліванне з фактaлогіі злачынстваў камуністычнага кіраўніцтва супраць сваіх грамадзян, такіх, як масавыя рэпрэсіі і чысткі, штучна створаны Галадамор, гвалтоўная асіміляцыя і знішчэнне этнічнай разнастайнасці. Менавіта па гэтых не зусім адназначных і непрывабных пытаннях цяперашняму расійскаму рэжыму хочацца дасягнуць пазітыўнай уніфікацыі поглядаў грамадзянскай супольнасці на ўсёй постсавецкай прасторы. Такім чынам, атрымаўшы індульгенцыю пра ўсеагульнае «прабачэнне грахоў «крывавага таталітарнага рэжыму з 1917 па 1991 гады, і на хвалі гэтай дабратворнай сітуацыі, атрымаць чарговы карт-бланш на стварэнне новай Расійскай імперыі».

Аматары жартаў ужо прапанавалі сваю версію будучага падручніка гісторыі Садружнасці, які, на іх думку, можа называцца «Гісторыя адзінай і непадзельнай СНД». Падручнік павінен пачынаецца так: «Усе краіны і народы, якія пражываюць на тэрыторыі СНД, калісьці даўно і пагалоўна добраахвотна ўступілі ў склад Масковіі. Справа была так: Масковія накіроўвала да гэтых народаў свае мірныя дэлегацыі, якія складаліся з дзясяткаў тысяч штыкоў, палявой артылерыі і браняносцаў, а тыя добраахвотна ўступалі ў склад Масковіі».

А вось фрагмент з раздзела «Дэпартацыі»: «Дэпартацыі? Ды не! Усе дэпартаваныя народы складаліся выключна са здраднікаў Радзімы. Жанчыны, старыя і дзеці (мужчынскае насельніцтва было на франтах, але на самай справе яны толькі прыкідваліся, што ваююць супраць фашысцкай Германіі). У тылу немаўляты адчувалі любоў да Гітлера і будавалі розныя здрадлівыя планы, але былі своечасова выкрытыя і дэпартаваныя куды далей».

Непакоіць казахскую грамадскасць і той факт, што ініцыятыву спадарыні Мацвіенка ўжо падтрымаў Аляксандр Чубар'ян — дырэктар Інстытута гісторыі Расійскай Акадэміі навук. Менавіта Чубар'ян склаў цяперашні так званы «стандарт» — базавы школьны падручнік гісторыі Расіі, у якім напісаў пра тое, што сталінскія рэпрэсіі былі «правамерныя ў логіцы дыктатуры пралетарыяту». Акрамя таго, аўтары «стандарту» прызнаваліся, што хацелі б зрабіць «прадметам нацыянальнага гонару» сам працэс складання Расійскай імперыі на шматнацыянальнай аснове, падчас якога «пераважалі прынцыпы ўзаемадапамогі, талерантнасці і верацярпімасці».

Газета «*Курсив*» звяртае ўвагу на наступныя праблемныя пытанні ў гісторыі: «Як у новым падручніку гісторыі для краін СНД будзе адлюстраваны працэс захопу Царскай Расіяй Сярэдняй Азіі, як будзе апісана такая з'ява, як басмачаства? Ці захаваецца паняцце «тубыльцы», ці будзе расказана пра трагедыю ў Катыні, пра знішчэнне казахстанскай інтэлігенцыі ў перыяд ганенняў 1937-га, пра тое, што толькі да пачатку 1960-х гадоў атрымалася колькасна аднавіць перавагу казахскага этнасу ў складзе КазССР пасля масавых сталінскіх рэпрэсій? Не зразумелай застаецца інтэрпрэтацыя спрэчных пытанняў, звязаных з міжнацыянальнымі канфліктамі канца 1980-х — пачатку 1990-х гадоў. Калі падсумаваць усё гэта, можна сказаць, што падручнік ўнясе значны разлад у адносіны постсавецкіх народаў».

А вось казахскія дэмакраты баяцца, што падручнік СНД фактычна будзе сродкам рэкламы аўтакратычнага рэжыму Назарбаева, які стоадсоткава напіша, што гісторыя незалежнасці Казахстану пачалася ў 1991 годзе дзякуючы Елбасы.

Такім чынам, можна сказаць, што казахскае грамадства, і ў тым ліку палітычная эліта, на цяперашнім этапе будуць спрабаваць затармазіць ініцыятыву Мацвіенка. Праўда, Масква даўно выпрацавала інструментарый ціску на суседзяў, які пры жаданні можна задзейнічаць і ў сферы культурнай палітыкі.

І яшчэ адзін цікавы момант. Парадаксальным чынам ідэя Мацвіенка рэанімавала рух за стварэнне агульнага падручніка цюркскіх народаў. Тым больш, што 22 лістапада ў Стамбуле прайшло другое пасяджэнне Савета міністраў адукацыі цюркамоўных дзяржаў. Сярод іншага было прынята рашэнне пра стварэнне «Адзінага падручніка цюркскай гісторыі».

МЕРКАВАННЕ

# ЧЫМ ЗАКОНЧЫЦЦА ЕЎРАМАЙДАН?

Алег НОВІКАЎ



**Ці працягнуцца пратэсты ва Украіне, пасля таго, як Віктар Януковіч не падпіша ў Вільнюсе дамову пра Асацыяцыю? У інтэрв'ю ад 26 лістапада прэзідэнт Украіны даў зразумець, што нельга паскараць працэс еўраінтэграцыі: «Ці мы павінны завязаць вочы і бегчы куды заўгодна? Мы і так беглі вельмі хутка, прабеглі за кароткі тэрмін вельмі доўгую адлегласць — можам атрымаць праблемы».**

Апазіцыя абяцае працягнуць акцыю пратэсту на Майдане Незалежнасці, якая, па іх словах, павінна закончыцца адстаўкай як мінімум ураду Азарава. На Майдане Незалежнасці з 24 лістапада праходзіць пермантэнтны мітынг. А 27 лістапада з Еўрапейскай плошчы сюды перабраліся жыхары намётавага гарадку (300–400 чалавек) аранжавай апазіцыі. Хутчэй за ўсё, яны тут і застануцца.

Пакуль акцыя знешне не выглядае асабліва небяспечнай для інстытутаў улады. Пасля вялікай маніфестацыі ў нядзелю 24 лістапада ў цэнтры ўкраінскай сталіцы стала знаходзіцца максімум тысяча чалавек. Увечар колькасць людзей павялічваецца за кошт тых, хто прыходзяць сюды з працы або вучобы. Аднак гэта нават блізка не падобна да Майдану 2004-га, геаграфія якога ўключала некалькі кварталаў вакол плошчы, а колькасць сталых жыхароў у намётах ішла на дзясяткі тысяч.

Невялікую колькасць удзельнікаў Майдану апазіцыйныя СМІ тлумачаць негатыўным стаўленнем людзей да палітыкаў і траўмай, што пакінула палітыка Юшчанкі, якога Майдан прывёў да ўлады. Дарэчы, апошні заявіў, што гатовы ўзначаліць Еўрамайдан, чым вельмі павесяліў інтэрнэт-супольнасць.

Яшчэ да Еўрамайдану ў прэсе пісалі пра неабходнасць шукаць новыя формы пратэсту. Менавіта таму на Майдане, у адрозненні ад пляцоўкі перад Еўрапейскім домам, была забароненая партыйная сімволіка, акрамя нацыянальнай і бандэраўскай. Даходзіла нават да сутычак з тымі, хто прыцягнуў з сабой, скажам, партыйны банер. У дадатак арганізатары Майдану паспрабавалі ўзнавіць атмасферу дзевяцігадовай даўніны, з яе наіўнай верай у хуткія перамены і са шчырым энтузіязмам мас. Тут можна падысці да мікрафону і выказаць сваё разуменне еўрапейскага выбару. Часам натоўп перабівае аратара, які спрабуе казаць пра нейкія палітычныя актуаліі. «Без палітыкі, без палітыкі!» — крычаць студэнты, якія складаюць касцяк маніфестантаў.

**Паўтары тысячы студэнтаў, якія збеглі з заняткаў, зрабілі карцінку на тэлебачанні, аднак на Майдане таксама не засталіся. Разбегліся сядзець у сваіх чатах**

Пасля таго, як партыйныя пратэстоўцы з Еўрапейскага Майдану пераехаў на беспартыйны Майдан Незалежнасці, у прэсе пачалі казаць пра пахаванне акцыі. «Партыйная масоўка сваёй арганізаванасцю задушыць анархісцкі энтузіязм «беспартыйцаў», і ўжо заўтра тон на пляцоўцы вакол манумента незалежнасці будуць задаваць партыі. Студэнтам жа застанецца скакаць і крычаць: «Хто не скача, той маскаль!» (вельмі зараз папулярная крычалка). Белым гаспадарам падабаюцца скокі тубыльцаў», — піша адзін з аглядальнікаў.

Менавіта на студэнтаў робіцца галоўная стаўка апазіцыі. Усе памятаюць, што ў кастрычніку 1991-га менавіта студэнты дабіліся адстаўкі ўраду. 26 лістапада ў Кіеве пачалі страйк тры ВНУ — два гуманітарных і эканамічны. Прыкладна паўтары тысячы людзей, якія збеглі з заняткаў, зрабілі карцінку на тэлебачанні, аднак на Майдане таксама не засталіся. Пасля рытуальнага: «Хто не скача, той маскаль!» разбегліся сядзець у сваіх чатах. Левая апазіцыя ў сувязі з гэтым падкрэслівае, што на акцыі няма ніводнага сацыяльнага лозунга. На іх думку, сітуацыя студэнцкай дамінанты ў апазіцыйным руху ў адсутнасці кантактаў з сацыяльным пратэстам можа надоўга закансерваваць існуючы несур'ёзны ў вачах абывацеля моладзевы фармат Майдану.

Сапраўды, цяжка сказаць, наколькі «беспартыйнасць» мае практычны эфект. Вельмі часта спічы выступоўцаў, які гавораць «без палітыкі», дастаткова наіўныя. Па сутнасці, яны пастаянна паўтараюць словы пра тое, як жа файна будзе, калі ўкраінцам не трэба будзе шэнгенская віза, калі ва Украіне будзе еўрапейская судовая сістэма, еўрапейскія пенсіі г. д. Хапае і відавочных вар'ятаў. Напрыклад, адзін з аратараў заклікаў Еўрапейскую камісію прыняць у склад ЕС у якасці асобнай дзяржавы тэрыторыю Майдана і ўдзельнікаў пратэстаў. Што тычыцца моладзі, то яна часта рвецца да мікрафона, выключна для таго, каб кінуць у натоўп той самы лозунг: «Хто не скача, той маскаль!». Пасля гэтага ўся прысутная людская маса пачынае весела скакаць, заражаючы сваім энтузіязмам нават турыстаў з Расіі, якія прыйшлі паглядзець на карнавал.

Рэакцыя ўлады на тыя скокі пакуль вельмі спакойная. Вертыкаль намагаецца імітаваць актыўныя перамовы наконт еўраінтэграцыі, плюс дэманстратыўна падкалвае апазіцыю. 26 лістапада выконваючы абавязкі мэра Кіева наведаў палатачны гарадок на Еўрапейскай плошчы, каб даведацца, ці не патрэбна апазіцыянерам чагосьці. Ну а Януковіч увогуле сказаў, што «апладзіруе тым, хто выйшаў на Еўраймадан».

Відавочна, што ў адміністрацыі Віктара Януковіча жадаюць выйграць час. За апошнія дзевяць гадоў у цэнтры Кіева было безліч акцый пратэстаў: падатковы Майдан, Чарнобыльскі Майдан, «Урадзіеўскі Майдан (Урадзіеўка — вёска на Херсоншчыне, дзе міліцыянты згвалцілі жанчыну, што выклікала агульнанацыянальны пратэст супраць міліцэйскага гвалту), Афганскі Майдан і г.д. Усе яны ў выніку заканчваліся практычна нічым, пакольі грамадства хутка губляла да іх інтарэс. Мяркуючы па ўсім, на Банкаўскай лічаць, што Еўрамайдан хутка ўсім надакучыць і папоўніць калекцыю Майданаў, якія сканфузіліся.

Аднак нават пры такім мінорным для апазіцыі сцэнары, праблема асацыяцыі Украіны з ЕС не здымаецца з палітычнай павесткі. Улада столькі часу дражніла ўкраінцаў еўраморкаўкай, што зняць тэму будзе вельмі цяжка. Прынамсі, пакуль не зразумела, як гэта зрабіць. А апошнія падзеі давялі, што пратэстны рэсурс ва Украіне вельмі моцны.

Хаця займацца прагнозамі на будучыню пакуль рана.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### МІХАІЛ ПРОХАРАЎ



Па ініцыятыве расійскага алігарха, лідара ліберальнай партыі «Грамадзянская платформа» Федэральны грамадзянскі камітэт «Грамадзянскай платформы» (вышэйшы партыйны орган) прагаласаваў за «прынцып рэгулярнай ратацыі кіраўнікоў партыі на рэгіянальным і федэральным узроўнях». Канкрэтны механізм ратацыі не прапісаны, аднак зразумела, што лідарам партыі абмяжоўць тэрмін знаходжання на кіраўнічых пасадах. Рашэнне незвычайнае, паколькі ўсе расійскія партыі маюць выразна персаналісцкі характар. Дастаткова ўзгадаць таго ж Жырыноўскага або Яўлінскага. Акрамя таго, прынятая пастанова значыць, што Прохараў таксама праз нейкі час будзе вымушаны перадаць партыйны штурвал іншаму аднапартыйцу. «Адыход жа ад прынцыпу правадырства, абвешчаны ў «Грамадзянскай платформе», будзе спрыяць з'яўленню ў партыі новых яркіх асобаў», — гаворыцца ў партыйнай заяве. Хаця ёсць і іншы пункт гледжання. Некаторыя кажуць, што Прохараў адмаўляецца ад фармальнага лідарства, паколькі любое з'яўленне на публіцы палітыка-алігарха, у тым ліку ў партыйным асяродку, выклікае рэфлекторнае працягванне рукі з просьбай аб пасільнай дапамозе.

### ІРЫНА ФАРЫЁН



Ірына — адна з лідараў украінскай нацыяналістычнай партыі «Свабода». Мы ўжо пісалі пра скандал, звязаны з яе былым сяброўствам у КПСС. На мінулым тыдні скандал атрымаў самы незвычайны працяг. Па-першае, высвятляліся, што Ірына была адзіным чалавекам у адным з львоўскіх ВНУ, дзе яна працавала, хто ў 1988 годзе вырашыў стаць камуністам. Больш таго, у яе функцыі як сябра партыі ўваходзіла прапаганда сярод студэнтаў марксісцка-ленінскай эстэтыкі і рускай мовы, чым яна і займалася. Інфармацыя пра мінулае аднаго з лідараў «Свабоды» выклікала шок у нацыяналістычным асяродку. Дайшло да таго, што Ірына Фарыён не прайшла фэйсканторль у вядомым львоўскім кафэ «Крыўка», якое аформлена ў стылі бандэраўскага бункера. Па традыцыі, ахоўнік на ўваходзе пытае кліентаў, ці няма сярод іх камуністаў і маскалёў? З Ірынай ахоўніку было і так усё зразумела, і ён яе адразу вырашыў не пускаць. Затое не могуць нарадавацца на гэты скандал камуністы. Паколькі афіцыйна Ірына Фарыён з КПСС, пераемнікам якой ёсць цяперашняя Кампартыя Украіны, не выйшла, камуністы заявілі, што працягваюць лічыць яе аднапартыйцам і патрабуюць, каб яна заплаціла сяброўскі ўнёскі з 1988 года.

### БУРКХАРД ЮНГ

Сацыял-дэмакратычны бургамістр Лейпцыгу і яго муніцыпалітэт выйгралі судовую справу супраць двух грамадзян ФРГ, якія звярнуліся ў патэнтнае бюро з незвычайнай просьбай — выдаць ім манапольнае права на выкарыстанне выразу: «Мы — адзін народ». Гэты выраз моцна звязаны з гісторыяй Лейпцыгу, паколькі пад такім лозунгам тут увосень 1989-га пачаліся масавыя мірныя антыўрадавыя пратэсты, якія справавакалі падобныя дэманстрацыі ў іншых гарадах Усходняй Германіі. У выніку маніфестацыі прывялі да падзення ГДР і аб'яднання Германіі. Не дзіўна, што навіна пра намер прыватызацыі слогана выклікала рашучы пратэст у лейпцыгскай ратушы. Буркхард Юнг і яго каманда адразу звярнуліся ў гаспадарчы суд з адпаведнай скаргай. Тым больш, што аматары прыватызаваць выраз: «Мы — адзін народ» збіраліся выкарыстаць яго ў якасці дэвізу створанай імі «Правай нямецкай партыі» (калі меркаваць па праграме, яна блізкая да неанацыстаў). У выніку нямецкая Феміда стала на бок грамады Лейпцыгу. Прайграўшы бок заявіў, што будзе аспрэчваць судовае рашэнне ў вышэйшых інстанцыях.



▸ СПАДЧЫНА

# МАРЫЛЯ ПЕЦЮКЕВІЧ

Сяргей ЧЫГРЫН

**Сёлета 6 лістапада ў Рыме памерла Марыля Пецюкевіч — дачка вядомага беларускага дзеяча Мар'яна Пецюкевіча (1904–1983). Усё жыццё спадарыня Марыля прысвяціла захаванню і папулярызацыі спадчыны свайго бацькі. За ўласныя грошы яна выдала некалькі яго этнаграфічных кніг, кніг успамінаў і лістоў. Сабрала і захавала багаты матэрыял аб жыцці і дзейнасці Мар'яна Пецюкевіча і яго братоў.**



Мар'ян Пецюкевіч — бацька Марылі Пецюкевіч.1981 г.

Нарадзілася Марыля Пецюкевіч у 1943 годзе ў Вільні. Маленькай зведала ГУЛАГ. Разам з бацькам была рэпрэсаваная ў 1949 годзе. А пасля вызвалення сям'я пераехала ў Польшчу. Пазней Марыля Пецюкевіч выехала ў Рым, дзе пражыла 45 гадоў, да выхаду на пенсію працавала ў Ватыканскім радыё.

Я шмат гадоў сябраваў з Марыляй Пецюкевіч, ліставаўся з ёю, пісаў пра яе бацьку, пра яе дзядзькаў. Яна была вельмі задаволеная, што на Беларусі ведаюць і памятаюць пра Пецюкевічаў. Асобныя артыкулы пра братоў Пецюкевічаў я ўключыў у свае кнігі «З беластоцкай зямлі» (Беласток, 2008) і «Беларуская Беласточчына» (Мінск, 2008).

У 2008 годзе з Марыляй Пецюкевіч я зрабіў інтэрв'ю. У Беларусі яно нідзе не публікавалася. Прапаную гутарку «Новаму часу», а таксама фотаздымкі, якія ў апошні час высылала мне спадарыня Марыля. Гэтыя здымкі з яе вандровак, бо яна любіла з дачкой падарожнічаць па свеце.

***— Спадарыня Марыля, як так склаўся лёс, што вы ў 1960-х гадах з Польшчы трапілі ў Італію, дзе шчасліва пражываеце і сёння?***

— У апошнія гады майго жыцця ў Польшчы я выкладала рускую мову і літаратуру ў старшых класах аднаго з варшаўскіх ліцэяў. У сакавіку 1968 года пачаліся вядомыя ва ўсім свеце масавыя дэманстрацыі пратэсту супраць дыктатуры, фактычна, адзінай партыі ПАРП і палітыкі ўрада, які паставіў Польшчу ў становішча васала СССР. У хваляваннях у асноўным прынялі ўдзел студэнты варшаўскіх ВНУ і інтэлігенцыя. Я вельмі свядома далучылася да супраціўлення, будучы глыбока ўпэўненай у яго неабходнасці. Польшча тады была культурна зняволеная, жыла нібы ва ўдушлівай і смярдзючай турэмнай камеры, нарастаў гнеў і незадаволенасць у розных слаях грамадства. Апошнім штуршком для хваляванняў стала зняцце са сцэны паэмы Адама Міцкевіча «Дзяды» па загаду... савецкага пасла ў Варшаве, які на польскай зямлі адчуваў сябе гаспадаром. Супраць тых, хто пратэставаў, былі пасланыя атрады АМАПу. Я, дарэчы, такіх чалавекападобных малпаў яшчэ ніколі ў жыцці не бачыла. АМАП увайшоў нават на тэрыторыю Варшаўскага ўніверсітэта, пасягнуў на яго імунітэт. Я сама чула, як адзін амапавец збіў варшавяка і казаў: «Вось вам (далей рускі мацюк), інтэлігенцыя, мы зараз вам пакажам...» Але АМАП не набраўся смеласці ўварвацца ў храмы, дзе мы хаваліся ад гумовых дубінак і слёзатачывага газу.

Хачу сказаць і вярнуцца яшчэ да культурнага ўдушша ў тагачаснай Польшчы. На факультэце рускай філалогіі, на якім я вучылася, былі практычна забароненыя такія класікі рускай літаратуры, як Ахматава, Гумілёў, Пастарнак, Мандэльштам, Цвятаева і многія іншыя празаікі і паэты рускай літаратуры, пра якіх нашы няшчасныя выкладчыкі былі вымушаны амаль не згадваць.

***— Ці страшна было вам, маладой дзяўчыне, ісці тады супраць амапаўцаў?***

— У час адной з дэманстрацый мяне збілі і забралі пасведчанне асобы. На другі дзень у школе мае вучні спыталі, што, фактычна, адбываецца ў краіне. Я расказала ім праўду, бо лічу, што сваім падапечным настаўнік маўляваць не мае права. У класе была група дзяцей наменклатуры. Адным словам, на мяне данеслі, а сам дырэктар ліцэя пагразіў аддаць мяне ў рукі «бяспекі». Праз некалькі дзён прыйшла павестка з'явіцца ў злавесны Палац Мастоўскіх. Мяне дапытвалі больш за чатыры гадзіны, але мне ўдалося неяк выкруціцца і пераканаць следчых у маёй прававерпасці. Яны мяне выпусцілі, але сказалі, што ў Варшаве і ў іншых гарадах Польшчы мяне ўжо не прымуць на працу, хіба што толькі ў вёску. З гэтым «воўчым білетам» мне было дазволена адпрацаваць да канца навучальнага года. Таму нічога больш не заставалася рабіць, як паехаць за мяжу. Мае знаёмыя запрасілі мяне ў Італію, а маці адной з маіх вучаніц, якая працавала ў МУС, параіла, каб мне выдалі пашпарт, тым больш, што ў гэтым міністэрстве ў постсакавіцкі перыяд панавала поўная блытаніна. Атрымаўшы пашпарт, 20 ліпеня 1968 года я перасекла італьянскую мяжу, апынуўшыся на волі, пасля 25 гадоў сібірскай ссылкі і жыцця ў Польшчы, прыгнечанай саветамі.

***— І як вас сустрэла Італія?***



Я шмат гадоў сябраваў з Марыляй Пецюкевіч, ліставаўся з ёю, пісаў пра яе бацьку, пра яе дзядзькаў. Яна была вельмі задаволеная, што ў Беларусі ведаюць і памятаюць пра Пецюкевічаў. Гэта інтэрв'ю яшчэ нідзе не публікавалася

— Першыя месяцы ў Рыме былі вельмі цяжкімі, магчыма з-за таго, што я не хацела злоўжываць дадзенай мне гасціннасцю і знайшла сабе працу ў настаўніцы-пенсіянеркі, а таксама давала прыватныя ўрокі рускай мовы. Грошай не было не толькі на харчаванне, але нават і на білеты на гарадскі транспарт. Такім чынам я абыходзіла старажытны Рым пешкі, а апухлыя ад хадзьбы ногі мачыла ў халоднай вадзе фантана.

Праз некалькі месяцаў, зусім выпадкова, а ў мяне ўжо з'явіліся знаёмыя, мне прапанавалі працу ў рускай секцыі Ватыканскага радыё ў якасці перакладчыка, дыктара і памочніка ў апрацоўцы і рэдагаванні матэрыялаў для радыёперадач. Адначасова я паступіла на факультэт сучасных замежных моў і літаратур і пачала збіраць матэрыялы для дыпломнай працы па Восіпу Мандэльштаму, геніяльнаму паэту, які загінуў у 1938 годзе ў чаканні этапу на Калыму. Мне прыйшлося здаць толькі некалькі дадатковых экзаменаў, і сваю дыпломную працу, пад кіраўніцтвам выдатнага славіста прафесара Анджэла Марыі Рыпеліна, я прысвяціла свайму бацьку, таксама былому вязню сталінскіх лагераў і абаранілася ў 1973 годзе, атрымаўшы самую высокую адзнаку.

***— А ці была для вас карыснай праца на рускім радыё Ватыкана?***

— Шчыра скажу, праца на радыё ў значнай ступені пашырыла мае веды ў галіне багаслоўя і паглыбіла веру ў Бога. Я працавала ў асяродку інтэлектуальных і адукаваных людзей. Маю на ўвазе перш за ўсё айцоў-езуітаў. Мой бацька штодзённа слухаў мяне ў Польшчы ў эфіры і быў шчаслівы. Слухалі мяне таксама іншыя сваякі. Двума гадамі пазней я перайшла ў рускую рэдакцыю RAI International, якое перадавала італьянскія навіны на 26 мовах свету. Там я адпрацавала да канца студзеня 2007 года і пасля пайшла на пенсію. За гэты час мне таксама ўдалося выпусціць у свет некалькі кніг майго бацькі Мар'яна Пецюкевіча, аб'ездзіць шмат краін свету, бо люблю падарожнічаць, вырасціць дачку і займацца дабрачыннай дзейнасцю.



Марыля Пецюкевіч з дачкой Анджалікай у пустыні Гобі, 2008

***— Якія кнігі Мар'яна Пецюкевіча вы маеце на ўвазе?***

— Апублікаваныя ўсе кнігі мемуараў майго бацькі. Гэта выданні — «У пошуках зачараваных скарбаў» (Вільня 1998), «Кара за службу народу» (Беласток, 2001), «Трагічныя ніткі лёсу беларускага патрыёта» (Вільня, 2003), дзе змешчана выбарка з пратаколаў допытаў у Лукішскай палітычнай турме ў Вільні ў 1952 годзе і тэкст прысуду да 25 гадоў катаргі. Кнігі «Лісты (1956–1982)» (Беласток, 2005), «Сляды незабыўныя продкаў» (Мінск, 2007) і «Мой дзённік» (Вільня, 2007). Засталася яшчэ неапублікаванай перапіска з пляменнікамі Уладзімірам і Мар'янам — ваеннымі сіротамі, сынамі Генрыха. Мне толькі вядома, што ў этнаграфічным музеі ў Торуні зберагаецца дыпломная праца майго бацькі аб стараверах, напісаная пад кіраўніцтвам вядомага этнографа Казіміра Машыньскага, а таксама манаграфія роднай вёскі бацькі Цяцеркі Браслаўскага раёна, якую ён не паспеў апрацаваць. Некаторыя вучоныя з Беларусі і Польшчы лічаць, што многа матэрыялаў са спадчыны Мар'яна Пецюкевіча яшчэ не апублікавана.

***— Спадарыня Марыля, а ці расказваў вам бацька пра сваіх родных братоў? І наогул, што вы ведаеце пра іх лёс?***

— Так, тата часам успамінаў пра іх, але з вялікай любоўю і павагай, а ў яго голасе чуліся слёзы. Ён сваіх братоў заўсёды аплакваў. З тымі, хто застаўся пасля вайны ў жывых: з братам Баляславам, які быў паранены на вайне, з сястрой Янінай і яе мужам — таксама беларускім патрыётам Ігнатам Данусевічам, — падтрымлівалі цесныя эпістолярныя кантакты, і тата наведваў іх, калі мог, хаця заўсёды былі вялікія праблемы з візай. Мой бацька знайшоў брацкую магілу ў горадзе Ліепая (Латвія), дзе пахаваны мой дзядзька Генрых, які загінуў у канцы снежня 1944 года. Шукаў таксама магілу дзядзькі Уладзіслава. Пасля смерці бацькі я знайшла ў яго дакументах сіні канверт з надпісам: «Зямля з магілы Уладзіслава». Яшчэ пры жыцці бацька мне казаў, што дзядзька Уладзіслаў быў забіты нямецкай куляй у Баранавічах. На месцы могілак там цяпер знаходзіцца гарадскі парк. Яшчэ адзін брат таты — Алёйзы — быў застрэлены немцамі ў Аўгустоўскіх лясах, калі выратаваў бегчы з калоны палонных, якіх гналі з аднаго канцлагера ў другі. Пра гэта мне казаў тата.

***— Ведаю, што браты Пецюкевічы заўсёды былі шчырымі беларусамі...***

— Пацвярджаючы патрыятызм братоў Пецюкевічаў, мой стрыечны брат Мар'ян — кампазітар і выкладчык музыкі, сын Генрыха, напісаў мне наступнае, дазволіўшы спаслацца сёння на яго ліст. Брат напісаў: «Усе браты Пецюкевічы заўсёды і моцна перажывалі за Беларусь. Генрых быў кіраўніком гуртка ў роднай вёсцы Цяцеркі ад «Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры ў Вільні». У дзяцінстве я знайшоў у нашым доме дзве афіцыйныя пячаткі гуртка з надпісам на беларускай мове. На адной было напісана «Бібліятэка імя Францішка Скарыны», а на другой — «Гурток у Цяцерках». Далей Мар'ян пісаў: «Трое братоў Пецюкевічаў загінулі ў жорсткай неразбярыстай вайны. Найбольш ацярожным быў Баляслаў, хаця ён заўсёды заставаўся патрыётам сваёй Бацькаўшчыны. Была патрыёткай і цётка Яніна. Яна мне перадала кнігу Язэпа Найдзюка «Беларусь учора і сёння». Мой сябра яе перапісаў ад рукі і выдаў у 1990-х гадах. Боль за Беларусь быў і застаецца ў нармальных беларусаў».

***— Ці не Баляслаў Пецюкевіч нават быў пасля вайны старшынёй калгаса?***

— Так, пасля вайны дзядзька Баляслаў аднавяскоўцамі быў выбраны ў роднай вёсцы старшынёй калгаса. Людзі ведалі яго як шчырага і прыстойнага чалавека, добрага гаспадара і працаўніка. Але дзядзька Баляслаў не захацеў уступаць у кампартыю, таму яго хутка знялі з пасады старшыні калгаса, і ён з сям'ёй пераехаў жыць у Латвію. Яшчэ хачу дадаць, што браты Пецюкевічы размаўлялі дома толькі па-беларуску, умелі добра пісаць лацінкай і кірыліцай, гралі на розных музычных інструментах. Дзядзька Алёйзы выдатна іграў на старой і дарагой скрыпцы, а цётка Яніна мела цудоўны голас і спявала ў касцельным хоры. Мне, выйшаўшы з такой сям'і па лініі таты Мар'яна Пецюкевіча, застаецца толькі дзякаваць Богу і свята берагчы ў сэрцы памяць пра маіх продкаў.

2008 год

ПРАПАГАНДА

# ЯК САВЕЦКІ «КРАКАДЗІЛ» ПЕРАЙШОЎ МЯЖУ

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**У сакавіку 1921 года ў Рызе была падпісана мірная дамова паміж савецкай Расіяй і Польшчай. Аднак фактычна гэтыя краіны знаходзіліся ў варожых адносінах. Адной з іх галоўных праяў стала прапагандысцкая антыпольская кампанія ў савецкіх сродках масавай інфармацыі.**



«Кракадзіл пераходзіць мяжу». Вокладка 27-га нумару за 1939 год

## Фашысцкая Польшча

У Савецкім Саюзе заходняя краіна-суседка прадстаўлялася як вялікая турма для заходніх беларусаў і ўкраінцаў. Акрамя гэтага, менавіта Польшча разглядалася як асноўны патэнцыйны праціўнік у будучай вайне. Антыпольскія плакаты, малюнкі і артыкулы тады можна было ўбачыць амаль у кожным нумары саюзных і рэспубліканскіх газет. Паводле падлікаў навукоўцаў, у 1920–1930-х гадах Польшча займала 6-е месца па колькасці карыкатур, прысвечаных ёй і апублікаваных у савецкім сатырычным часопісе «Кракадзіл».

У 1931 годзе ў Ленінградзе выйшаў з друку альбом малюнкаў «Карыкатура на службе абароны СССР», аўтарам якога быў славуты савецкі карыкатурыст Барыс Яфімаў. У прадмове да зборніку ёсць такая фраза: «Цвердалобы фашыст, у тым ліку і маньяк, нягледзячы на атрыманы ўрок, які марыць пра Польшчу ад мора да мора, сацыял-дрэнь (с.д.) (маецца на ўвазе сацыял-дэмакрат — І.М.), рымскі папа з яго крыжовым паходам, Чан-Кай-Шы з авантурай на КУЧД, французскія імперыялісты. Таварыш Яфімаў паказвае на банкрутцва іх палітыкі». Дастаецца ў прадмове і «нацыянал-фашысту» Раману Дмоўскаму, а таксама «пілсудчыкам» і іншым «панам».

Што ж тычыцца непасрэдна малюнкаў, то Барыс Яфімаў прысвяціў цэлы раздзел пад назвай «Цуды на Віслe», у якім савецкія грамадзяне маглі знайсці сатырычныя «выявы» шматлікіх польскіх палітычных дзеячаў. Вялікую ўвагу савецкія карыкатурысты надавалі «высмейванню» збліжэння Польшчы з прыбалтыйскімі дзяржавамі, Румыніяй і Францыяй.

Значную працу вяла Вайскова-палітычная акадэмія РСЧА. У 1932 годзе там быў выдадзены зборнік матэрыялаў «Падрыхтоўка Польшчы да вайны з СССР і палітычная апрацоўка ў польскай арміі». У дадзенай працы былі прадстаўленыя перакладзеныя на рускую мову тэксты праграм тагачасных польскіх палітычных партый і матэрыялаў з перыядычнага друку. Вялікая ўвага надавалася таму, як палякі разглядалі праблему нацыянальных меншасцяў (у тым ліку беларусаў і ўкраінцаў), якія пражывалі на ўсходніх ускраінах Другой Рэчы Паспалітай.

Акрамя ўласных прац, супрацоўнікі Акадэміі перакладалі і польскія публікацыі. Адной з такіх была кніга К. Зарэмбы «Што робіцца ў польскім войску», у якой, па меркаванні савецкіх ідэолагаў і прапагандыстаў, даваліся прыклады класавай барацьбы і тэрору «фашысцкага афіцэрства» ў Войску Польскім. Аўтары прадмовы да гэтага выдання (1932 год), у прыватнасці, пісалі: «Ва ўмовах, калі пад нагамі пілсудчыкаў гарыць глеба, калі прамысловы крызіс, пераплятаючыся з аграрным, абвастрыў усе супярэчнасці ў краіне, ва ўмовах нарастання рэвалюцыйнай сітуацыі польскі фашызм павінен асабліва моцна манеўраваць». У працы таксама адзначалася, што ў выпадку вайны з СССР польскае войска будзе прадстаўляць з сябе сур'ёзную сілу, таму гэтага праціўніка спецыялістам Чырвонай Арміі трэба вывучыць не толькі з вайсковага пункту гледжання, але і пад «класавым вуглом».

У міжваеннае дваццацігоддзе ў СССР выдаваліся прапагандысцкія літаратурныя творы, якія павінны былі паказаць савецкім грамадзянам, як цяжка жывецца працоўным і сялянам у «панскай» Польшчы. Напрыклад, у раскaзе «У польскім войску» аўтар акцэнтаваў увагу чытачоў на цяжкім жыцці жаўнераў Войска Польскага падчас польска-бальшавіцкай вайны 1920 года. Лейтматывам апаведу была думка пра тое, што амаль кожны польскі салдат не жадае ваяваць за «паноў» і душой цягнецца да камуністаў. Такога кшталту ідэалагічная апрацоўка савецкага грамадства працягвалася да канца 1930-х гадоў.


Польскі ўрад у Парыжы. З часопіса «Кракадзіл», 1940 год

## Ад слоў да справы

У жніўні 1939 года ўвесь свет з асцярогай назіраў за збліжэннем Масквы і Берліна. Пры ўсёй паслухмянасці савецкага грамадства, яму трэба было растлумачыць, чаму адбываюцца такія метамарфозы ў савецкай палітыцы, і самае галоўнае — супраць каго ўсё гэта робіцца. 7 верасня 1939 года ў часопісе «Прапагандыст і агітатар РСЧА» быў апублікаваны артыкул палкавога камісара М. Восіпава, у якім той адзначаў, што «Чырвоная Армія будзе весці вайну за справу ўсяго прагрэсіўнага чалавецтва супраць эксплуататараў і контррэвалюцыі, а калі будзе патрэба, і папярэдзіць напад агрэсараў». Ідэолаг падкрэсліваў, што СССР будзе весці справядлівую вайну, якая будзе звязана з інтарэсам народа, а таксама выконваць інтэрнацыянальныя задачы. Безумоўна, тут гаворка вялася пра «вызваленчы паход у Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну», што ўжо рыхтаваўся.

У гэты ж час у складзе палявых упраўленняў Беларускага і Украінскага франтоў былі створаны адмысловыя падраздзяленні прапагандыстаў, у складзе якіх было 7 афіцэраў (начальнік і 6 перакладчыкаў). Рэдкалегіі газет пачалі камплектавацца асобамі, якія добра валодалі беларускай і ўкраінскай мовамі. Хутка ў цягнікі-тыпаграфіі былі дастаўлены шрыфты і друкавальная тэхніка. Адразу пасля таго, як часткі РСЧА перайшлі «рыжскую мяжу», гэтыя перасоўныя тыпаграфіі пачалі друкаваць газеты і ўлёткі, адрасаваныя салдатам Войска Польскага і жыхарам усходнепольскіх ваяводстваў. Пры гэтым рабілася стаўка на тое, каб разупэўніць беларусаў і ўкраінцаў у неабходнасці абараняць Польшчу ў вайне супраць Германіі, і тым больш не супрацьстаяць Чырвонай Арміі.

14 верасня 1939 года ў «Праўдзе» быў апублікаваны артыкул Андрэя Жданава «Чаму Польшча церпіць ваенную паразу?», у якім партфункцыянер адной з галоўных прычын сітуацыі, што склалася, называў нацыянальную палітыку польскага ўрада ў адносінах да беларусаў, украінцаў і габрэяў. Пасля публікацыі гэтага матэрыялу ў савецкім перыядычным друку пачалі памнажацца артыкулы і нататкі, у якіх падкрэслівалася штучнасць Польскай дзяржавы. Пазней у «Праўдзе» з'явіўся артыкул «Пра ўнутраныя прычыны вайсковай паразы Польшчы», які стаў сваістым абгрунтаваннем савецкага ўварвання ў Польшчу.

Масава пачалі выдавацца брашуры, у якіх распавядалася пра тое, як «рускія землі» былі захоплены Вялікім Княствам Літоўскім, а затым увайшлі ў склад Польшчы». Успаміналіся і тры падзелы Рэчы Паспалітай, а таксама польска-бальшавіцкая вайна 1920 года. У савецкім перыядычным друку з'яўляецца безліч публікацый, якія распавядалі пра адзінства рускіх, беларусаў і ўкраінцаў, пра адвечную сувязь беларускіх і ўкраінскіх зямель з усходняй суседкай. Усё гэта рабілася дзеля таго, каб у савецкага грамадства склалася ўпэўненасць у неабходнасці «агрэсіі» супраць Другой Рэчы Паспалітай.

У нядзелю, 17 верасня 1939 года, да савецкіх грамадзян звярнуўся наркам замежных спраў Вячаслаў Молатаў і адзначыў, што «СССР працягнуў руку дапамогі беларусам і ўкраінцам, якія насяляюць Польшчу». З першых дзён «вызваленчага паходу» і да кастрычніка 1939 года ў савецкіх перыядычных выданнях кожны дзень друкаваліся справаздачы пра падзеі «на Захадзе». У гэтых матэрыялах жыхары Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны паказваліся «як бедныя і абяздоленыя сяляне і працоўныя» і «падманутыя афіцэрамі салдаты былой польскай арміі».

Не засталіся без працы і савецкія карыкатурысты. №27 часопісу «Кракадзіл», які быў падпісаны ў друк 5 кастрычніка 1939 года, быў цалкам прысвечаны падзеям «вызваленчага паходу». Гэты адмысловы нумар так і называўся — «Кракадзіл пераходзіць мяжу». На старонках часопісу карыкатурысты Ю. Ганф, Н. Радлаў, Д. Дубінскі, Д. Моор «прайшліся» і па Войску Польскім, і па панах і афіцэрах, і па ксяндзах і святарах. Акрамя перыядычных выданняў важную ролю адыгрываў і кінематограф. Адразу пасля заканчэння «рэвалюцыйнай вайны» (як называўся вызваленчы паход у Польшчу ў шэрагу савецкіх дакументаў — І.М.) у СССР стваараецца маса антыпольскіх кінафільмаў («Мінін і Пажарскі», «Першая Конная» і інш.).

Карыкатуры і артыкулы працягвалі з'яўляцца на старонках савецкай перыёдыкі ў 1940 і 1941 гадах. У СССР смяяліся з польскага эміграцкага ўрада і падкрэслівалі неправажнасць Чырвонай Арміі.



МУЗЫКА

## «ПЕРШАПАЧАТАК» — ДА ЮБІЛЕЮ СБП

Віка ТРЭНАС

**27 лістапада ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь адбылася прэзентацыя календара і ўрачыстае адкрыццё фотавыставы «Першапачатак», прымеркаванай да 80-годдзя Саюза беларускіх пісьменнікаў.**

«Наступны год, — адзначыў у сваім вітальным слове старшыня СБП, галоўны рэдактар часопіса «Дзеяслоў» Барыс Пятровіч, — стане для ўсіх беларускіх пісьменнікаў і чытачоў юбілейным. У чэрвені 1934 года адбыўся I з'езд Саюза пісьменнікаў, і сённяшняя выстава, а таксама выхад календара «Першапачатак» распачынаюць святкаванне гэтай значнай падзеі».

Ірына Хадарэнка распавяла пра канцэпцыю праекта. «У назву «Першапачатак», — сказала яна, — укладзеная пераемнасць пакаленняў, даніна павагі нашым папярэднікам. У міфалагічных вобразах зашыфраваны код нацыі, таму яны абраныя невыпадкова».

Сваімі ўражаннямі ад календара «Першапачатак» падзяліліся Генадзь Бураўкін, Анатоль Вярцінскі, Антаніна Хатэнка, Аксана Спрынчан, Аксана Данільчык. «Лесавік» Леанід Дранько-Майсюк і «лазнік» Міхась Скобла прачыталі ўласныя вершы і расказалі пра вобразы, якія яны ўвасаблялі ў календары.

Фотавыстава «Першапачатак» і экспазіцыя да юбілею СБП у Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь (вул. К. Маркса, 12) прымаюць наведнікаў з 21 лістапада да 8 снежня. Уваход па квітках у музей, які працуе штодзень з 11.00 да 19.00. Тэл. для даведак па выставе: 327 43 22, 327 00 05.

ЛІСТ У НУМАР

# «БУДЗЕМ ВЕДАЦЬ, ШТО ТАМ БУДЗЕ…»

Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ

**Перада мной артыкул 4 Закона РБ «Аб сродках масавай інфармацыі», які вызначае асноўныя прынцыпы дзейнасці СМІ.**

Сярод іх наступныя (у адвольным парадку): праўдзівасць інфармацыі; роўнасць — сродкі масавай інфармацыі зыходзяць з роўнасці правоў усіх фізічных асоб, дзяржаўных органаў, палітычных партый, другіх грамадскіх аб'яднанняў, іншых юрыдычных асоб на распаўсюджванне і атрыманне масавай інфармацыі; павага да правоў і свабод чалавека; шматстайнасць меркаванняў; абарона маралі; захаванне нормаў прафесійнай этыкі журналістаў і маралі і іншыя.

Тут няма пункта, які не б парушаўся дзяржаўнымі СМІ штодня і штохвілінна. 24 лістапада па 1 канале БТ у вечаровых навінах паказвалі сюжэт пра «Белую Русь» і яе далёкія намеры стаць праўладнай партыяй. Пра іншыя партыі і рухі ўзгадвання не было, як быццам гэтае ўтварэнне — адзінае на грамадскім полі Беларусі. І якая тут роўнасць? Каго з кім? А хіба не парушаюцца правы літаратараў — сяброў «старога» Саюза беларускіх пісьменнікаў, якіх не дапускаюць да экранаў, мікрафонаў і дзяржаўных культурніцкіх выданняў?

Даўно няма ілюзій і наконт праўдзівасці СМІ. Пакараныя генералы, якія публічна абвяргалі факт раскідання шведскіх мядзведзікаў па нашай тэрыторыі, але сухімі з вады выйшлі распаўсюднікі хлусні. Акрамя таго, ёсць такі від маніпулявання грамадскай свядомасцю, як утойванне інфармацыі. Пра расследаванне спраў зніклых, пра зняволенне і лёс былых кандыдатаў у прэзідэнты і іншых палітычных вязняў, пра дзейнасць партый, масавыя акцыі, лакальныя страйкі нельга пачуць у афіцыйных навінах і прачытаць у газетах тыпу «СБ».

Мы не раз бачылі інтэрв'ю «на вуліцах» з жыхарамі Мінска. Ніякай іншай думкі, акрамя адзіна правільнай, там звычайна не выказваецца.

Далёка ад маралі знаходзіцца ўцягванне гледачоў у гульнёвую залежнасць з дапамогай шматлікіх спортлато і іншых грашовых гульняў. Гэткім жа парушэннем маралі і прафесійнай прыстойнасці з'яўляецца «Клуб рэдактараў», дзе ўдзельнікі нагадваюць заложнікаў, прыкаваных да крэслаў і змушаных пад прыцэлам гаварыць тое, што патрэбна кіраўніку Белтэлерадыёкампаніі Генадзю Давыдзьку.

За паўгода да пенсійнага ўзросту быў звольнены без тлумачэнняў галоўны рэдактар беларускамоўнай газеты «Звязда», якая, відаць, недастаткова шальмавала сваіх чытачоў і не цуралася вострых пытанняў сучаснага жыцця.

Негалосна забароненыя да ўзгадвання ў дзяржаўнай прэсе такія словы і паняцці, як «палітыка», «дэмакратыя», «партыі», «грамадзянская супольнасць», «парушэнне законаў», «незалежны суд» і многія іншыя. У чорным святле паказваюцца слабасці і недахопы эканомік суседніх народаў — Польшчы, Украіны, Расіі. Паслядоўна дэманізуюцца Злучаныя Штаты. У залежнасці ад стасункаў з Еўропай пра яе то маўчаць, то таксама пакусваюць. Беларускія дзяржаўныя СМІ з поўным правам можна назваць сродкамі масавай дэзінфармацыі, якія цярплівы народ аплачвае з уласнай кішэні. Чаму ж мы, тым не менш, ведаем асноўныя падзеі ў нашай краіне, як бы ні хацелі іх ад нас прыхаваць?

Праўдзівая інфармацыя прыходзіць рознымі шляхамі: праз інтэрнэт і альтэрнатыўную прэсу, прызнанні і прагаворкі ўладу маючых, ад знаёмых і сяброў, гаворкі ў транспарце… А ёсць яшчэ такая цікавая рэч, як чуткі.

Чуткі ўсюдыісныя. Яны прасочваюцца ў тоўшчу насельніцтва, як вада ў склеп, лётаюць у паветры, як вірусы падчас грыпу. Для іх не існуе межаў і перашкод. Асноўнае месцазнаходжанне чутак — у калектыўным падсвядомым (па Юнгу) альбо ў наасферы (па Вернадскім). Гэта асколкі, пазлы інфармацыі, якую хаваюць ад горача любімага народа за сямю замкамі. Як яны збіраюцца-складваюцца, залятаюць у бліжэйшыя галовы ці «счытваюцца» чыёйсьці інтуіцыяй — тайна вялікая ёсць.

Я прывяду прыклад адной з такіх чутак, што аднекуль прасачылася і цыркулюе сярод эканамістаў. Праз Лідзію Ярмошыну, як вядома, запушчана «качка» наконт будучых прэзідэнцкіх выбараў у жніўні 2015 года. Паводле неправеранай інфармацыі (геніяльная назва для чутак і звестак, што прасачыліся зверху), выбары насамрэч запланаваны на лістапад 2014 года. А ў снежні наступнага года адбудзецца планавая дэвальвацыя беларускага рубля — разам з дэнамінацыяй. Лішнія нулі скасуюць, рубель будзе прыроўнены да расійскага. Гэта значыць адзін долар — 30 беларускіх рублёў.

Новыя надрукаваныя грошы, пра якія даўно пагаворваюць, наўрад ці будуць чакаць амаль два гады да выбараў. Эканоміка ў такім стане, як ёсць, таксама столькі не пратрымаецца. Так што будзем рыхтавацца да змен хто як можа: хто запасацца цукрам і крупамі, хто валюту набываць з пенсіі, хто крадзенае пераводзіць у замежныя банкі…

Ад стрэсаў ратуюцца толькі дзеяннем. «Будзем ведаць, што там будзе…», як пісаў паэт.




Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл.: 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1-1234.
Тэл.: +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81
novychas@gmail.com; www.novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 1475

Падпісана да друку 29.11.2013. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.